# Летапіс ТБМ




# 1989 - 2009

# ЛЕТАПІС

## дзейнасці Грамадскага аб’яднання “Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны”

# 1989 - 2009

Ліда
2009

Інфармацыйна - даведачнае выданне.

**Летапіс дзейнасці Грамадскага аб’яднання “Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны”. 1989 - 2009.**

Сабраны Сакратарыятам ТБМ і рэдакцыяй газеты “Наша слова” паводле звестак, знойдзеных у СМІ, у архівах арганізацый Таварыства, у пратаколах з’ездаў, радаў і сакратарыятаў. Утрымлівае інфармацыю пра дзейнасць ТБМ за перыяд -- ад Устаноўчага з’езду 27 чэрвеня 1989 года да 31 жніўня 2009 года. — Мн., 2009. 164 с. + 36 с. ілюстрацый. Размножана на правах рукапісу.

Укладальнікі: С. Багданкевіч, Т. Вабішчэвіч, Ю. Карчагіна, І. Марачкіна, С. Суднік, А. Трусаў, Дз. Тушынскі.

Рэдактар: Алег Трусаў.
Тэхнічны рэдактар: Станіслаў Суднік.
Карэктар: Тацянаа Вабішэвіч.

Папера афсетная. Фармат А-5. Гарнітура “Таймс”.
Наклад 299 асобнікаў.

***“Летапіс дзейнасці Грамадскага аб’яднання “Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны”. 1989 - 2009” -*** *гэта фактычна 2-е выданне “Летапісу ТБМ”. Першая спроба такога выдання была зроблена да 15-годдзя Таварыства. Дадзенае выданне дапоўнена кронікай асноўных мерапрыемстваў, акцый і ініцыятыў, якія ажыццяўляліся ТБМ і сяброўскімі арганізацыямі ў 2005 - 2009 гадах. У кроніку першых 15 гадоў таксама ўнесены некаторыя дапаўненні і папраўкі.*

*Асноўнымі крыніцамі для складання “Летапісу...” зноў служылі сродкі масавай інфармацыі і ў першую чаргу газета “Наша слова”. Таму пераважная большасць падзей, пра якія пісала газета, знайшла сваё адлюстраванне ў “Летапісе...”. Выкарыстоўваліся таксама газета “Новы час”, стужка навінаў БелаПАН, інтэрнэт-сайты СМІ і грамадскіх арганізацый. Выкарыстоўвалася інфармацыя, прадстаўленая кіраўнікамі арганізацыі ТБМ з месцаў.*

*Безумоўна, і на гэты раз не ўдалося цалкам адлюстраваць усю дзейнасць ТБМ. Не так проста ўлажыць у кароткія радкі кронікі штодзённую дзейнасць кожнай арганізацыі і кожнага сябра Таварыства. Нельга адлюстраваць уплыў Таварыства на беларускае грамадства або яго аўтарытэт у краіне. Але зусім*

*відавочна, што тое падсумаванне дзейнасці ТБМ за 20 гадоў, якое ўдалося зрабіць у “Летапісе...” павінна мець значную карысць для наступнага планавання і ажыццяўлення новых мерапрыемстваў. З дапамогай “Летапісу...” кожны кіраўнік арганізацыі, кожны сябар ТБМ можа дастаткова лёгка з’арыентавацца ў агульнай сітуацыі, якая складваецца з беларускай мовай у краіне, разабрацца, якія ініцыятывы і мерапрыемствы ТБМ мелі станоўчыя наступствы, якія праваліліся з-за недахопу сілаў, што можна і пажадана зрабіць у кожным сектары грамадскага жыцця, што можа зрабіць канкрэтная арганізацыя, што можа зрабіць кожны шараговы сябар арганізацыі.*

*Ясна, што “Летапісам...” мы падводзім даволі выразную рысу пад 20-гадовай гісторыяй змагання за мову. Так гэтыя 20 гадоў -- ужо гісторыя. Але яны -- і тая платформа, адштурхнуўшыся ад якой, ТБМ пойдзе далей.*

*Трэба адзначыць, што ТБМ -- першая грамадская арганізацыя ў сённяшняй Беларусі, якая здолела зрабіць свой дваццацігадовы жыццяпіс. Мы спадзяёмся, што гэта зробяць і іншыя дэмакратычныя партыі, рухі, грамадскія суполкі, аб’яднанні і прафсаюзы.*

# 1989 год

**27 чэрвеня.** У г. Менску адбыўся **Ўстаноўчы з’езд Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны.**

На з’ездзе былі зацверджаны Статут Таварыства, абраны яго кіраўнічыя органы – Рэспубліканская рада ТБМ (27 чалавек), Сакратарыят Рады (13 чалавек, старшыня Н. Гілевіч, намеснік А.Падлужны, П. Садоўскі, Я. Цумараў) і Рэвізійная камісія (9 чалавек, старшыня М. Кійка).

Былі створаны камісіі ТБМ, арганізацыйна-прапагандысцкая (узначаліў Я. Цумараў), адукацыйная (П. Садоўскі), тэрміналагічная (У. Арлоў), па ўдасканаленні прававісу (Г. Цыхун), па культуры мовы (А. Клышка), па моўных скарбах (Я. Саламевіч), па зрокавым і гукавым афармленні жыццёвага асяроддзя (М. Купава), па сувязях з суайчыннікамі за межамі рэспублікі (Б. Сачанка), па тапанімцы (Л.Лыч), выдавецкая (Зм. Санько).

З’езд звярнуўся з хадайніцтвам да Вярхоўнага Савета БССР аб неадкладным наданні беларускай мове ў рэспубліцы статусу дзяржаўнай.

Зборнік матэрыялаў з’езду (даклады і выступленні, пастанова, спіс дэлегатаў, склад кіраўнічых органаў і камісій ТБМ) у 1992 г. выйшаў у свет у выдавецтве “Навука і тэхніка”.

З’езд прыняў “Зварот да грамадзян Беларускай ССР, да беларусаў, якія жывуць за межамі рэспублікі, да ўсіх прыхільнікаў беларускага слова”, дзе, у прыватнасці, адзначалася: *“Дарагія сябры! Уступайце ў Таварыства беларускай мовы імя Францішка*

*Скарыны. Усюды стварайце яго суполкі – у гарадах і вёсках, на заводах і фабрыках, ва ўстановах і арганізацыях, у школах і вучылішчах, тэхнікумах і ВНУ! Растлумачвайце ўсім мэты і задачы Таварыства... Няхай жыве і квітнее беларуская мова!”*

**РЭСПУБЛІКАНСКАЯ РАДА ТБМ**
**ІМЯ ФРАНЦІШКА СКАРЫНЫ,**
**абраная на Устаноўчым з’ездзе**

1. Белакоз Алесь, Мастоўскі р-н
2. Брыль Янка, Менск
3. Бураўкін Генадзь, Менск
4. Бутэвіч Анатоль, Менск
5. Вайтовіч Яўген, Менск
6. Васілёнак Мікола, Менск
7. Васьковіч Уладзімір, Менск
8. Вітушка Сяргей, Менск
9. Вячорка Вінцук, Менск
10. Гайдук Мікола, Беласток
11. Гарэцкі Радзім, Менск
12. Гілевіч Ніл, Старшыня ТБМ, Менск
13. Грыцкевіч Анатоль, Менск
14. Дамашэвіч Уладзімр, Менск
15. Дзямчук Міхась, Менск
16. Законнікаў Сергей, Менск
17. Калеснік Уладзімір, Берасце
18. Каўка Аляксей, Масква
19. Клімуць Яраслаў, Магілёў
20. Клышка Анатоль, Менск
21. Краўчанка Пётра, Менск
22. Кузьміч Вольга, Менск
23. Куліцкі Алег, Менск
24. Купава Мікола, Менск
25. Лойка Алег, Менск
26. Лыч Леанід, Менск
27. Ляшковіч Вячаслаў, Маладзечна
28. Мальдзіс Адам, Менск
29. Маслюк Валер, Менск
30. Міхноўскі Мікола, Менск
31. Навумчык Іосіф, Віцебск
32. Нерад Ніна, Менск
33. Нічыпаровіч Station

34. Падлужны Аляксандр, Менск
35. Паўлаў Міхась, Віцебск
36. Плыгаўка Лілея, Баранавічы
37. Прашковіч Лідзія, Мазыр
38. Прыма Галіна, Менск
39. Пятрэнка Мікола, Полацк
40. Раманцэвіч Валянціна, Менск
41. Садоўскі Пётра, Менск
42. Санько Зміцер, Менск
43. Саўчык Аляксей, Гародня
44. Сачанка Барыс, Менск
45. Содаль Уладзімір, Менск
46. Тарасюк Любоў, Менск
47. Тумаш Генадзь, Менск
48. Тычка Галіна, Менск
49. Фядосік Анатоль, Менск
50. Хадоркін Міхась, Гомель
51. Хілько Мікола, Слуцк
52. Цумараў Яўген, Менск
53. Цыхун Генадзь, Менск
54. Шаранговіч Васіль, Менск
55. Штэйнер Іван, Гомель
56. Шушкевіч Уладзімір, Лепель
57. Шыдлоўскі Адам, Менск
58. Янкоўскі Фёдар, Менск

**Ліпень**

У г. Прыазёрску (Казахстан) мясцоваму беларускаму зямляцтву нададзены статус Прыазёрскай гарадской арганізацыі ТБМ імя Ф. Скарыны начале з Прыазёрскай гарадской радай ТБМ імя Ф. Скарыны, старшыня рады -- Станіслаў Суднік.

**28 верасня.** Прэзідыумам Вярхоўнага Савета быў зарэгістраваны Статут ТБМ. Таварыства набыло юрыдычны статус.

Адбылася ўстаноўчая канферэнцыя Маскоўскай раённай рады ТБМ г. Менска, на якой было абрана Праўленне з 6 чалавек: Віктар Навуменка (старшыня Рады), Уладзімір Лобач (намеснік старшыні), Валянціна Бурмака, Яўген Лаўрэль, Алесь Нікалайчанка, Мікола Мішчанчук.

**Верасень**

Сябры Прыазёрскай гарадской арганізацыі ТБМ (Казахстан)

сабралі 21 подпіс за дзяржаўнасць беларускай мовы і накіравалі ліст з гэтымі подпісамі на адрас Вярхоўнага Савета БССР. Ліст быў уключаны ў даклад Ніны Мазай на 14-й сесіі Вярхоўнага Савета БССР.

**1 снежня.** Прайшла ўстаноўчая канферэнцыя Гарадзенскага гарадскога аддзялення Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны. Старшынём абраны А.М. Пяткевіч.

На канферэнцыю было абрана 590 дэлегатаў. З уступным словам да прысутных звярнуўся старшыня гарвыканкама Віктар Кудравец. Выступы мелі дырэктар СШ № 26 В.Шаўцоў, загадчык аддзела культуры гарвыканкама І.Кліменка, дэкан філалагічнага факультэта ГрДУ імя Янкі Купалы Т. Тамашэвіч, метадыст Інстытута ўдасканалення настаўнікаў А. Будзько – усяго 12 дэлегатаў.

**16 снежня.** У г. Лідзе прайшла ўстаноўчая канферэнцыя ТБМ імя Францішка Скарыны, на якой утворана Лідская гарадская арганізацыя ТБМ. Абрана рада ў складзе 17 чалавек, першым старшынём Лідскай гарадской рады ТБМ імя Ф. Скарыны абраны Міхась Мельнік.

**19 снежня.** Была створана Магілёўская гарадская арганізацыя ТБМ. Яе старшынём абраны Яраслаў Клімуць.

# 1990 год

**29 студзеня.** Чатырнаццатая сесія Вярхоўнага Савету прыняла закон “Аб мовах ў Беларускай ССР”, у другім артыкуле якога гаворыцца: ***“Дзяржаўнай мовай з’яўляецца беларуская мова”***. Закон таксама прадугледжвае, што беларуская мова з’яўляецца афіцыйнай мовай органаў дзяржаўнай улады і кіравання, справаводства і дакументацыі, мовай выхавання і адукацыі, мовай тапонімаў і іншых назваў.

Закон адразу пасля яго прыняцця выпушчаны ў свет масавым накладам менскім выдавецтвам “Беларусь”.

**Сакавік**

Выйшаў з друку першы нумар бюлетэня ТБМ імя Ф.Скарыны “Наша слова” -- выдання безганарарнага, штомесячнага. Наклад нумара складаў 6500 паасобнікаў. Старшынём рэдакцыйнай калегіі бюлетэня быў Н. Гілевіч, сябрамі рэдкалегіі Я. Брыль, У. Дамашэвіч,

А. Камароўскі, А. Клышка, І. Лапцёнак, Г. Мацур, Зм. Санько, М.Супрановіч, А. Траяноўскі, Г. Тумаш, Я. Цумараў, Г. Цыхун.

**11-12 траўня.** У сталічным Доме літаратара праходзіла навукова-практычная канферэнцыя "Дзяржаўнасць беларускай мовы: праблемы і шляхі ажыццяўлення", падрыхтаваная Рэспубліканскай Радай ТБМ сумесна з Міністэрствам народнай адукацыі БССР. Мэта канферэнцыі – садзейнічаць камісіі Саўміна ў распрацоўцы праграмы ажыццяўлення ў рэспубліцы Закона "Аб мовах".

Удзельнікі прынялі зварот да народных дэпутатаў БССР, які заканчваўся так: *"Мы верым, што ў Вас хопіць дзяржаўнай мудрасці, каб зрабіць Беларусь суверэннай дзяржавай не толькі на паперы, але і фактычна, каб яна вызначалася... і сваёю дзяржаўнаю мовай".*

**Жнівень**

Выйшаў у свет шосты нумар бюлетэня ТБМ "Наша слова", амаль цалкам прысвечаны 500-годдзю з дня нараджэння Францішка Скарыны.

Накладам 10 тысяч паасобнікаў выдадзены першы нумар часопіса "Унія". Выдавец – аднайменная моладзевая суполка, зарэгістраваная як калектыўная сябрына ТБМ імя Ф. Скарыны.

Камісія Вярхоўнага Савета БССР па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны, якую ўзначальваў Ніл Гілевіч, звярнулася са зваротам да грамадзянаў краіны з заклікам аддаваць сваіх дзяцей у беларускамоўныя класы.

У г. Прыазёрску ў Казахстане выйшаў першы нумар газеты "Рокаш" (другое пасля "Нашага слова" выданне ТБМ), якую выдавала мясцовая арганізацыя ТБМ. Першая рэдкалегія: падпалкоўнік Станіслаў Суднік, капітан Ігар Супаненка, сяржант Вячаслаў Лычак (украінец), шараговец Ібраім Сейтасманаў (татарын з Узбекістана), кампутарнае забеспячэнне маёра Фелікса Хузяханава (татарын з Таджыкістана) і капітана Аляксандра Сінюкова (рускі з Украіны).

**Верасень**

Бюлетэнь ТБМ імя Францішка Скарыны "Наша слова" для афармлення падпіскі ўключаны ў каталог перыядычных выданняў СССР пад індэксам 74975.

У г. Прыазёрску ў Казахстане адкрыта першая за межамі Беларусі беларуская нядзельная школа. Школу адкрыла мясцовая арганізацыя ТБМ, першыя выкладчыкі падпалкоўнік Станіслаў Суднік, капітан Ігар Супаненка.

**У 1990 годзе**

Лёзненская раённая арганізацыя ТБМ (старшыня Галіна Варатынская) рыхтуе ў мясцовай газеце "Патрыёт" старонку "Неруш", дзе асвятляе дзейнасць грамадскага аб'яднання.

# 1991 год

**Студзень**

Накладам 8 тыс. паасобнікаў выйшаў з друку першы (адзінаццаты) нумар "Нашага слова", які істотна адрозніваўся ад сваіх папярэднікаў. Матэрыялы пачалі падавацца сістэматызавана. З'явіліся сталыя рубрыкі "Рэха", "З лякарні спадара Алеся". У праграмным звароце да чытачоў новага рэдактара Э. Ялугіна гаварылася: *"У хуткім часе "Наша слова" пачне выходзіць часцей. З безганарарнага бюлетэня яно пераўтвараецца ў паўнацэнны штотыднёвік са штатнымі літаратурнымі супрацоўнікамі"*.

Часопіс "Беларуская мова і літаратура ў школе" адкрыў дыскусію аб правапісе.

**12 лютага.** Савет Міністраў БССР прыняў спецыяльную пастанову (№ 56), накіраваную на пашырэнне дзейнасці ТБМ імя Ф. Скарыны. Пастанова абавязвала выканкамы, міністэрствы і ведамствы рэспублікі аказваць дапамогу Таварыству ў стварэнні на месцах сваіх новых арганізацый. ТБМ атрымала права мець уласныя прадпрыемствы, якія выпускаюць сувенірную прадукцыю і вырабы культурна-бытавога прызначэння, сродкам масавай інфармацыі Беларусі даручалася прапаганда дзейнасці Таварыства.

**Сакавік**

З трэцяга (трынаццатага) нумара (6-12 сакавіка) "Наша слова" стала штотыднёвікам. На Ленінскім праспекце (цяпер праспект Незалежнасці) у Менску пачаў працаваць кіёск ТБМ.

**Красавік**

У "Нашам слове" № 7 за 3 – 9 красавіка 1991 г. апублікаваны палемічны артыкул Уладзіміра Ламекі "Тарашкевіца"? "Наркомаўка"? "Скарыніца"?..."

Сакратарыят ТБМ арганізаваў бясплатныя двухмесячныя курсы па інтэнсіўным авалодванні беларускай мовай.

Коштам ТБМ імя Францішка Скарыны перавыдадзены

“Расійска - Крыўскі (беларускі) слоўнік” В. Ластоўскага, які ўпершыню ўбачыў свет у 1924 г. Наклад перавыдання 10 тыс. паасобнікаў.

**16 траўня.** Пад старшынствам А. Лозкі і М. Біча адбылася нарада ТБМ Акадэміі навук “Пытанні рэформы беларускага правапісу”, на якой выступілі С. Запрудскі, Я. Войніч, Зм. Санько, В. Вячорка, Г. Цыхун, А. Яскевіч, Я. Стэпановіч. Акрамя супрацоўнікаў Акадэміі навук на нарадзе прысутнічалі прадстаўнікі БДУ, Менскага педінстытута, Менскага інстытута замежных моў. Пастанова нарады апублікавана ў газеце “Чырвоная змена” (нумар за 3 – 9 чэрвеня 1991 г.). Расповяд пра нараду старшыні ТБМ Акадэміі навук А. Лозкі 24 траўня апублікавала газета “Звязда”.

**28 траўня.** У “Народнай газеце” апублікаваны артыкул Г.Цыхуна “На адных прынцыпах”.

**Травень**

У “Нашым слове” № 12 апублікаваны зварот Рэспубліканскай Рады ТБМ да народных дэпутатаў рэспублікі ўсіх узроўняў, да ўсіх грамадзянаў Беларускай ССР, да прыхільнікаў беларусага слова “Каб людзьмі звацца!”. У дакуменце звернута ўвага, што аснова культуры нашага народа – нацыянальная мова – знаходзіцца ў небяспецы, бо артыкулы і палажэнні нядаўна прынятага Закона “Аб мовах” чыноўніцтвам па-ранейшаму ігнаруюцца.

На канец траўня ў Сакратарыяце ТБМ імя Ф. Скарыны былі зарэгістраваны наступныя рэгіянальныя арганізацыі Таварыства: па Магілёўскай вобласці – 8 раённых і гарадскіх рад, па Менскай – 17, па Гомельскай – 6, па Гарадзенскай – 11, па Берасцейскай – 7, па Віцебскай – 12, у г. Менску – 9 раённых рад і 6 асобных арганізацый, што маюць правы раённых, а таксама 19 калектыўных сябрын.

**3 чэрвеня.** Пачала працу правапісная камісія ТБМ (працавала па 5 лістапада 1992 г.) у наступным складзе: Г. Цыхун (старшыня), С. Запрудскі (сакратар), В. Вячорка, А. Сакалоўская, М. Лычкоўская, А. Падлужны, А. Яскевіч, Зм. Санько, С. Санько, Я. Войніч (усе – Менск), С. Нефідовіч (Лунінецкі раён). На асобных паседжаннях камісіі прысутнічалі таксама В. Мароз (Бярэсце), З. Сіцька, І. Саверчанка, А. Надсан (Лондан). У № 43 “Нашага слова” за 1991 г. быў надрукаваны рэпартаж з другога паседжання камісіі. У № 6 “Нашага слова” за 1992 г. была надрукавана падрыхтаваная камісіяй анкета “Якім быць правапісу”. У № 19 “Нашага слова” ад 13 траўня 1992 г. была надрукавана кароткая інфармацыя аб 12-ці паседжаннях камісіі,

а таксама апублікаваны фрагменты лістоў, дасланых у камісію пасля публікацыі анкеты. Камісія правяла 27 паседжанняў і вынесла на абмеркаванне III з’езду ТБМ “Рэкамендацыі па ўдасканаленні правапісу беларускай мовы” (апублікаваны ў № 15 “Нашага слова” 14 красавіка 1993 г.). Адзін з членаў камісіі, А. Падлужны, у № 27 “Нашага слова” за 1993 г. апублікаваў свае заўвагі з нагоды “Рэкамендацый...” правапіснай камісіі ТБМ. “Рэкамендацыі...” пазней былі выкарыстаны ў працы (створана ў жніўні 1993 г.) Дзяржаўнай камісіі па ўдакладненні правапісу беларускай літаратурнай мовы. (Апублікаваны ў студзені 1994 г. “Выніковы дакумент Дзяржаўнай камісіі” у 8-мі з 12-ці пунктаў паўтараў “Рэкамендацыі...” правапіснай камісіі.).

**14-15 чэрвеня.** У г. Менску адбыўся **II з’езд** Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны. Лейтматывам большасці выступленняў, што прагучалі з трыбуны, стала неабходнасць еднасці і паразумення ўсіх патрыётаў Бацькаўшчыны. Слова бралі звыш 40 чалавек, якія прадстаўлялі ўсе беларускія рэгіёны і суайчыннікаў за межамі рэспублікі. З’езд прыняў рэзалюцыю “Да пытання пра Саюзны дагавор”, дзе выказаўся за трывалыя пазіцыі беларускай мовы, як дзяржаўнай на тэрыторыі Беларусі, за неабходнасць паслядоўнага выканання прынятага Закона “Аб мовах”. Старшынём ТБМ зноў выбраны Н. Гілевіч.

Адным з пунктаў парадку дня з’езду была рэформа правапісу. На тэму правапісу на з’ездзе выказаліся Г. Цыхун, С. Запрудскі і інш. Была прынята пастанова “Да пытання аб рэформе правапісу” (згодна з ёй патрэбна было “вярнуць беларускай літаратурнай мове яе нацыянальнае аблічча”), правапіснай камісіі ТБМ было даручана падрыхтаваць арфаграфічны праект.

Адразу пасля з’езду паўсюдна ў рэспубліцы разгарнулася работа па стварэнні суполак і мясцовых арганізацый ТБМ. Ужо 29 сакавіка 1990 г. у Сакратарыяце Таварыства былі зарэгістраваны па Берасцейскай вобласці – 6 раённых і гарадскіх рад ТБМ, па Віцебскай – 7, па Гомельскай – 4, па Гарадзенскай – 8, па Магілёўскай – 5, па Менскай – 11, у г. Менску – 11. Сябрамі ТБМ імя Ф. Скарыны сталі 13 народных дэпутатаў Вярхоўнага Савету БССР і некалькі дзесяткаў народных дэпутатаў мясцовых саветаў усіх узроўняў.

**РЭСПУБЛІКАНСКАЯ РАДА ТБМ
ІМЯ ФРАНЦІШКА СКАРЫНЫ,
абраная на II з’ездзе**

1. Аношкін Іван, Магілёў

2. Баграновіч Алесь, Менск
3. Балахоўская Галіна, Слуцкі раён
4. Баршчэўскі Алесь, Варшава
5. Белакоз Алесь, Мастоўскі раён
6. Белы Анатоль, Менск
7. Брыль Янка, Менск
8. Брычкоўскі Леанід, Менск
9. Бутэвіч Анатоль, Менск
10. Вабішчэвіч Віктар, Давыд-Гарадок
11. Вайтовіч Яўген, Менск
12. Вяроўкін Уладзіслаў, Менск
13. Вячорка Вінцук, Менск
14. Гарэцкі Радзім, Менск
15. Геніюш Руслан, Слонім
16. Гілевіч Ніл, Менск
17. Грыцкевіч Анатоль, Менск
18. Грудзінскі Мікалай, Беразіно
19. Дзямчук Міхась, Менск
20. Дубелька Васіль, Масты
21. Жамойцін Алесь, Смаргонь
22. Жарскі Іван, Менск
23. Законнікаў Сяргей, Менск
24. Калеснік Уладзімір, Берасце
25. Каўка Аляксей, Масква
26.Клімуць Яраслаў, Магілёў
27. Клышка Анатоль, Менск
28. Кніга Уладзімір, Мазыр
29. Краўчанка Пётр, Менск
30. Кузьміч Вольга. Менск
31. Куліцкі Алег, Менск
32. Лазар Віктар, Радашковічы
33. Ламека Уладзімір, Менск
34. Ліпень Лявон, Менск
35. Лозка Алесь, Менск
36. Лыч Леанід, Менск
37. Ляшковіч Вячаслаў, Менск
38. Мальдзіс Адам, Менск
39. Масла Сцяпан, Мёрскі раён
40. Марачкін Аляксей, Менск
41. Мацюкевіч Марыя, Салігорск
42. Мельнік Міхась, Ліда
43. Міхноўскі Мікола, Менск

44. Навумчык Іосіф, Віцебск
45. Нагорны Юры, Барань
46. Падлужны Аляксандр, Менск
47. Паўлавец Зміцер, Гомель
48. Пяткевіч Аляксей, Гародня
49. Пятрэнка Мікола, Полацк
50. Раманцэвіч Валянціна, Менск
51. Рудабелец Алег, Масты
52. Рэўт Валянціна, Кохтла-Ярве
53. Садоўскі Пётр, Менск
54. Санько Зміцер, Менск
55. Сачанка Барыс, Менск
56. Содаль Уладзімір, Менск
57. Тарасюк Любоў, Менск
58. Трапашка Марыя, Валожын
59. Трусаў Алег, Менск
60. Хілько Мікалай, Слуцк
61. Цімохін Лявон, Маладзечна
62. Цумараў Яўген, Менск
63. Цыхун Генадзь, Менск
64. Шавыркін Міхась, Менск
65. Шаранговіч Васль, Менск
66. Штэйнер Іван, Гомель
67. Юдзянкова Ганна, Менск
68. Ялугін Эрнэст, Менск

**Пачатак верасня.** У Прыазёрскай беларускай нядзельнай школе ў Казахстане -- тры класы, больш за 40 вучняў, 6 выкладчыкаў -- усе афіцэры (падпалкоўнік Станіслаў Суднік, маёр Станіслаў Цвірка, капітан Ігар Супаненка, ст. лейтэнант Віктар Грамадка, ст. л-т Сяржук Пахучы, л-т Маянскі).

**19 верасня.** Вярхоўны Савет БССР прыняў гістарычнае рашэнне: наша краіна атрымала афіцыйную назву “Рэспубліка Беларусь”, дзяржаўным гербам была зацверджана “Пагоня”, дзяржаўны статус нададзены бел-чырвона-беламу сцягу. Такім чынам стварыліся рэальныя перадумовы для адраджэння беларускай культуры і стрыжня нацыянальнай самабытнасці беларусаў – беларускай мовы.

**Снежань**

Выйшаў з друку сорак другі нумар “Нашага слова”, пры-

свечаны 100-годдзю Максіма Багдановіча.

**У 1991 годзе**

Старшыня Пастаўскай раённай рады ТБМ Міхась Гіль заснаваў беларускую газету “Сумежжа”. Акрамя таго, ён рэдагуе газету “Крэсы”, першы нумар якой выйшаў у лютым 2000 года, а таксама дадатак да яе “Краязнаўца Паазер’я”.

**ТБМ выпусціла наступныя кнігі:**

**Санько З**. Малы руска-беларускі слоўнік прыказак, прымавак і фразем. Мн. Навука і тэхніка, 1991. 218 с.

**Гілевіч Н**. Незалежнасць.Мн. Навука і тэхніка. 1991. 47 с.

**Ластоўскі В.** Што трэба ведаць кожнаму беларусу. 3-е выданне. Мн. Навука і тэхніка. 1991. 32 с. Наклад 1000 ас.

**Сяржаніна Г.** Грыбы: Аскаміцэты. Базідыяміцэты (гастэраміцэты, гетэрабазідыяміцэты). Мн. Навука і тэхніка. 1991. 54 с. (Беларуская навуковая тэрміналогія: Біялогія: Вып. 1).

**Суднік С.** Пагоня за мову. Вершы. Прыазёрск. Рокаш. 1991. 42 с. Наклад 40 ас.

# 1992 год

**Студзень**

У “Нашым слове” з’явілася пастаянная тэматычная старонка “Вучымся”, на якой даюцца практычныя парады ўсім, хто самастойна вывучае беларускую мову.

У г. Цвер (Расія) адкрыта беларуская нядзельная школа. Заснавальнікі -- сябры ТБМ: палкоўнік Вінцэнт Чорны, падпалкоўнік Валеры Шувярткоў, падпалкоўнік Station Станіслаў Суднік. Выкладчык -- Станіслаў Суднік.

**5 лютага** У газеце “Наша слова” (№ 5) надрукаваны палемічны артыкул “Назад, у «залаты век» правапісу?” галоўнага рэдактара Э. Ялугіна.

**10 лютага.** Прэзідыум Вярхоўнага Савета Беларусі прыняў Пастанову “Аб беларускай мове ў дзяржаўных сродках масавай інфармацыі Рэспублікі Беларусь”, дзе звернута ўвага кіраўнікоў дзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі на неадкладнае выкананне “Закона аб мовах”.

**Красавік**

У г. Прыазёрск (Казахстан) выйшаў з друку "Шыхтовы статут беларускага войска", першы і адзіны беларускамоўны вайсковы статут новага часу.

**Травень**

У г. Менск адбылася навукова-практычная канферэнцыя "Беларуская мова і нацыянальна-дзяржаўны суверэнітэт", арганізаваная ТБМ імя Францішка Скарыны сумесна з Камісіяй Вярхоўнага Савета па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны. Асноўны даклад "Незалежнасць немагчыма без нацыянальнай мовы" зрабіў старшыня Таварыства Н. Гілевіч.

**24 кастрычніка.** Рашучае патрабаванне "Спыніць русіфікацыю!" прагучала ў большасці выступленняў удзельнікаў канферэнцыі Менскай гарадской арганізацыі ТБМ.

**27 кастрычніка.** Старшыня ТБМ Н. Гілевіч выступіў на сесіі Вярхоўнага Савета з рэзкай крытыкай так званага беларуска – рускага двухмоўя, якое па практыцы фактычна скрозь пераходзіць у рускае аднамоўе.

**19-20 лістапада.** У г. Менск Інстытут мовазнаўства імя Якуба Коласа АН Беларусі, Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь, ТБМ імя Францішка Скарыны і Саюз пісьменнікаў Беларусі правялі рэспубліканскую навуковую канферэнцыю "Праблемы беларускага правапісу". На канферэнцыі выступілі Н. Гілевіч, В. Гайсёнак, А.Падлужны, С. Запрудскі, А. Груца, В. Вабішчэвіч (Давыд -Гарадок), А. Крывіцкі, В. Вячорка, П. Сцяцко (Гародня), І. Лепешаў (Гародня), М. Мацюкевіч (Салігорск), М. Абабурка (Магілёў), М.Пятрэнка (Полацк), А. Белакоз (Мастоўскі раён), А. Міхневіч, Л.Кузьміч (Гомель), Б. Пятровіч (Полацк), А. Булыка, Л. Лыч, В. Ляшчынская (Гомель), А. Станкевіч (Гомель), В. Лемцюгова, В. Раманцэвіч, А. Саламонаў, Крупенька (Гомельская вобласць), С. Сачанка, І. Гапоненка, У. Анічэнка (Гомель), У. Танана, Я. Стэпановіч, І. Крамко, І. Лучыц-Федарэц, С. Адамовіч і інш. Рэпартажы з канферэнцыі апублікаваны: "Звязда" 26 лістапада 1992; "Наша слова" № 50 (16 снежня), № 52 1992. "Беларуская мова і літаратура ў школе". Матэрыялы канферэнцыі цалкам не апублікаваны, але надрукаваны асобныя артыкулы ў перыёдыцы, напрыклад: Булыка А. Паланізацыя ці фанетызацыя? // Культура. 1993. № 2 (18 студзеня).

**Снежань**

З нумара 51 "Наша слова" пачало друкаваць падборку лістоў выбаршчыкаў у Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь у абарону дзяржаўнасці беларускай мовы пад агульным загалоўкам "Голас народа – голас Божы".

**У 1992 годзе**

**ТБМ выдала наступныя кнігі:**

Устаноўчы з'езд Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны: Зборнік матэрыялаў. Мн. Навука і тэхніка. 1992. 79 с.

**Станкевіч Я.** Маленькі маскоўска-беларускі (крывіцкі) слоўнічак фразэолёгічны і прыказкаў ды прывітаньні, зычэньні і інш. 3-е выданьне. Мн. Навука і тэхніка. 1992. 77 с. Наклад 30 000 ас.

**Шчакаціхін М.** Нарысы з гісторыі беларускага мастацтва. Т. 1. 1993. 336 с.

**Цьвікевіч А.** «Западно-руссизм»: Нарысы з гісторыі грамадзкай мысьлі на Беларусі ў XIX і пачатку XX в. 2-е выданьне. Мн. Навука і тэхніка. 1993. 352 с. Наклад 5 000 ас.

# 1993 год

**20 студзеня.** Газета "Наша слова" (№ 3) пад агульнай назвай "Няма мовы, няма і нацыі" на дзвюх палосах змясціла падборку лістоў студэнтаў філалагічнага факультэта БДУ ў абарону беларускай мовы, накіраваных на адрас Вярхоўнага Савета.

**Люты**

"Наша слова" (№ 5, 3 лютага) пад рубрыкай "Гісторыя Айчыны – вайскоўцам" пачала друкаваць у скарочаным выглядзе раздзелы па гісторыі Беларусі з новага вучэбнага дапаможніка для вайскоўцаў. Публікацыі прыцягнулі ўвагу не толькі воінаў Узброеных Сіл, але і школьнікаў, студэнтаў, усіх чытачоў газеты, хто цікавіцца праўдзівай мінуўшчынай Бацькаўшчыны.

**26-27 сакавіка.** У сталічным Доме літаратара адбыўся **III з'езд ТБМ** імя Францішка Скарыны. Галоўнае пытанне – дзейнасць Таварыства па ажыццяўленні Закона "Аб мовах". Абраны Рэспубліканская Рада і Сакратарыят. Старшынём ТБМ стаў Н. Гілевіч, яго намеснікамі – Я. Цумараў, С. Запрудскі і Зм. Санько.

Прынята пастанова III з'езду ТБМ імя Францішка Скарыны.

“Аб удасканаленні правапісу беларускай літаратурнай мовы”.

**РЭСПУБЛІКАНСКАЯ РАДА ТБМ
ІМЯ ФРАНЦІШКА СКАРЫНЫ,
абраная на III з’ездзе**

1. Адамчык Вячаслаў, Менск
2. Аксёнчык Ніна, Мазыр
3. Антаноўскі Мікола, Пружаны
4. Болбас Вадзім, Светлагорск
5. Бутэвіч Анатоль, Менск
6. Булавацкі Міхась, Магілёў
7. Вабішчэвіч Віктар, Давыд-Гарадок
8. Вадап’ян Святлана, Круглае
9. Вільтоўскі Васіль, Менск
10. Вінярскі Генадзь, Менск
11. Вольскі Артур, Менск
12. Вячорка Вінцук, Менск
13. Ганчар Марыя, Ліда
14. Гарэлікава Тамара, Полацк
15. Гарэцкі Радзім, Менск
16. Геніюш Руслан, Менск
17. Гілевіч Ніл, Менск
18. Глушко Аляксей, Менск
19. Грыцкевіч Анатоль, Менск
20. Дубейка Васіль, Баранавіцкі раён
21. Запрудскі Сяргей, Менск
22. Казловіч Андрэй, Кобрынскі раён
23. Калеснік Уладзімр, Берасце
24. Карпечанка Міхась, Бялынічы
25. Касцень Алесь, Паставы
26. Костка Валеры, Маладзечна
27. Кудлацкая Валянціна, Верхнядзвінск
28. Ліпень Лявон, Менск
29. айцец Матусевіч Ян, Менск
30. Мацюкевіч Марыя, Салігорск
31. Мінзер Мікола, Менск
32. Міхалевіч Алесь, Менск
33. Міхноўскі Мікола, Менск
34. Навуменка Віктар, Менск
35. Паўлавец Зміцер, Гомель
36. Пяткевіч Аляксей, Гародня

37. Рушлевіч Вацлаў, Маладзечна
38. Санько Зміцер, Менск
39. Сачанка Барыс, Менск
40. Семашук Юры, Менск
41. Сівіцкая Валянціна, Віцебск
42. Сокалаў-Кубай Генадзь, Менск
43. Стэпановіч Язэп, Менск
44. Суднік Станіслаў, Гарадзенская вобл.
45. Танана Усевалад, Менск
46. Трусаў Алег, Менск
47. Хадоркін Мікалай, Гомель
48. Хадыка Юры, Менск
49. Хоміч Ігар, Менск
50. Цімохін Лявон, Маладзечна
51. Цумараў Яўген, Менск
52. Цыганкоў Леанід, Менск
53. Цыхун Генадзь, Менск
54. Чэчат Аляксандр, Менск
55. Шамак Алесь, Менск
56. Шастаковіч Анатоль, Менск
57. Шніп Віктар, Менск
58. Ялугін Эрнэст, Менск

**22 і 29 траўня.** У газеце "Літаратура і мастацтва" надрукаваны артыкул сябра правапіснай камісіі ТБМ А. Яскевіча "Правапіс: вяртанне ці ўсё ж удасканаленне?".

**28 чэрвеня.** Адбылася рабочая сустрэча прадстаўнікоў арганізацый – заснавальнікаў ТБМ, прысвечаная чацвёртым угодкам заснавання Таварыства.

**8-10 ліпеня.** Адбыўся Першы з'езд беларусаў свету, у арганізацыі і рабоце якога актыўны ўдзел прынялі сябры ТБМ.

**25 ліпеня.** У г. Лідзе адкрыты помнік Францішку Скарыну, работа над устаноўкай якога была пачатая з ініцыятывы Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ.

**Ліпень**

У № 27 "Нашага слова" надрукаваны артыкул члена правапіснай камісіі А. Падлужнага з падзагалоўкам: "Некалькі заўваг да рэкамендацый па ўдакладненні правапісу".

**24-25 верасня.** У г. Берасці адбылася Рэспубліканская навуковая канферэнцыя, арганізаваная ТБМ імя Францішка Скарыны і Міністэрствам адукацыі, прысвечаная беларускамоўнаму выкладанню навучальных дысцыплін у ВНУ.

**7 кастрычніка.** У сталічным Доме літаратара праведзены круглы стол на тэму "Мова нацыі – мова дзяржавы", арганізаваны Рэспубліканскай Радай ТБМ і прысвечаны ходу выканання Закона "Аб мовах".

**У 1993 годзе**

**Пабачылі свет выданні ТБМ:**

**Лыч Л.** Моўная рэформа 1933 года: Ідэалагічны аспект. 1993. 38 с.

**Сухая Т., Еўдакіменка Р., Траццякевіч В., Гудзень Н.** Тэрміналагічны слоўнік па вышэйшай матэматыцы для ВНУ. Мн. Навука і тэхніка. 1993. 183 с. Наклад 7400 ас.

**Суднік С.** Кароткі расейска-беларускі вайсковы слоўнік. Мн. Тэхналогія. 1993. 34 с. Наклад 1000 ас.

**Смоліч А.** Географія Беларусі. 4-е выданьне. 1993. 382 с.

**Раманцэвіч В.** Пачаткі роднае мовы: Дапаможнік для ўсіх. 1993. 143 с.

**Найдзюк Я., Касяк І.** Беларусь учора і сяньня: Папулярны нарыс з гісторыі Беларусі. Мн. Навука і тэхніка. 1993. 414 с. Наклад 10000 ас.

**Ятусевіч А., Капліч В.** Слоўнік зоапаразіталагічных тэрмінаў. Мн. Навука і тэхніка.1993. 266 с. Наклад 3 000 ас.

**Гілевіч Н.** Як не спыніць ўзыходу сонца...: Публіцыстыка. Мн. Навука і тэхніка. Серыя "Наш вечны зніч". 1993. 53 с. Наклад 10000 ас.

**Голас народа — голас Божы**: Тэлеграмы і лісты выбаршчыкаў у Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь. Пад рэд. Н. Гілевіча. 1993. 64 с. Наклад 10 000 ас.

# 1994 год

**26 студзеня.** Старшыня Менскай гарадской арганізацыі ТБМ Мікола Савіцкі звярнуўся ў Пракуратуру, Вярхоўны Савет, Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь па факту дыскрымінацыі беларускай мовы і правоў чалавека, які меў месца падчас арганізацыі

і правядзення міжнароднай канферэнцыі “Адукацыя XXI стагоддзя. Праблемы павышэння кваліфікацыі работнікаў адукацыі”. Аўтар ліста быў пазбаўлены права выступіць на беларускай мове, бо яна не была зацверджана ў якасці рабочай, і тэзісы на дзяржаўнай мове не прымаліся.

У “Нашым слове” змешчана публікацыя “Зберагчы дух мовы”, у якой Менская гарадская рада ТБМ абгрунтоўвае неабходнасць рэформы беларускай мовы і прапануе канкрэтныя змены пры распрацоўцы правапісу, якія дазволяць захаваць адметнасць беларускай мовы.

**Студзень**

Полацкая гарадская рада ТБМ накіравала ў Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь ліст пратэсту супраць спробаў надаць расійскай мове статус дзяржаўнай. Ліст падпісаны старшынёй Полацкай рады ТБМ Т. Гарэлікавай.

У г. Жлобіне адбылася канферэнцыя аб’яднанай раённа-гарадской рады ТБМ. Па просьбе А. Іванькова ён быў вызвалены ад пасады. Новым старшынём Жлобінскай рады абраны супрацоўнік мясцовай газеты “Новы дзень” М. Шуканаў. Абноўлены склад рады.

Рада ТБМ Віленскага краю (Літва) наладзіла курсы па вывучэнні беларускай мовы, літаратуры і гісторыі для беларусаў - выпускнікоў віленскіх школ.

У “Нашым слове” (№ 4) апублікавана пастанова аб правапісе Менскай гарадской рады ТБМ.

**2 лютага.** Менская гарадская рада ТБМ у “Нашым слове” (артыкул “Пашпарт павінен быць беларускі”) выказвае сваё меркаванне, якім быць пашпарту грамадзяніна Беларусі.

Старшыня ТБМ, старшыня пастаяннай Камісіі Вярхоўнага Савета па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны Ніл Гілевіч у артыкуле “Мы хочам жыць і забяспечыць нармальным людскім жыццём нашчадкаў” адказвае на лісты, якія прыходзяць у ягоны адрас.

На паседжанні Сакратарыяту абмеркаванае пытанне аб дзейнасці аўдыёвізуальнай камісіі ТБМ.

**12 лютага.** На філалагічным факультэце Гарадзенскага універсітэта адбылося паседжанне Гарадзенскай абласной рады ТБМ, на якім абмяркоўвалася, сярод іншага, пытанне пра выкананне Закона аб дзяржаўнасці беларускай мовы вайскоўцамі Гарадзеншчыны, а таксама пра ўшанаванне ў вобласці памяці паўстанцаў 1794 г.

Даклад па асноўным пытанні рабіў падпалкоўнік Станіслаў Суднік.

**24 лютага.** У памяшканні Беларускай політэхнічнай акадэміі адбылася канферэнцыя рады ТБМ Савецкага раёна г. Менска, адно з пытанняў якой – аб стане выканання ў раёне Закона "Аб мовах". Старшынём рады зноў абраны Алег Трусаў.

**Люты**

У "Нашым слове" апублікавана пастанова аб правапісе Гарадзенскай рады ТБМ.

У "Нашым слове" паведамлена аб звароце наконт правапісу канферэнцыі Савецкай рады г. Менска.

**2 сакавіка.** На паседжанні Сакратарыяту, апроч іншага, абмяркоўвалася пытанне "Аб дзейнасці камісіі "Мова ў рэлігійных канфесіях". Удзел браў айцец Ян Матусевіч.

**3 сакавіка.** На сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь прыняты 17-ы артыкул Канстытуцыі: ***"Дзяржаўнай мовай Рэспублікі Беларусь з'яўляецца беларуская мова. Рэспубліка Беларусь забяспечвае права свабоднага выкарыстання рускай мовы як сродку міжнацыянальных зносін".*** У гэтай перамозе ёсць часцінка працы і 11-ці дэпутатаў - сяброў ТБМ.

**11 сакавіка.** У сталічным Доме літаратара адбылося паседжанне Рэспубліканскай Рады ТБМ, дзе абмяркоўвалася пытанне аб арганізацыйна-прапагандысцкай дзейнасці Таварыства. Прынятыя пастановы: "Аб арганізацыйна-прапагандысцкай дзейнасці ТБМ", "Аб газеце "Наша слова", а таксама зварот да грамадзянаў "Незалежнасць дзяржавы – гарантыя дабрабыту народа".

У Доме літаратара Менская гарадская рада ТБМ наладзіла вечарыну беларускага слова.

**16 сакавіка.** ТБМ сумесна з Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь аб'яўляе Рэспубліканскі конкурс сачыненняў школьнікаў, прысвечаны 50-годдзю вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

**30 сакавіка.** "Наша слова" (№ 13) надрукавала ўмовы Рэспубліканскага конкурсу на лепшую суполку, арганізацыю і калектыўную сябрыну Таварыства па выкананні статутных абавязкаў.

**Сакавік**

Створана Нараўлянская раённая арганізацыя ТБМ. Старшынёй абраная дырэктар СШ № 2 Раіса Мілун.

Пастановай Рэспубліканскай рады ТБМ аб'яўлены конкурс на лепшую арганізацыю, першасную суполку, калектыўную сябрыну з нагоды 5-х угодкаў Таварыства.

**13 красавіка.** "Наша слова" апублікавала заўвагі і ўдакладненні Рады ТБМ г. Барысава па "Выніковым дакуменце Дзяржаўнай камісіі па ўдакладненні правапісу беларускай літаратурнай мовы".

**27 красавіка.** "Наша слова" (№ 17) змясціла зварот Сакратарыяту ТБМ і Рады Рэспубліканскага праўлення Таварыства "Кніга" да сваіх арганізацый і актывістаў з заклікам дзейнічаць сумесна дзеля пашырэння ўжытку роднага слова ва ўсіх сферах жыцця.

**4 траўня.** Сакратарыят ТБМ прыняў Зварот да ўсіх арганізацый ТБМ аб стварэнні Грамадскай кантрольнай камісіі (ГКК) з мэтай каардынацыі намаганняў па забеспячэнні законнасці ў часе правядзення выбараў.

**4-5 траўня.** З ініцыятывы Тэрміналагічнай камісіі ТБМ (старшыня – Язэп Стэпановіч) адбылася першая нацыянальная канферэнцыя "Праблемы беларускай навуковай тэрміналогіі". У працы бралі ўдзел 147 навукоўцаў, педагогаў, іншых зацікаўленых спецыялістаў.

Прынятыя звароты да грамадскасці Беларусі, а таксама да міністра адукацыі Рэспублікі Беларусь з патрабаваннем канкрэтных дзеянняў дзеля пераводу выкладання і навучання на беларускую мову.

**4-6 траўня.** У г. Менску адбылася першая нацыянальная канферэнцыя "Праблемы беларускай навуковай тэрміналогіі", адным з арганізатараў якой з'яўляецца ТБМ імя Францішка Скарыны.

**8 чэрвеня.** У "Нашым слове" № 23 змешчаны зварот творчай суполкі ТБМ "Нясвіж" да дэпутатаў Вярхоўнага Савета Беларусі з наказамі, сярод якіх: не дапусціць ганебнага і зневажальнага для беларусаў двухмоўя, прыняць пастанову аб неадкладным пераходзе на беларускую мову ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі, культуры і інш.

**27 чэрвеня.** Адбылося пашыранае паседжанне Сакратарыяту ТБМ, прысвечанае 5-годдзю з дня стварэння Таварыства. У гэты дзень 1989 г. адбыўся Ўстаноўчы з'езд Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны.

**Чэрвень**

Кіраўніцтва ТБМ Віленскага краю (Літва) сустрэлася з паслом Рэспублікі Беларусь сп. Яўгенам Вайтовічам па пытанні адраджэння беларушчыны ў Віленскім краі.

**6 ліпеня.** Маскоўскія беларусы звярнуліся да міністра замежных спраў Беларусі сп. П. К. Краўчанкі з просьбай абараніць правы беларускамоўных землякоў, што жывуць у Маскве ("Наша слова" № 27, 1994 г.).

**9 ліпеня.** ТБМ Віленскага краю наладзіла свята, прысвечанае Міжнароднаму году сям'і. Яно адбылося ў засценку Вашунова Докшыцкага раёна. Падчас святкавання быў адкрыты гістарычна-этнаграфічны музей.

**20 ліпеня.** Міністэрства адукацыі выказала падзяку Аргкамітэту першай нацыянальнай канферэнцыі па праблемах беларускай навуковай тэрміналогіі за клопат і руплівыя адносіны да нацыянальна-культурнага Адраджэння Бацькаўшчыны і запэўніла, што будзе ствараць неабходныя ўмовы для пераводу ВНУ Беларусі на дзяржаўную мову вы кладання ў адпаведнасці з тэрмінамі, вызначанымі Законам "Аб мовах" і іншымі дакументамі ("Наша слова" № 29, 20 ліпеня 1994 г.).

**Ліпень**

Падведзены вынікі конкурсу "Наш гонар, наш боль" на лепшае сачыненне да 50-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. З 73-х сачыненняў 22 прызнаныя лепшымі.

Выйшла ў свет выданне ТБМ "100 пытанняў і адказаў з гісторыі Беларусі" (складальнікі Іван Саверчанка, Зміцер Санько, ілюстрацыі Яўгена Куліка).

**26 верасня.** На пашыраным паседжанні Сакратарыяту ТБМ было абмеркавана пытанне "Аб далейшай рабоце арганізацый ТБМ па ажыццяўленні статутнай дзейнасці".

**12 кастрычніка.** Адбылася канферэнцыя па стварэнні Го-

мельскай абласной арганізацыі. Старшынём абраны Анатоль Бароўскі.

Прыняты зварот да прэзідэнта Рэспублікі Беларусь з патрабаваннем спыніць шальмаванне дзяржаўнай мовы і беларускіх дзяржаўных сімвалаў.

**17-21 кастрычніка.** Бялыніцкая цэнтральная бібліятэка разам з сябрамі раённага аддзялення ТБМ правялі тыдзень беларускай культуры.

**4 лістапада.** Рада ТБМ Савецкага раёна г. Менска прыняла зварот да Міністэрства адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь "Беларусы і сёння не маюць магчымасці атрымліваць адукацыю ў ВНУ на роднай мове".

**18 лістапада.** У Доме літаратара адбылося паседжанне Рэспубліканскай Рады ТБМ, на якім абмяркоўваліся пытанні:

- ТБМ і дзяржаўная моўная палітыка;
- аб задачах ТБМ у перыяд падрыхтоўкі да выбараў у Вярхоўны Савет і органы мясцовага самакіравання.

Прыняты зварот да грамадзянаў Беларусі "Не задушыць імкненне беларусаў стаць сапраўднымі гаспадарамі на сваёй зямлі!"

**23-24 лістапада.** Менская гарадская рада ТБМ брала ўдзел у арганізацыі і правядзенні Усебеларускай навукова-практычнай студэнцкай канферэнцыі "Роля і месца студэнцтва ў нацыянальна-культурным будаўніцтве на Беларусі".

Прыняты зварот да студэнцтва Беларусі.

**Лістапад**

Сябры Заводскай суполкі ТБМ накіравалі кіраўніцтву Менскага аўтазавода зварот з прычыны таго, што на прадпрыемстве прыпынілася работа па стварэнні беларускамоўнага асяроддзя.

**15 снежня.** Створаны Каардынацыйны грамадскі камітэт у абарону беларускай мовы. ТБМ разам з іншымі 10-цю грамадскімі арганізацыямі выступіла адным з яго ініцыятараў і сузаснавальнікаў.

**23 снежня.** Менская гарадская рада ТБМ арганізавала і правяла ў канферэнцзале Дома літаратара круглы стол "Беларуская школа на шляху адраджэння". Прыняты зварот да міністра адукацыі Васіля Стражава "Двухмоўе разбурае дзіцячую псіхіку" з

заклікам выконваць законы Рэспублікі Беларусь, трымацца дзяржаўнай пазіцыі, а таксама Ухвала круглага стала.

**У 1994 годе**

**Выйшлі наступныя выданні ТБМ:**

**Мы не просім -- мы патрабуем!..**. Лісты выбаршчыкаў у Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь / Пад рэд. Н. Гілевіча. Мн. Навука і тэхніка. 1994. 60 с. Наклад 5 000 ас.

**Станкевіч С.** Русіфікацыя беларускае мовы ў БССР; супраціў русіфікацыйнаму працэсу. Передрук з мюнхеньскага выдання 1962 г. Прадм. В. Вячоркі. Мн. Навука і тэхніка. 1994. 79 с. Наклад 10 000 ас.

**Статут ТБМ.** Наша слова. 1994. 8 с.

# 1995 год

**11 студзеня.** Сакратарыят ТБМ праз газету “Наша слова” звярнуўся да ўсіх камерцыйных структур, фірм, сумесных прадпрыемстваў, банкаў з просьбай дапамагчы ў набыцці для рэдакцыі настольнай выдавецкай сістэмы.

**25 студзеня.** “Наша слова” (№ 4) паведамляе, што ў “Народнай газеце” змешчаны калектыўны ліст грамадзянаў Кастрычніцкага раёна г. Менска, сяброў ТБМ (усяго 55 подпісаў), у якім яны патрабуюць ад Прэзідэнта спыніць знявагу роднага слова і дыскрымінацыю беларускамоўнага насельніцтва.

**27 студзеня.** Менская гарадская рада ТБМ сумесна з грамадска-культурным клубам “Спадчына” ў Доме настаўніка правялі ўрачыстую вечарыну, прысвечаную 5-годдзю прыняцця Закона “Аб мовах”, дзе прагучаў змястоўны даклад доктара гістарычных навук Леаніда Лыча.

**31 студзеня.** У сталічным Доме літаратара ТБМ правяло мерапрыемства пад назвай “Чаго Вам хочацца, панове?”, прымеркаванае да 5-х угодкаў з дня прыняцця Вярхоўным Саветам Закона “Аб мовах”. Спачатку ў канферэнц-зале адбыўся круглы стол, у якім бралі ўдзел кіраўнікі грамадскіх арганізацый і рухаў, рэктары ВНУ, актывісты ТБМ з розных рэгіёнаў, прадстаўнікі Міністэрства адукацыі, журналісты. Па выніках прынятая адмысловая заява. Другая частка імпрэзы адбывалася ў вялікай зале Дома літаратара,

дзе працягвалася размова аб роднай мове, адбыўся канцэрт, узнагароджаны актывісты ТБМ. Беларускае тэлебачанне больш за гадзіну вяло трансляцыю з глядзельнай залы ў жывым эфіры.

**Студзень**

Жлобінская раённая арганізацыя ТБМ разам з цэнтральнай бібліятэкай г. Жлобіна правялі літаратурную вечарыну, прысвечаную 90-годдзю з дня нараджэння пісьменніка, журналіста, ураджэнца Жлобіншчыны Міхася Чавускага.

Каардынацыйны камітэт па абароне беларускай мовы, у склад якога ўваходзіць ТБМ і яшчэ 19 грамадскіх арганізацый, звярнуўся да Вучонай Рады Беларускага дзяржаўнага універсітэта і Міністэрства адукацыі і навукі Беларусі з патрабаваннем з 1 верасня 1995 года перавесці БДУ цалкам на беларускую мову навучання. Зварот меў назоў "Закон абавязковы для ўсіх".

У г. Менску ў Доме літаратара адбыўся круглы стол па праблеме стварэння нацыянальнай школы, які арганізавала і правяла Менская гарадская рада ТБМ імя Ф. Скарыны сумесна з гарадскім упраўленнем народнай адукацыі.

Бацькоўскі камітэт беларускамоўных школ і класаў г. Менска, які ўзначальвае сябра ТБМ Алесь Шамак, збірае подпісы грамадзянаў у падтрымку выкладання ў ВНУ на беларускай мове. Сабрана каля 1000 подпісаў. Палова з іх даслана на імя Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

**16 лютага.** Грамадскі Каардынацыйны Камітэт абароны беларускай мовы прыняў заяву, у якой адзначаецца: "Мы вымушаныя звярнуцца да Генеральнага пракурора Рэспублікі Беларусь з просьбай разгледзець пытанне аб адказнасці сп. Лукашэнкі за знявагу беларускай мовы ў адпаведнасці з заканадаўствам".

Жлобінская раённая рада ТБМ імя Ф. Скарыны і мясцовыя арганізацыі БСДГ, БНФ, аб'яднаных і нацыянальных дэмакратаў прынялі заяву да грамадскасці ў абарону беларускай мовы.

Падведзены вынікі завочнай краязнаўчай канферэнцыі "Мой родны кут", якую ладзіла Бялыніцкая рада ТБМ сумесна з раённым аддзелам адукацыі.

Жлобінская раённая арганізацыя ТБМ правяла вечарыну, прысвечаную 5-ым угодкам свайго ўтварэння.

Суполка ТБМ Латвіі "Прамень" пачала выдаваць сваю газету з аднайменнай назвай.

**9 сакавіка.** На паседжанні Рэспубліканскай Рады ТБМ абмеркавана новая рэдакцыя Статута ТБМ.

**12 сакавіка.** Грамадскі Каардынацыйны Камітэт абароны беларускай мовы звярнуўся да Прадстаўніцтва Арганізацыі Аб'яднаных Нацый у Рэспубліцы Беларусь, каб праінфармаваць пра дыскрымінацыю беларусаў па нацыянальнай прыкмеце, пра парушэнне чалавечых правоў і правоў беларускіх дзяцей.

**Сакавік**

Споўнілася 5 гадоў ад часу заснавання "Нашага слова".

Маладзечанская рада ТБМ прымае зварот да грамадзянаў Беларусі "Спыніць наступ антыбеларускіх сіл".

**11 красавіка.** У Вярхоўным Савеце як пратэст супраць рэферэндуму пачалася галадоўка 18 дэпутатаў ад апазіцыі. Бальшыня з іх — сябры ТБМ.

**Красавік**

Дэлегаты канферэнцыі Маладзечанскай філіі ТБМ прынялі зварот "Не стварайце канфрантацыі вакол моўнага пытання!" да Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. Лукашэнкі і старшыні Вярхоўнага Савета М. Грыба.

ТБМ увайшло ў склад Аргкамітэту па святкаванні 50-х угодкаў Перамогі над гітлерызмам. Ініцыятар стварэння грамадскага Аргкамітэту — Беларускае дэмакратычнае аб'яднанне ветэранаў.

**18-19 траўня.** ТБМ брала ўдзел у арганізацыі і правядзенні Другой нацыянальнай канферэнцыі "Праблемы беларускай навуковай тэрміналогіі", у якой удзельнічалі звыш ста навукоўцаў, у тым ліку 27 дактароў і каля 60 кандыдатаў навук. Матэрыял пра канферэнцыю змешчаны ў "Нашым слове" № 25 за 1995 г. Прынята адпаведная заява.

**23 траўня.** На паседжанні Сакратарыяту ТБМ разгледжана пытанне "Аб дзейнасці арганізацый ТБМ у сувязі з вынікамі рэферэндуму па моўным пытанні". Прынята рашэнне аб правядзенні "круглага стала" "Моўная палітыка ў Беларусі і задачы грамадскіх арганізацый" па падрыхтоўцы адпаведных рэкамендацый для ўсіх арганізацый і актывістаў ТБМ.

**25 траўня.** Сакратарыят ТБМ з прычыны спынення падтрымкі

з боку дзяржавы звярнуўся па дапамогу да ўсіх камерцыйных структур, фірм, сумесных прадпрыемстваў, банкаў, усіх грамадзян, каму дарагія родная мова, нацыянальнае адраджэнне Бацькаўшчыны. Прыпынена фінансаванне газеты "Наша слова". Навісла пагроза над шапікам ТБМ, што на праспекце Скарыны. Арэнда памяшкання, камунальныя паслугі патрабуюць велізарных грошай.

**Травень**

У г. Наваполацку аднавілі гарадскую суполку ТБМ. Старшынёй абраная пісьменніца Ірына Жарнасек.

**28 чэрвеня.** З нагоды рэферэндуму "Наша слова" змясціла зварот ТБМ да бацькоў і настаўнікаў "Эканамічны дабрабыт залежыць ад разумнай будовы грамадства і гаспадаркі" і зварот да грамадзянаў Беларусі "А хто пытаўся галасоў нашых продкаў і нашых нашчадкаў?"

**Чэрвень**

У Доме літаратара ў г. Менску прайшло паседжанне Камітэта абароны беларускай мовы. Удзельнікі выказалі занепакоенасць тым, што рэферэндум узаконіў прыярытэт расійскай мовы перад беларускай. Прынята заява "Лёс роднай мовы і задачы грамадскіх арганізацый".

З-за адсутнасці фінансавання не выйшлі 18, 19, 20, 21, 22, нумары "Нашага слова".

**27 ліпеня.** Сябры Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ імя Францішка Скарыны разам з сябрамі іншых грамадскіх арганізацый устанавілі два крыжы на магіле паўстанцаў 1863 года на полі бою паміж вёскамі Малое Ольжава і Мохавічы Лідскага раёна і арганізавалі набажэнства ў памяць палеглых за Бацькаўшчыну.

**10 жніўня.** Грамадскі Каардынацыйны Камітэт абароны беларускай мовы звярнуўся да грамадзянаў Беларусі з заклікам падтрымаць родную мову, найперш вучачы сваіх дзяцей па-беларуску, сказаць сваё рашучае слова ў абарону самага святога – матчынай мовы.

**6 кастрычніка.** У памяшканні Дома літаратара ў г. Менску адбыўся **IV з'езд ТБМ.** Бралі ўдзел дэлегаты ад 132-х рэгіянальных арганізацыяў. Яны абмеркавалі стан роднай мовы, актуальныя праблемы беларушчыны ды супрацьстаянне русіфікацыі. З'езд

прыняў пастанову, зварот да выбаршчыкаў. Старшынём зноў абраны Ніл Гілевіч.

## РЭСПУБЛІКАНСКАЯ РАДА ТБМ ІМЯ ФРАНЦІШКА СКАРЫНЫ,
**абраная на IV з’ездзе**

1. Адамчык Вячаслаў, Менск
2. Аксёнчык Ніна, Мазыр
3. Арлоў Валянцін, Віцебск
4. Бароўскі Анатоль, Гомель
5. Башлакова Валянціна, Гомель
6. Булавацкі Міхась, Магілёў
7. Бураўкін Генадзь, Менск
8. Бутэвіч Анатоль, Менск
9. Вабішчэвіч Віктар, Давыд-Гарадок
10. Вадап’ян Святлана, Круглае
11. Вільтоўскі Васіль, Менск
12. Вячорка Вінцук, Менск
13. Гарэлікава Тамара, Полацк
14. Гарэцкі Радзім, Менск
15. Гілевіч Ніл, Менск
16. Глушко Аляксей, Менск
17. Грыцкевіч Анатоль, Менск
18. Жарнасек Ірына, Наваполацк
19. Запрудскі Сяргей, Менск
20. Зуёнак Васіль, Менск
21. Казловіч Андрэй, Кобрын
22. Клімуць Яраслаў, Магілёў
23. Костка Валеры. Маладзечна
24. Краўчанка Пётр, Менск
25. Кузьміч Вольга, Менск
26. Лыч Леанід, Менск
27. Марціноўскі Пётр, Зэльвенскі р-н
28. Мацюкевіч Марыя, Салігорск
29. Мельнік Міхась, Ліда
30. Падлужны Аляксандр, Менск
31. Пазьняк Зянон, Менск
32. Пяткевіч Аляксей, Гародня
33. Раманцэвіч Валянціна, Менск
34. Савіцкі Мікалай, Менск
35. Садоўскі Пётр. Менск

36. Санько Зміцер, Менск
37. Стэпановіч Язэп, Менск
38. Суднік Станіслаў, Ліда
39. Сцяцко Павел, Гародня
40. Сырыца Віктар, Баранавічы
41. Танана Усевалад, Менск
43. Трусаў Алег, Менск
44. Хадыка Юры, Менск
45. Цумараў Яўген, Менск
46. Цыхун Генадзь, Менск
47. Шастаковіч Анатоль, Менск
48. Шлома Людміла, Менск
49. Шушкевіч Станіслаў, Менск
50. Ялугін Эрнэст, Менск
51. Яцкевіч Сяргей, Бярэсце

**Лістапад**

Выйшаў двухколерны нумар газеты "Рагнеда", заснаванай Салігорскай раённа-гарадской радай ТБМ. Рэдактар -- старшыня Рады Марыя Мацюкевіч. Наклад 999 асобнікаў.

Рэдакцыяй газеты "Наша слова" выдадзены "Статут ТБМ"

**21 снежня.** На паседжанні Рэспубліканскай рады ТБМ, абранай на IV з'ездзе, быў зацверджаны Сакратарыят, галоўны рэдактар (Эрнэст Ялугін) і рэдакцыйная калегія газеты "Наша слова". Вызначаныя першачарговыя задачы: ператварыць ТБМ у масавую арганізацыю, шукаць шляхі да паляпшэння яе матэрыяльна-фінансавага становішча.

# 1996 год

**11 студзеня.** На першым паседжанні Сакратарыяту ў новым складзе, пасля IV з'езду ТБМ, абмяркоўвалася пытанне аб арганізацыі канферэнцыі, прысвечанай стану беларускай мовы, а таксама фінансавыя справы, звязаныя з дзейнасцю сп. Яўгена Цумарава.

**14 лютага.** На паседжанні Гарадзенскай рады ТБМ у рамках гарадской арганізацыі створана грамадскае аб'яднанне — Таварыства беларускай вышэйшай школы, якое мае за мэту ўмацоўваць справы беларускамоўнага выкладання ў ВНУ. Старшынём абраны

прафесар А. Астроўскі. Прыняты зварот да Старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі С. Шарэцкага і старшыні Гарадзенскага аблвыканкаму А. Дубко.

**21 лютага.** “Наша слова” № 8 надрукавала заяву, падпісаную Нілам Гілевічам, Рыгорам Барадуліным, Міколам Ермаловічам, Уладзімірам Конанам, Змітром Санько, Уладзімірам Арловым з нагоды чарговай русіфікатарскай акцыі Міністэрства адукацыі -- адмены пісьмовага экзамену па беларускай мове за курс сярэдняй школы.

**28 лютага.** З ініцыятывы Віцебскай гарадской арганізацыі ТБМ наладжаны гарадскі сход па пытанні выканання Законаў “Аб мовах” і “Аб адукацыі”. Акрамя сяброў ТБМ у сходзе бралі ўдзел прадстаўнікі прадпрыемстваў, ВНУ, арганізацый, настаўнікі і бацькі вучняў беларускамоўных класаў г. Віцебска. Прынятая заява “У абарону беларускай мовы”.

**Люты**

Міжнародным фондам Еўразія падведзены вынікі конкурсу, прысвечанага развіццю электронных камунікацый, у якім брала ўдзел Таварыства беларускай мовы. Усяго было пададзена 277 заяваў з трох краін — Беларусі, Малдовы і Украіны. Праект ТБМ “Электронны фонд беларускай мовы і сетка лінгвістычнай інфармацыі ў Беларусі” атрымаў фінансавую падтрымку ў памеры 15000 долараў ЗША. Створана навуковая рада пад кіраўніцтвам доктара філалагічных навук Генадзя Цыхуна, якая будзе ажыццяўляць кіраўніцтва праектам.

**6 сакавіка.** Сакратарыят ТБМ звярнуўся з заявай у Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь і Міністэрства адукацыі і навукі з нагоды адмены пісьмовага экзамену па беларускай мове, у якой патрабуе ўвядзення абавязковага экзамену па беларускай мове -- як выпускнога, так і ўступнага.

**30 сакавіка.** У сталічным Доме літаратара адбылася навуковая канферэнцыя “Дыскрымінацыя беларускай мовы ў Беларусі: гістарычны, палітычны і лінгвістычны аспекты”, якую наладзіла ТБМ. Прынятыя рэзалюцыі: “Дыскрымінацыя беларускай мовы ў Беларусі”, “Аб стане беларускай мовы і аб стане беларускамоўнай адукацыі”, накіраваныя старшыні і дэпутатам Вярхоўнага Савета Беларусі, Ураду Рэспублікі Беларусь.

**Сакавік**

Са сталічнага праспекта Ф. Скарыны знік шапік ТБМ. Прычына — рашэнне гарадскіх уладаў, згодна з якім драўляная канструкцыя шапіка павінна быць заменена металічнай.

На паседжанні Менскай гарадской рады ТБМ абмеркавана пытанне аб падрыхтоўцы і правядзенні ў траўні круглага стала "Захаванне моўнага рэжыму ў беларускамоўных навучальных установах Менска".

**23 красавіка.** Сябры ТБМ Лагойшчыны адзначылі 110-ю гадавіну з дня нараджэння свайго славутага земляка Змітрака Бядулі.

**24 красавіка.** "Наша слова" надрукавала рэкамендацыі для бацькоў, на выпадак, калі клас ці ўся школа, у якой вучацца іхнія дзеці, з беларускай мовы навучання пераведзеныя на расійскую.

**30 красавіка.** "Наша слова" № 18 у публікацыі "Да ўвагі бацькоў" раіць, што рабіць, калі адміністрацыя школы адмаўляецца прыняць Вашую заяву для навучання дзіцяці па-беларуску.

**Красавік**

Пабачыла свет кніга Яўгена Цумарава "Першы мікрафон", дзе распавядаецца, як дэпутаты-патрыёты 12-га склікання ў Авальнай зале адстойвалі права на існаванне духоўных каштоўнасцяў нацыі, беларускай культуры, гісторыі і мовы.

Сакратарыят ТБМ прыняў заяву, у якой выказаны пратэст у сувязі з рэпрэсіямі, ужытымі ўладамі супраць удзельнікаў акцыі "Чарнобыльскі шлях" 26 красавіка, у прыватнасці, супраць сябра Рады Юрыя Хадыкі. У заяве ўтрымліваецца патрабаванне вызваліць усіх затрыманых удзельнікаў "Чарнобыльскага шляху".

**3 траўня.** У Доме ўраду адбылася сустрэча прадстаўнікоў ТБМ і ТБШ са Старшынём Вярхоўнага Савета Сямёнам Шарэцкім, які выказаўся пра неабходнасць вяртання беларускай мове страчаных ёю пазіцый у сферы адукацыі.

**16 траўня.** "Наша слова" № 20, № 26, № 30 змяшчае матэрыялы пад загалоўкам "ТБМ патрэбна рэфармаванне". Сярод аўтараў Ул. Панада, Ніна Кануннікава, Аляксей Саламонаў.

**14 чэрвеня.** У сталічным Доме літаратара адбылося паседжанне круглага стала на тэму "Факты знішчэння сістэмы

беларускамоўнай адукацыі”. Арганізатары круглага стала — ТБМ, ТБШ, Менскі гарадскі бацькоўскі камітэт беларускамоўных школаў і класаў — у прынятай рэзалюцыі заявілі пра намер пачаць збор сведчанняў грамадзянаў Беларусі аб парушэннях дзяржаўнымі структурамі прынцыпу этнічнай і моўнай роўнасці. Гэтыя сведчанні разам з імёнамі асобаў, вінаватых у парушэнні правоў чалавека, склаўшы “Белую кнігу”, стануць базаю для працягу праваахоўнай дзейнасці арганізацый -- ініцыятараў круглага стала.

**Чэрвень**

Пінскія рэгіянальныя арганізацыі ТБМ і ТБШ правялі сумеснае паседжанне па пытанні стану беларускай мовы ў горадзе, прыняўшы заяву “Аб праблеме падрыхтоўкі нацыянальных кадраў у Рэспубліцы Беларусь”.

**29 жніўня.** Праз “Наша слова” № 35 старшыня ТБМ Ніл Гілевіч звярнуўся да студэнцкай і вучнёўскай моладзі Беларусі з лістом “Вучыцца праўдзе і нацыянальнай годнасці”.

**Жнівень**

Старшыня Лідскай арганізацыі ТБМ імя Ф. Скарыны Міхась Мельнік выдаў свой першы паэтычны зборнік “Скрыжаванне”.

Праз газету “Наша слова” № 34 да міністра адукацыі і навукі Беларусі Васіля Стражава звярнуўся прафесар Аляксей Саламонаў з пытаннямі, якія ён задаў міністру падчас жывой лініі з чытачамі “Звязды”, але адказаў на іх не атрымаў.

У “Нашым слове” № 34 чытачы знойдуць адказ на пытанне, што трэба рабіць беларусу, калі парушаюцца правы навучання дзяцей на роднай мове.

Гомельская абласная арганізацыя ТБМ напярэдадні навучальнага года правяла канферэнцыю з запрашэннем прадстаўнікоў гарадскіх улад аб стане беларускамоўнага навучання ў горадзе. Адзначалася рэзкае скарачэнне ў г. Гомелі школаў і садкоў з беларускай мовай навучання і выхавання.

**14-15 верасня.** Берасцейская абласная арганізацыя ТБМ (старшыня Сяргей Яцкевіч) зладзіла міжнародную канферэнцыю “Нацыянальная адукацыя і полікультурная парадыгма”.

**17 кастрычніка.** На сумесным паседжанні Сакратарыяту ТБМ і канцылярыі ТБШ зацверджана Палажэнне аб “Белай кнізе” і склад яе рэдакцыйнай камісіі, а таксама рашэнне аб арганізацыі акцыі

па зборы подпісаў у абарону беларускамоўнай вышэйшай школы.

**Кастрычнік**

У сядзібе ТБМ адбылося сумеснае паседжанне ТБШ і ТБМ. Абмяркоўваліся бліжэйшыя планы, у прыватнасці — правядзенне круглага стала з мэтай абмеркавання дзяржаўнай канцэпцыі рэформы агульнаадукацыйнай школы пад назвай “Перспектывы беларускага школьніцтва”, а таксама вынікі збору матэрыялаў для “Белай кнігі”.

ТБМ і ТБШ распачалі збор подпісаў пад патрабаваннем да Прэзідэнта і ўраду краіны забяспечыць грамадзянам Беларусі канстытуцыйнае права на атрыманне вышэйшай адукацыі на беларускай мове.

**12 лістапада.** На пасяджэнні Сакратарыяту ТБМ разглядаліся пытанні фінансавай дзейнасці Таварыства, збору подпісаў пад адозвамі на карысць беларускай вышэйшай школы, правядзення чарговага V з’езду ТБМ.

**27 лістапада.** У Доме літаратара адбылося паседжанне круглага стала з назваю “Беларуская школа: стан і перспектывы развіцця”, арганізаванага ТБМ, ТБШ і педкамісіяй Саюза пісьменнікаў. Прыняты зварот да прыхільнікаў беларушчыны ў краіне.

**Снежань.** Напярэдадні Новага года адбылося паседжанне Рэспубліканскай рады ТБМ. Разглядаліся пытанні аб дзейнасці Таварыства і аб захаванні газеты “Наша слова”.

**У 1996 годзе**

Візітнай карткай Баранавіцкай гарадской арганізацыі з’яўляецца штотыднёвая радыёперадача на Баранавіцкім радыё “Люблю наш край”, якая выходзіць у эфір з 1996 года. Вядоўцы – Алесь Горбач і Наталля Урублеўская.

# 1997 год

**1 лютага.** На пленарным паседжанні Рэспубліканскай рады ТБМ была засяроджана ўвага на невысокім фінансавым стане арганізацыі, прынятае рашэнне аб правядзенні чарговага V з’езду ТБМ 12 красавіка. Прыняты зварот да сяброў і прыхільнікаў Тавары-

ства аб добраахвотных складках дзеля правядзення чарговага з’езду.

**11 сакавіка.** На паседжанні Рэспубліканскай рады ТБМ прынятая заява да Міністэрства адукацыі Беларусі з нагоды лінгвацыду беларускай нацыі. Сфармулявана 11 патрабаванняў да Міністэрства. Выказанае спадзяванне, што да 12 красавіка Таварыства атрымае станоўчую інфармацыю наконт вырашэння ўзнятых пытанняў.

**3-9 красавіка.** Выйшаў у свет 14 нумар “Нашага слова”, пасля чаго газета перастала выдавацца з прычыны таго, што ў 1997 годзе дзяржава спыніла фінансавую падтрымку.

**12 красавіка.** У менскім Доме літаратара прайшоў **V з’езд ТБМ.** З’езд прыняў адстаўку Ніла Гілевіча з пасады старшыні ТБМ і абраў новым старшынём ТБМ Генадзя Бураўкіна. Намеснікамі старшыні абраныя Алег Трусаў і Людміла Дзіцэвіч.

З’езд разгледзеў заяву рэдактара газеты “Наша слова” Эрнэста Ялугіна аб немагчымасці выдання газеты. З’езд адхіліў прапанову сябра Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ Станіслава Судніка аб часовай перадачы выдання газеты “Наша слова” ў г. Ліду.

**РЭСПУБЛІКАНСКАЯ РАДА ТБМ**
**ІМЯ ФРАНЦІШКА СКАРЫНЫ,**
**абраная на V з’ездзе ТБМ**

1. Багданкевіч Святлана, Менск
2. Бароўскі Анатоль, Гомель
3. Бароўскі Барыс, Маладзечна
4. Башлакова Валянціна, Гомель
5. Белы Анатоль, Менск
6. Бернік Васіль, Менск
7. Бураўкін Генадзь, Менск
8. Вабішчэвіч Віктар, Давыд-Гарадок
9. Вячорка Вінцук, Менск
10. Габралёў Віктар, Магілёў
11. Гарэцкі Радзім, Менск
12. Гілевіч Ніл, Менск
13. Глушко Аляксей, Менск
14. Гурыновіч Алесь, Менск
15. Дзіцэвіч Людміла, Менск
16. Домаш Сямён, Гародня

17. Жаркевіч Вольга, Менск
18. Запрудскі Сяргей, Менск
19. Зуёнак Васіль, Менск
20. Івашкевіч Віктар, Менск
21. Іпатава Вольга, Менск
22. Казловіч Андрэй, Кобрынскі раён
23. Карпечанка Міхась, Бялынічы
24. Качарагіна Інэса, Полацк
25. Клімуць Яраслаў, Магілёў
26. Косаў Зміцер, Менск
27. Костка Валеры, Маладзечна
28. Кузьміч Вольга, Менск
29. Лойка Тамара, Менск
30. Лыч Леанід, Менск
31. Мацюкевіч Марыя, Салікгорск
32. Навумчык Іосіф, Віцебск
33. Палсцюк Валеры, Менск
34. Пяткевіч Аляксей, Гародня
35. Раманцэвіч Валянціна, Менск
36. Савіцкі Мікалай, Менск
37. Садоўскі Пётра, Менск
38. Санько Зміцер, Менск
39. Стэпановіч Язэп, Менск
40. Суднік Станіслаў, Ліда
41. Трусаў Алег, Менск
42. Хадыка Юры, Менск
43. Цыхун Генадзь, Менск
44. Шаблоўская Ірына, Менск
45. Шамак Алесь, Менск
46. Шлома Людміла, Менск
47. Юфераў Васіль, Менск
48. Ялугін Эрнэст, Менск
49. Яфрэмаў Алег, Менск
50. Яцкевіч Вяргей, Берасце

**15, 22, 29 траўня, 5, 12 чэрвеня, 25 жніўня, 4 верасня.** Сябры ТБМ правялі шэраг пікетаў супраць закрыцця беларускіх класаў і школ. У пікетах узялі ўдзел больш за 300 чалавек. За час пікетавання ў шэрагі ТБМ уступіла 15 новых сяброў.

**3-4 чэрвеня.** Берасцейская абласная арганізацыя ТБМ зладзіла міжнародную канферэнцыю “Культура беларуска-польска-

літоўскага сумежжа”, якая адбылася ў Гародні і Вільні.

**Жнівень.**

У г. Лідзе выйшаў першы нумар незарэгістраванага беларускамоўнага краязнаўчага гістарычна-мастацкага часопіса “Лідскі летапісец”. Выдавец -- Лідская гарадская арганізацыя ТБМ імя Францішка Скарыны.

**18 верасня.** У г. Лідзе выйшаў “Расейска-беларускі вайсковы слоўнік”, 8 000 слоўных артыкулаў, аўтары Станіслаў Суднік і Сяржук Чыслаў. Фундатар выдання - Лідская гарадская рада Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны.

**23 верасня.** Гарадоцкая рада ТБМ (старшыня Леанід Гаравы) прыняла ўдзел у арганізацыі і правядзенні літаратурна-краязнаўчай канферэнцыі “Паэма “Тарас на Парнасе”: здабыткі і праблемы”.

**26 верасня.** У г. Менску прайшло паседжанне Рэспубліканскай рады ТБМ імя Францішка Скарыны. Рада заслухала справаздачу Сакратарыяту ТБМ, абмеркавала моўную сітуацыю ў краіне і стан беларускага школьніцтва ў 1997 годзе. Рада прыняла пастанову па актывізацыі дзейнасці ТБМ, а таксама пастанову аб аднаўленні выдання газеты “Наша слова” з кастрычніка 1997 года. Выданне газеты часова даручана Лідскай гарадской радзе ТБМ імя Францішка Скарыны. Вырашана прызначыць в. а. рэдактара газеты Станіслава Судніка. Прапанаваны склад Рэдакцыйнай рады: Генадзь Бураўкін (старшыня), Людміла Дзіцэвіч, Сяргей Запрудскі, Аляксей Пяткевіч, Аляксей Рагуля, Аляксей Саламонаў, Павел Сцяцко, Алег Трусаў, Эрнэст Ялугін.

**30 кастрычніка.** Адбылася ўстаноўчая канферэнцыя Віцебскай абласной арганізацыі ТБМ. Абраная абласная Рада ў складзе 15 чалавек (старшыня Іосіф Навумчык) і рэвізійная камісія. Прынятая Пастанова, у якой удзельнікі канферэнцыі звярнуліся да ўсіх прыхільнікаў беларускай мовы з заклікам аб’яднаць свае намаганні па яе адраджэнні, пашырэнні ва ўсіх сферах жыцця вобласці. На паседжанні Рады былі абраны намеснікі старшыні – Валянцін Арлоў і Міхаіл Крывёнак; сакратар – Ларыса Ляхоўская.

**Кастрычнік**

Кіраўніцтва факультэта журналістыкі БДУ забараніла Менскай гарадской Радзе ТБМ імя Ф. Скарыны праводзіць у будынку

журфака свае паседжанні, якія ладзіліся тут больш за пяць гадоў.

**1-15 лістапада.** У г. Лідзе адноўлены выхад газеты “Наша слова”, в.а. рэдактара -- Станіслаў Суднік. Акурат цераз паўгода пабачыў свет 15-ы нумар газеты, якая часова спыніла сваё існаванне ў красавіку.

**28 лістапада.** Адбылося сумеснае паседжанне Рэспубліканскай рады ТБМ і ТБШ на тэму: “Беларускамоўнае навучанне: стан, праблемы, шляхі вырашэння”. Прынята пастанова. З дакладам “Школьны этнацыд” выступіў Валер Палсцюк.

**2 лістапада.** Сябры Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ імя Францішка Скарыны ўстанавілі крыж на магіле героя паўстання 1863 года ксендза Адама Фалькоўскага ў Лідскім гарадскім парку. Праз некалькі дзён крыж быў знесены ўладамі.

**Лістапад**

Выйшаў з друку першы нумар весніка “Матчын дар” Касцюковіцкай раённай арганізацыі ТБМ, якую ўзначальвала Людміла Леўчанка.

**26 снежня.** Адбылася справаздачна-выбачая канферэнцыя Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ імя Ф. Скарыны, якую восем гадоў узначальваў Міхась Мельнік. Новым старшынём абраны Лявон Анацка.

**31 снежня.** Віцебская абласная Рада ТБМ пастаўлена на ўлік ва Ўпраўленні юстыцыі Віцебскага аблвыканкама.

**Снежань**

У рамках выдавецкай дзейнасці ТБМ выйшла ў свет кнігаальбом з мастацкага збору Анатоля Белага “Любіць радзіму — шанаваць родную мову”.

# 1998 год

**1 студзеня.** Рашэннем Сакратарыята ТБМ спыніла гаспадарчую дзейнасць. Прададзены шапік.

**13 студзеня.** Адбылося чарговае паседжанне Сакратарыята

Рэспубліканскай рады ТБМ, на якім быў зацверджаны тэкст звароту да рэктараў ВНУ Беларусі аб стане беларускамоўнай адукацыі.

**Студзень**

Гарадзенская абласная арганізацыя Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі “Народная грамада” передала рэдакцыі “Нашага слова” камп’ютар.

**13 лютага.** Кастрычніцкая рада ТБМ сумесна з радай БНФ правялі ў 110-й СШ г. Менска вечарыну для старэйшых класаў з удзелам прафесара Анатоля Грыцкевіча, прысвечаную 160-й гадавіне з дня нараджэння Кастуся Каліноўскага і 135-й гадавіне паўстання 1863 г. на Беларусі.

**21 сакавіка.** Сакратарыят ТБМ разам з іншымі грамадскімі арганізацыямі і партыямі ладзілі пікет у мікрараёне “Серабранка” ў г. Менску. Пікет прысвечаны 80-м угодкам БНР. Бясплатна раздавалі газеты “Наша слова” і “Рабочы”.

Сакратарыят ТБМ і арганізацыя АГП Ленінскага раёна г. Менска з дазволу ўладаў наладзілі пікет з мэтай прыцягнення ўвагі грамадскасці да святкавання 80-х угодкаў Беларускай Народнай Рэспублікі.

Сакратарыят ТБМ, занепакоены знікненнем беларускіх школ і беларускай мовы з ВНУ, разаслаў адмысловыя лісты рэктарам усіх ВНУ Беларусі з просьбай адказаць на 12 пытанняў, звязаных з выкарыстаннем беларускай мовы дзеля аналізу сітуацыі ды інфармавання праз СМІ.

**1-4 красавіка.** Берасцейская абласная арганізацыя ТБМ правяла міжнародную канферэнцыю па тэме “Адукацыя дыяспар” (старшыня аргкамітэта Сяргей Яцкевіч).

**16 красавіка.** Адбылася ўстаноўчая канферэнцыя Лідскай арганізацыі ТБМ. (Дагэтуль дзейнічала Лідская гарадская арганізацыя ТБМ і асобныя суполкі ў раёне). Старшынём абраны Лявон Анацка. Рада ў складзе 10 чалавек. Акрэслена задача арганізацыі — барацьба за беларускамоўныя першыя класы.

**Красавік**

“Наша слова” (№ 15) паведамляе, што ТБМ атрымала судовую пастанову, паводле якой павінна заплаціць за арэнду памяшкання 71.163.000 рублёў. Такая запазычанасць склалася ў

выніку драконаўскай платы за арэнду — 10 даляраў за квадратны метр.

У Гарадзенскім універсітэце імя Янкі Купалы адбылася прэзентацыя новай кнігі доктара філалагічных навук, сябра ТБМ Паўла Сцяцко “Праблемы нормы, культуры мовы”.

**5 траўня.** Была створана Бабруйская суполка ТБМ. Старшынём абраны Віктар Маліноўскі. Пастаўлена на ўлік у гарвыканкаме 21 ліпеня 2000 г.

**6 траўня.** “Наша слова” (№ 17) паведаміла, што Пракуратура Партызанскага раёна г. Менска накіравала ў гаспадарчы суд Менскай вобласці зысковую заяву ў інтарэсах ЖРЭА Партызанскага раёна аб высяленні ТБМ з памяшкання па вул. Румянцава, 13. Прычына — запазычанасць па арэндзе ў суме 240 мільёнаў рублёў. У зысковай заяве гэтыя 240 млн. руб. з улікам пені, інфляцыі і штрафаў ператварыліся ўжо ў 840 млн. руб.

ТБМ выказвае пратэст супраць чарговай хвалі ўціску і заклікае дэмакратычныя арганізацыі падаць свой голас у абарону ТБМ.

**13 траўня.** Менскі абласны гаспадарчы суд разгледзеў справу па зыску ЖРЭА Партызанскага раёна да ТБМ імя Францішка Скарыны аб запазычанасці па арэнднай плаце за сядзібу на вул. Румянцава, 13. Прысуд: на працягу двух тыдняў ТБМ павінна вызваліць памяшканне, а таксама выплаціць на карысць ЖРЭА Партызанскага раёна 540 мільёнаў рублёў з адтэрміноўкай на пяць месяцаў.

“Наша слова” (№ 18) паведамляе, што суд па высяленні ТБМ з памяшкання па вул. Румянцава, 13 перанесены на 11 гадзін 13 траўня.

**28 траўня.** На ўстаноўчым сходзе сяброў ТБМ была адноўлена дзейнасць Асіповіцкай раённай арганізацыі. Старшынёй абрана Таццяна Барэль.

**6 чэрвеня.** Адбылося паседжанне Рэспубліканскай рады ТБМ па пытанні стану беларускамоўнай адукацыі ў ВНУ Беларусі. У прынятай пастанове Рада канстатуе ўзмацненне русіфікатарскай палітыкі ў сферы вышэйшай адукацыі і звяртаецца да Міністэрства адукацыі з шэрагам канкрэтных прапаноў. Акрэслены задачы, якія стаяць перад Сакратарыятам і ўсімі суполкамі.

На паседжанні Рэспубліканскай рады ТБМ разглядалася пытанне пра месца беларускай мовы ў ВНУ, пра стварэнне Бела-

рускага нацыянальнага універсітэта. Прынята адпаведная пастанова. Рада прызначыла рэдактарам "Нашага слова" Станіслава Судніка.

**25-26 чэрвеня.** З сядзібы па вул. Румянцава, 13 высялялі ТБМ, хоць рашэнне суда было абскарджана, і разгляд скаргі яшчэ не адбыўся, а таксама нягледзячы на тое, што 23 чэрвеня камісія Менскага гарвыканкама пастанавіла прымяніць да ТБМ ільготы і арэндная плата замест 10 даляраў за кв. метр стала ўсяго 1 даляр.

**5 ліпеня.** У г. Лідзе выйшаў першы нумар незарэгістраванага літаратурна-мастацкага часопіса "Ад лідскіх муроў". У часопісе рускамоўныя літаратурныя творы друкуюцца толькі ў перакладзе на беларускую мову. Выдавец часопіса -- Лідская гарадская арганізацыя ТБМ імя Францішка Скарыны.

**23 ліпеня.** У г. Менску прайшло нечарговае паседжанне Рэспубліканскай рады ТБМ. Унесены змены ў Статут ТБМ па пытанні адмовы ад камерцыйнай дзейнасці. Прыняты зварот да Прэзідэнта Нацыянальнай Акадэміі навук сп. А. Вайтовіча з патрабаваннем вярнуць беларускую мову як прадмет у аспірантуру.

Створана суполка на Беларускім металургічным заводзе ў г. Жлобіне.

**24 жніўня.** Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь зарэгістравала змены ў Статуце ТБМ, прынятыя на Рэспубліканскай радзе 23 ліпеня.

**29 жніўня.** Сакратарыят ТБМ імя Ф. Скарыны зарэгістраваў Касцюковіцкую суполку ТБМ, старшынёй якой была абрана на ўстаноўчым сходзе Людміла Леўчанка. Вячэрнюю школу, дзе працавала спадарыня Леўчанка, закрылі з прычыны малой колькасці вучняў, і праз год яна аказалася без працы. Усе супрацоўнікі школы, акрамя Людмілы Леўчанкі, былі працаўладкаваныя. З гэтай нагоды на II канферэнцыі Магілёўскай абласной арганізацыі ТБМ была прынята адпаведная рэзалюцыя ў абарону Людмілы Леўчанкі і разасланая ў Касцюковіцкі райвыканкам, Пракуратуру Касцюковіцкага раёна, ГА "Хельсінкі – XXI", Рэспубліканскую раду ТБМ. Суполка не стаяла на ўліку ў мясцовым райвыканкаме, але актыўна ўдзельнічала ў жыцці Таварыства. Яна выдавала газетку "Матчын дар". Зараз не існуе.

**1 верасня.** ТБМ наладзіла пікет у абарону беларускай мовы

ў Ленінградскім завулку г. Менска.

**4 верасня.** Каля станцыі метро “Аўтазаводская” рада ТБМ Заводскага раёна г. Менска наладзіла пікет у абарону беларускай мовы, запіс у ТБМ і падпіску на “Наша слова”.

**16 верасня.** ТБМ і моладзевае грамадскае аб’яднанне ”Хлоя” гербу “Пац” наладзілі мітынг з мэтай падтрымкі беларускамоўнай адукацыі і стварэння Беларускага Нацыянальнага Універсітэта. Прынята рэзалюцыя з патрабаваннем спыніць перавод школ на расійскую мову, зварот да старшыні Савета міністраў Сяргея Лінга і міністра адукацыі Васіля Стражава з патрабаваннем Беларускага Нацыянальнага Універсітэта, зварот да грамадзянаў аб становішчы беларускай мовы. Зачытана заява Сакратарыята ТБМ у падтрымку газеты “Наша Ніва”.

**25 верасня.** Заводская Рада ТБМ г. Менска і сябры суполак Ленінскага раёна правялі каля станцыі метро “Партызанская пікет” у падтрымку беларускамоўнай адукацыі з мэтай абароны беларускіх школ і класаў. Падчас пікету ў ТБМ запісаліся 7 чалавек, распаўсюджана 100 асобнікаў “Нашага слова”.

**15 кастрычніка.** На канферэнцыі Рады ТБМ і Рады БНФ імя Т. Касцюшкі Кастрычніцкага раёна г. Менска прынятая заява “Аб сучасным стане беларускай мовы як падмурка нацыянальнай культуры”, адзін з пунктаў якой гучыць так: “Папярэджваем усіх без выключэння прадстаўнікоў улады, што этнацыд беларускай нацыі — злачынства, якое не мае тэрміну даўнасці”.

**22 кастрычніка.** ТБМ і моладзевая арганізацыя “Хлоя” правялі мітынг у абарону беларускай мовы і беларускамоўнай адукацыі. Прынятыя рэзалюцыі і звароты.

**Кастрычнік**

Падпіска на “Наша слова” ў кастрычніку склала 1470 асобнікаў.

У г. Лідзе адноўлена дзейнасць Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ у складзе Лідскай арганізацыі ТБМ імя Францішка Скарыны. Старшынёй арганізацыі абрана Лілея Сазанавец.

**16 лістапада.** У выніку сустрэч і перамоў з уладамі рознага ўзроўню Таварыству было вернута пад сядзібу памяшканне па

вул. Румянцава, 13. Памер запазычанняў і штрафаў зніжаны з 550 млн. руб. да 240 млн. руб., якія трэба сплаціць да 1 студзеня 1999 г.

**11 снежня.** На паседжанні Рады ТБМ прыняты зварот да ўсіх дэмакратычных сілаў Беларусі з заклікам аб неабходнасці працягваць змаганне за выратаванне роднай мовы. Адказным сакратаром ТБМ абраны Алесь Петрашкевіч.

**Снежань**

Сумесна з Менскай гарадской радай ТБМ праведзены 2 конкурсы: "Беларусь маімі вачыма" (56 работ, 10 пераможцаў) і "Беларусь — наш дом у 21 стагоддзі" (усяго 600 работ, удзельнічалі дзеці ад 6 да 16 гадоў).

**У 1998 годзе**

Праведзена 26 паэтычных "купалаўскіх" сустрэч з удзелам майстроў беларускага слова: Н. Гілевіча, В. Зуёнка, С. Грахоўскага, М. Аўрамчыка, С. Законнікава, А. Пісьмянкова і інш.

# 1999 год

**5 студзеня.** Магілёўская абласная арганізацыя ТБМ (старшыня Міхась Булавацкі) прапанавала абласному ўпраўленню адукацыі правесці матэматычную алімпіяду на беларускай мове. Прапанова была прынятая, і першая беларускамоўная матэматычная алімпіяда адбылася. Удзел бралі 27 навучэнцаў 9-11 класаў школ і ліцэяў Магілёўшчыны.

**12 і 26 студзеня.** На паседжаннях Сакратарыята ТБМ разглядаліся пытанні падрыхтоўкі да чарговага VI з'езду ТБМ. Зацверджана заява адносна дыскрымінацыі і ігнаравання беларускай мовы пры падпісанні Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь і Прэзідэнтам Расійскай Федэрацыі 25 снежня 1998 г. дамоў аб аб'яднанні Беларусі і Расіі.

Прыняты зварот да ўсіх арганізацый ТБМ аб пікетаванні супраць таго, што перапіс насельніцтва будзе рабіцца па-расейску.

**Сакавік**

Створана Бешанковіцкая суполка ТБМ. Старшынёй абраная Валянціна Гракун.

**Красавік**

ТБМ звярнулася да прадпрымальнікаў з просьбай аб фінансавай дапамозе ў правядзенні VI з’езду ТБМ.

Адноўлена Слонімская суполка ТБМ, кіраўніком яе абрана Таццяна Трафімчык.

**14 красавіка.** Выйшаў 400-ты нумар “Нашага слова”, 70 з іх выпушчаны ў г. Лідзе.

**16 красавіка.** На Сакратарыяце ТБМ была прынятая заява з прычыны падпалу яўрэйскай сінагогі ў Менску 12 красавіка.

**17 красавіка.** У Доме літаратара прайшоў **VI з’езд ТБМ**. Прысутнічала 192 дэлегаты, якія прадстаўлялі **2700** сяброў ТБМ, што прайшлі перарэгістрацыю. З’езд заслухаў справаздачныя даклады: намесніка старшыні ТБМ Алега Трусава “Два гады дзейнасці, стан спраў, праблемы, перспектывы”, старшыні Рэвізійнай камісіі Ўладзіміра Кішкурны. З’езд задаволіў просьбу Генадзя Бураўкіна аб адстаўцы і абраў старшынём ТБМ Алега Трусава, намеснікамі Міколу Лавіцкага (першы намеснік) і Людмілу Дзіцэвіч.

З’езд абраў Рэспубліканскую раду ТБМ у складзе 49 чалавек і Рэвізійную камісію -- 5 чалавек (старшыня Ўладзімір Кішкурна), зацвердзіў Станіслава Судніка галоўным рэдактарам “Нашага слова”. Прыняты шэраг дакументаў.

Адбылося першае паседжанне Рэспубліканскай рады. Абраны Сакратарыят (12 сяброў).

**РЭСПУБЛІКАНСКАЯ РАДА ГА**
**“ТБМ ІМЯ ФРАНЦІШКА СКАРЫНЫ”,**
**абраная на VI з’ездзе ТБМ**

1. Аксак Валянціна, Менск
2. Арлоў Уладзімір, Менск
3. Багданкевіч Святлана, Менск
4. Белы Анатоль, Менск
5. Булавацкі Міхась, Магілёў
6. Бураўкін Генадзь, Менск
7. Вабішэвіч Віктар, Столін
8. Валынец Алена, Менск
9. Вячорка Вінцук, Менск
10. Гарэцкі Радзім, Менск
11. Гілевіч Ніл, Менск

12. Глушко Аляксей, Менск
13. Гуркоў Сяргей, Менск
14. Гурыновіч Алесь, Менск
15. Дадзькоў Кастусь, Менск
16. Дзіцэвіч Людміла, Менск
17. Завальнюк Уладзіслаў, Менск
18. Запрудскі Сяргей, Менск
19. Зуёнак Васіль, Менск
20. Іпатава Вольга, Менск
21. Кавальчук Раман, Менск
22. Кірылаў Герман, Полацк
23. Красоўскі Леанід, в. Мікулічы, Бярэзінскага р-на
24. Кручкоў Сяржук, Менск
25. Кузьміч Вольга, Менск
26. Лавіцкі Мікола, Менск
27. Лугоўскі Аляксандр, Менск
28. Лыч Леанід, Менск
29. Майсеня Людміла, Менск
30. Макарэвіч Віталь, Менск
31. Марачкіна Ірына, Менск
32. Мацюкевіч Марыя, Салігорск
33. Навумчык Іосіф, Віцебск
34. Нагорны Юры, в. Барань, Аршанскага р-на
35. Палсцюк Валеры, Менск
36. Пяткевіч Аляксей, Гародня
37. Раманцэвіч Валянціна, Менск
38. Савіцкі Мікалай, Менск
39. Санько Зміцер, Менск
40. Содаль Уладзімір, Менск
41. Спосабаў Іван, в. Замасточча, Менскага р-на
42. Суднік Станіслаў, Ліда
43. Трусаў Алег, Менск
44. Хрол Часлаў, Полацк
45. Цыхун Генадзь, Менск
46. Шпакоўскі Юры, Дзяржынск
47. Ялугін Эрнэст, Менск,
48. Яфрэмаў Алег, Менск
49. Яцкевіч Сяргей, Берасце

**5 траўня.** У сядзібе ТБМ адбылася пасляз’ездаўская прэс-канферэнцыя па выніках VI з’езду ТБМ.

Запачаткаваў працу відэаклуб, створаны Віталём Станішэў-

скім. Яго мэта — пашырэнне беларускамоўнага відэа. Паказаны першы відэафільм у перакладзе на беларускую мову -- “Пяты элемент”.

**6 траўня.** На паседжанні Сакратарыята ТБМ прыняты заявы: “Супраць праследу Саюза палякаў у Беларусі”, “Захаваем назву “Праспект Францішка Скарыны” ў цэнтры нашай старадаўняй сталіцы”.

**11 траўня.** У сядзібе ТБМ улады шукалі бомбу. Калі прыехалі тэлевізійшчыкі на чале з Юрыем Хашчавацкім, яны зніклі. Алег Трусаў з гэтай нагоды зазначыў: “Тут галоўная бомба для ўладаў — беларуская мова”.

**13 траўня.** На паседжанні Сакратарыята зарэгістраваны Берасцейская гарадская арганізацыя ТБМ, суполка ТБМ Віленскага цэнтра “Дэмакратыя дзеля Беларусі”.

**14 траўня.** На паседжанні Рэспубліканскай рады ТБМ абмеркавана праграма сп. Шастаковіча, выкладчыка Нацыянальнага тэхнічнага універсітэта, па беларускай мове для тэхнічных вышэйшых установаў, а таксама пытанні, звязаныя са святкаваннем 10-х угодкаў ТБМ і правядзеннем установачнай канферэнцыі Менскай абласной і чарговай канферэнцыі Менскай гарадской арганізацыі ТБМ. Зацверджана кандыдатура Ірыны Марачкінай на пасаду адказнага сакратара ТБМ.

**Травень**

Бешанковіцкая суполка ТБМ падрыхтавала да друку і выдала зборнік вершаў сябра Таварыства Алеся Бабаева “Ля вогнішча”.

Асіповіцкая раённая арганізацыя зладзіла творчую сустрэчу з Лідзіяй Савік.

**10 чэрвеня.** Прынятае рашэнне аб арганізацыі ў сядзібе ТБМ Кніжнага клуба. Ініцыятыва сябра ТБМ Зміцера Цехановіча.

**15 чэрвеня**. Адбылася ўстаноўчая канферэнцыя па стварэнні Магілёўскай абласной арганізацыі ТБМ. Абрана Рада ў складзе Міхася Булавацкага (старшыня), Яраслава Клімуця (намесніка), Андрэя Кавалёва (сябра рады). (Пастаўлена на ўлік 3 траўня 2000 г.)

Магілёўская абласная арганізацыя ТБМ праводзіць бестэрміновыя акцыі “Мова вулічных шыльдаў”, “Мова службовай

перапіскі”.

Сябра Таварыства, заслужаны дзеяч культуры Валянцін Ермаловіч стварыў і да апошніх дзён жыцця кіраваў народным тэатрам, які быў вядомы ўсёй Беларусі. Сам Валянцін Іванавіч заяўляў, што выконвае сваю рэжысёрскую працу як заданне ТБМ і лічыць яе адной з формаў дзейнасці Таварыства.

**17 чэрвеня.** Зацверджаны план работы Кніжнага клуба на ліпень-жнівень. Першыя заняткі — 11 ліпеня. Тэма: “Беларуская літаратура 20-х гг. XX ст.”

**27 чэрвеня.** Прайшлі ўрачыстасці, прысвечаныя 10-годдзю заснавання ТБМ. У касцёле св. Сымона і Алены адбылося паседжанне Рэспубліканскай рады, святочны канцэрт, а ўвечары — адмысловая імша за беларускую мову, якую правіў ксёндз Уладзіслаў Завальнюк. Набажэнствы за беларускую мову прайшлі ў многіх праваслаўных, каталіцкіх і пратэстанцкіх храмах, у тым ліку ў Жыровіцкім манастыры, Петрапаўлаўскім саборы ў г. Менску. 26 чэрвеня за беларускую мову маліліся ў мячэцях беларускіх татараў.

У рамках святкавання праведзена Гарадзенская абласная ўстаноўчая канферэнцыя. Старшынём абраны Алесь Місцюкевіч.

**29 чэрвеня.** Дзяржаўны камітэт па друку зарэгістраваў часопіс “Лідскі летапісец”. Выдавец часопіса -- Лідская гарадская арганізацыя ТБМ імя Францішка Скарыны.

**15 ліпеня.** Прынята заява Сакратарыята ТБМ з нагоды перамогі пад Грунвальдам: “На Грунвальдскім полі была выратавана беларуская мова.”

**29 ліпеня.** На паседжанні Сакратарыята ТБМ прынятыя: заява ТБМ “Аб адкрыцці Беларускага нацыянальнага універсітэта, вяртанні беларускай мовы ў ВНУ, школы, дзіцячыя садкі”, зварот да беларускіх рабочых аб вяртанні да роднай мовы, яе значэнні ў пабудове незалежнай дзяржавы. Вырашана разаслаць зварот у СМІ.

Адзначалася таксама, што намаганнямі ТБМ захаваны беларускамоўны 10 клас у СШ 180 г. Менска.

**12 жніўня.** Прыняты зварот Сакратарыята ТБМ да юрыстаў і суддзяў Беларусі аб неабходнасці выкарыстання беларускай мовы ў судовай і юрыдычнай практыцы.

**Жнівень**

Пабачыў свет першы нумар інфармацыйна-публіцыстычнага бюлетэня Бешанковіцкай суполкі ТБМ “Кардон”.

**1 верасня.** Сакратарыят арганізаваў і правёў пікет “Вернем народу нашу мову”.

**2 верасня.** Сакратарыят ТБМ зацвердзіў Палажэнне аб бібліятэцы Кніжнага клуба ТБМ.

Прынята заява “Мы павінны памятаць пра верасень 1939 г.” з прычыны інтэграцыйных гульняў кіраўніцтва краіны.

**5 верасня.** Адбылося афіцыйнае адкрыццё бібліятэкі Кніжнага клуба ТБМ, якая будзе працаваць 2 разы на тыдзень па 3 гадзіны.

**6 верасня.** ТБМ прайшло перарэгістрацыю ў Міністэрстве юстыцыі Рэспублікі Беларусь.

**8 верасня.** Адбыўся мітынг ТБМ у абарону роднай мовы. Прыняты зварот удзельнікаў мітынгу да кіраўніка Беларускай дзяржавы аб неабходнасці прыняцця неадкладных захадаў па адкрыцці першага Нацыянальнага універсітэта, а таксама зварот да гарадской улады г. Менска з прапановамі па забеспячэнні рэальнага статусу беларускай мовы ва ўсіх сферах жыцця сталіцы.

**12 верасня.** Распачала сваю дзейнасць бібліятэка Кніжнага клуба ТБМ. У фондзе бібліятэкі — 1000 адзінак. Працуе 3 разы на тыдзень. Загадчыца — Таццяна Вабішчэвіч. Яна стварыла і пастаянна папаўняе электронны каталог на Інтэрнэт-старонцы.

**26 верасня.** Адбылася справаздачна-выбарчая канферэнцыя Менскай гарадской арганізацыі ТБМ. Старшынёй абрана Леанарда Мухіна.

**Верасень**

Асіповіцкая раённая арганізацыя зладзіла пікет у абарону роднай мовы.

**7 кастрычніка.** ТБМ брала ўдзел у навукова-практычнай канферэнцыі “Універсітэты Ельскіх”, якая адбылася ў Беларускім універсітэты культуры.

**10 кастрычніка.** На Радзе ТБМ зацверджана ініцыятыўная група па распрацоўцы Статута і Палажэння аб Беларускім нацыянальным універсітэце, а таксама склад камісіяў ТБМ, іх кіраўнікі; абмеркаваныя два ўзоры Пасведчання сябра ТБМ: з фотаздымкам і без яго. Прынятыя заявы: "Спыніла існаванне яшчэ адна беларускамоўная газета" з нагоды закрыцця "Навінаў" і "Пераслед сяброў ТБМ працягваецца" з нагоды нападу на гістарычна-этнаграфічны музей "Засцянковая хатка" у в. Вашунова Докшыцкага р-на і збіцця старшыні ТБМ Віленскага краю Юрыя Гіля. Ухваленая рэцэнзія Сяргея Запрудскага на "Заўвагі і прапановы да выкладання беларускай мовы ў ВНУ", пададзеныя секцыяй беларускай мовы кафедры беларускай і рускай моў БДПА.

**20 кастрычніка.** ТБМ і ТБШ г. Бабруйска прынялі зварот да ўладаў горада ў абарону беларускай мовы.

**21 кастрычніка.** Сакратарыят ТБМ прыняў заяву з нагоды апублікаванага ў СМІ праекта Дамовы аб утварэнні адзінай дзяржавы.

**21 лістапада.** На паседжанні Рэспубліканскай Рады ТБМ быў абмеркаваны план работы Таварыства на 2000 г., створаны аргкамітэт па правядзенні Агульнабеларускай канферэнцыі "Закон "Аб мовах" — вынікі і перспектывы", прысвечанай 10-годдзю Закона аб мовах (старшыня Леанід Лыч). Прынятая адпаведная пастанова. На паседжанні адбылася прэзентацыя кніг: "Дзесяць вякоў беларускай гісторыі" Ул. Арлова і Г. Сагановіча; "Беларусь. Гістарычнае падарожжа для дзяцей" К. Тарасава; "Мой Грунвальд" С. Судніка.

**24 лістапада**. Асіповіцкая раённая арганізацыя ТБМ пастаўлена на ўлік у раённым выканкаме.

**Лістапад.** Аднавіў сваю дзейнасць Бацькоўскі камітэт пад кіраўніцтвам Валера Палсцюка.

Лідская гарадская арганізацыя ТБМ імя Ф. Скарыны выйшла са складу Лідскай арганізацыі, ізноў стала самастойнай юрыдычнай асобай. У склад арганізацыі ўвайшлі чатыры тэрытарыяльныя суполкі г. Ліды і арганізацыя Лідскай педнавучальні. Старшынём Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ імя Ф. Скарыны абраны Станіслаў Суднік. Асноўная задача арганізацыі -- забеспячэнне эканамічнага боку выдання газеты "Наша слова".

**1 снежня.** У сядзібе ТБМ адбылося першае паседжанне ініцыятыўнай групы па стварэнні Беларускага нацыянальнага універсітэта, у склад якой увайшлі 68 найаўтарытэтнейшых дзеячаў беларускай навукі і культуры. Кіраўніком ініцыятыўнай групы абраны Радзім Гарэцкі. Абмеркавана структура навучальнай установы.

**2 снежня.** Сабрана 12300 подпісаў за стварэнне Беларускага нацыянальнага універсітэта.

Суполка ТБМ "Сотвар" Менскай гарадской арганізацыі Савецкага раёна выпусціла кішэнны каляндарык "Гербы беларускіх местаў".

**5 снежня.** Падведзены вынікі конкурсу "Беларусь — мая Радзіма", які быў ініцыяваны ТБМ.

**23 снежня.** ТБМ удзельнічала ў кантролі за перапісам насельніцтва. Зафіксавана 120 парушэнняў. Прынята заява Сакратарыята з нагоды апублікавання афіцыйных вынікаў перапісу насельніцтва 1999 г. з патрабаваннем ад кіраўніцтва краіны забяспечыць беларускай мове рэальны статус дзяржаўнай, стварыць неабходныя ўмовы для функцыянавання беларускай мовы ва ўсіх сферах жыцця ў Рэспубліцы Беларусь у адпаведнасці з вынікамі перапісу насельніцтва.

Разам з Архівам Найноўшай гісторыі праведзены конкурс "Паўсядзённае жыццё ў Беларусі: 1945 — 1965".

ТБМ да свайго 10-гадовага юбілею выдала кішэнны каляндарык на 2000 год. Макет і дызайн выканаў сябра ТБМ Уладзімір Цярохін. Наклад — 10 тысяч асобнікаў.

**У 1999 годзе**

З ініцыятывы старшыні Лёзненскай рады ТБМ Галіны Варатынскай пры рэдакцыі раённай газеты "Патрыёт" створана школа юнкораў.

Гарадоцкая рада ТБМ стварыла моладзевы літаратурны клуб "Парнас", у якім ладзяцца сустрэчы з паэтамі, празаікамі.

Асіповіцкая раённая арганізацыя ТБМ зладзіла вечарыну, прысвечаную Наталлі Арсенневай і Масею Сяднёву.

У выдавецтве "Беларускі кнігазбор" выйшла кніга Уладзіміра Высоцкага "Я не падману". Пераклад на беларускую мову зрабіў старшыня Магілёўскай абласной рады Міхась Булавацкі.

У Лідзе выйшла кніга паэзіі старшыні Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ Станіслава Судніка "Мой Грунвальд".

# 2000 год

**З 1 студзеня.** Лідская гарадская арганізацыя ГА “ТБМ імя Францішка Скарыны” павяла самастойную гаспадарчую дзейнасць і бухгалтарскі ўлік па выданні газеты “Наша слова”. Да гэтага гаспадарчую дзейнасць па выданні газеты вяло лідскае ТДА “Прагрэс” (дырэктар - сябар ТБМ Мікола Сцепасюк).

**12 студзеня.** У сядзібе ТБМ у г. Менску адбылося чарговае паседжанне ініцыятыўнай групы па стварэнні Беларускага нацыянальнага універсітэта. Абмяркоўвалася канцэпцыя БНУ і канцэпцыя прыродазнаўчага факультэта.

**26 студзеня.** У сувязі з 10-годдзем Закона “Аб мовах у Беларускай ССР” (26 студзеня 1990 г.) у касцёле св. Сымона і Алены ў г. Менску адбылося ўрачыстае паседжанне Рэспубліканскай Рады ТБМ, на якім выступілі Ніл Гілевіч, Генадзь Бураўкін, Леанід Лыч. Падчас паседжання Яўген Цумараў рэпрэзентаваў сваю кнігу **“Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны. Дакументы і матэрыялы. 1989 — 1997.”** Новаабраныя сябры ТБМ атрымалі для сваіх суполак ў якасці падарунка харугвы з сімволікай ТБМ, якія вырабіла Таварыству (100 штук) Баранавіцкая фабрыка. У мастацкай частцы свята бралі ўдзел Галіна Дзягілева, Эдуард Акулін, Валер Пазнякевіч, танцавальна-спеўны гурт “Берагіня” з Мётчанскай школы Барысаўскага раёна, ансамбль “Свята”.

**28 студзеня.** Пінская гарадская арганізацыя ТБМ ладзіла паседжанне з нагоды 10-годдзя прыняцця Закона “Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь”.

**Студзень**

Пабачыла свет кніга ТБМ **“Аняменне. З хронікі знішчэння беларускай мовы”.** Старшыня рэдакцыйнай калегіі Людміла Майсеня. Запачаткаваў працу Аляксей Саламонаў. Фундатар выдання Міхаіл Пастухоў.

Уладзімір Арлоў, сябар Рады ТБМ, ахвяраваў Таварыству 70 асобнікаў сваёй кнігі “Адкуль наш род”.

Пабачыў свет першы нумар бюлетэня Верхнядзвінскай раённай рады ТБМ “Рубон” (старшыня Антон Бубала, намеснік Валянціна Кудлацкая).

**3 лютага.** Віцебская гарадская рада ТБМ правяла канферэнцыю для настаўнікаў беларускай мовы і літаратуры, выхавацеляў дзіцячых садкоў з некаторым удзелам мясцовых уладаў “Стан беларускай мовы і шляхі пашырэння сферы яе грамадскага ўжытку”. Прынята аднайменная рэзалюцыя.

**24 лютага.** Шаркаўшчынская раённая арганізацыя ТБМ (старшыня Ада Райчонак) пастаўлена на ўлік у мясцовым райвыканкаме. Сумесна з Культурна-асветніцкім цэнтрам імя Язэпа Драздовіча (КАЦ імя Я. Драздовіча) аб’яднанне выдае бюлетэнь “Бацькаўшчына”, ладзіць сустрэчы з паэтамі і пісьменнікамі, бярэ ўдзел у арганізацыі і правядзенні штогадовых мастацкіх пленэраў.

**26 лютага.** У Доме літаратара ў г. Менску сумесна з Саюзам пісьменнікаў праведзена навукова-практычная канферэнцыя “Закон аб мовах — вынікі і перспектывы”. З дакладамі выступілі Леанід Лыч, Аляксандр Падлужны, Міхаіл Пастухоў, Міхась Яўневіч. На канферэнцыі адбылася прэзентацыя кнігі “Аняменне. З хронікі знішчэння беларускай мовы”.

**Люты**

Камісія ТБМ па тапаніміцы і гістарычнай сімволіцы выдала кішэнны каляндарык на 2000 г. “Беларуская вайсковая сымболіка. XX ст.”, з заклікам “Далучайцеся да вайскова-геральдычнай працы ТБМ” і выявай беларускай вайсковай сімволікі XX ст. Распрацоўка Віктара Астрогі. Наклад — 1000 асобнікаў.

**14 сакавіка**. Лёзненская раённая рада ТБМ зладзіла сустрэчу вучняў старэйшых класаў СШ № 2 з Генадзем Бураўкіным і Іосіфам Навумчыкам.

**15 сакавіка.** У 11 нумары “Нашага слова” надрукаваны праект Канцэпцыі стварэння Беларускага нацыянальнага універсітэта (БНУ).

**21 сакавіка.** ТБМ зладзіла вечарыну, прымеркаваную да 160-х угодкаў Францішка Багушэвіча, якая адбылася ў сталічным кінатэатры “Змена”. Да юбілею пісьменніка ТБМ выдала паштоўку і кішэнны каляндарык з выявай Ф. Багушэвіча. Дызайн Ігара Марачкіна. Выкарыстана фота Ф. Багушэвіча 1890-х гадоў з фондаў Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі, а таксама фота Уладзіміра Содаля “Свіраны”.

**23 сакавіка.** На сакратарыяце ТБМ прынята заява ў сувязі з 82-мі ўгодкамі БНР.

Абмяркоўвалася пытанне ўдзелу ТБМ у грамадска-палітычным дыялогу, які ладзіла Адміністрацыя Прэзідэнта Беларусі. Кіраўніцтва ТБМ запатрабавала даслаць у арганізацыю праект рэгламенту на дзяржаўнай беларускай мове.

**24 сакавіка.** Таварыства атрымала факсам вышэйзгаданы праект рэгламенту на беларускай мове і 27 сакавіка накіравала на адрас першага намесніка Кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Ул. Русакевіча свае прапановы і заўвагі.

**29 сакавіка**. Па рашэнні райвыканкама Бешанковіцкая суполка ТБМ пастаўлена на ўлік.

**Сакавік**

Таварыства беларускай мовы абвясціла конкурс сярод школьнікаў і студэнтаў г. Менска “Ведайце свой горад”.

**16 красавіка.** На паседжанні Рэспубліканскай Рады ТБМ заслуханы справаздачны даклад старшыні ТБМ Алега Трусава аб дзейнасці Рады, а таксама старшыняў камісіяў ТБМ за год. Адзначаны актыўны збор подпісаў за стварэнне БНУ. Сябры ТБМ Ліды і Лідскага раёна сабралі 6000 подпісаў. Зацверджана пастанова “Аб прыняцці Канцэпцыі і Статута Беларускага нацыянальнага універсітэта”. (Распрацоўка Людмілы Майсені.)

У межах Рады адбыліся Гомельская і Берасцейская абласныя справаздачныя канферэнцыі.

**28 красавіка**. Слонімская суполка ТБМ пастаўлена на ўлік у мясцовым гарвыканкаме.

**Красавік**. Лёзненская раённая арганізацыя ТБМ распачала выпуск асветніцкай грамадска-культурнай газеты Лёзненшчыны “Спадчына”. Заснавальнік і рэдактар -- старшыня Міхаіл Космыкаў.

**4 траўня.** На паседжанні Сакратарыята ТБМ прынята заява “Аб дыскрымінацыі беларускай мовы ў войску”.

**10 траўня.** У кінатэатры “Змена” была наладжана кінавечарына з Алесем Петрашкевічам, прымеркаваная да 70-годдзя пісьменніка. Дэманстравалася два фільмы па сцэнарыях драматурга —

“Францыск Скарына” і “Гетман найвышэйшы”. Бралі ўдзел этнограф Іван Цішчанка і паэт Міхась Башлакоў.

**Травень**

ТБМ сумесна з ТБШ правялі конкурс на лепшую вясковую беларускую школу па захаванні нацыянальнай гістарычнай і духоўнай спадчыны. У конкурсе бралі ўдзел 50 школ з усіх абласцей краіны. Падвядзенне вынікаў і ўзнагароджанне пераможцаў адбылося на базе Менскага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта. Школы-ўдзельніцы конкурсу былі ўзнагароджаны адмысловай Шанавальнай граматай, праект якой быў распрацаваны старшынём выдавецкай камісіі ТБМ Кастусём Дадзьковым.

Асіповіцкая раённая арганізацыя запрасіла на сустрэчу з аматарамі роднага слова паэта Генадзя Бураўкіна.

Верхнядзвінская раённая рада ТБМ брала ўдзел у правядзенні конкурсу беларускай песні на настаўніцкім турыстычным злёце.

**1 чэрвеня.** Сакратарыят ТБМ звярнуўся да кіраўніка дзяржавы па пытанні ўдзелу ТБМ у грамадска-палітычным дыялогу па абмеркаванні пытанняў аб наданні беларускай мове рэальнага статусу дзяржаўнай і стварэнні Беларускага нацыянальнага ўніверсітэта.

**7 чэрвеня.** У “Нашым слове” надрукаваная канцэпцыя стварэння Беларускага нацыянальнага ўніверсітэта, падрыхтаваная Барысам Кітом.

**15-22 чэрвеня.** Праведзена дабрачынная акцыя па раздачы кніг школам Партызанскага раёна г. Менска.

**21 чэрвеня.** У кінатэатры “Змена” прайшла справаздачна-выбарчая канферэнцыя Менскай гарадской арганізацыі ТБМ, на якой старшынёй абрана Алена Анісім.

У гэты ж дзень тут была праведзена кінавечарына да 100-х угодкаў Забэйды-Суміцкага.

**23 чэрвеня.** Асіповіцкая раённая арганізацыя ТБМ звярнулася да старшыні райвыканкама па пытанні стану беларускай мовы ў сярэдніх школах.

**Чэрвень**

Пры садзеянні Таварыства беларускай мовы пабачыла свет

брашура Кастуся Тарасава “Крыж памяці”.

**2 ліпеня.** ТБМ прыняло ўдзел у IV кангрэсе дэмакратычных сілаў.

**13 ліпеня.** Выраблены Пасведчанні сябра ТБМ двух узораў — з фотаздымкам і без яго, а таксама кішэнныя каляндарыкі на 2000-2001 навучальныя гады да 90-гадовага юбілею Ларысы Геніюш з выкарыстаннем жывапіснага партрэта паэткі работы мастака Аляксея Марачкіна. Дызайн Ігара Марачкіна.

**З 15 ліпеня 2000 г.** уступілі ў дзеянне пасведчанні сябра ТБМ новага ўзору. Пасведчанне за № 1 атрымаў першы старшыня Таварыства — Ніл Гілевіч.

**17 ліпеня.** ТБМ атрымала ад Міністэрства юстыцыі пісьмовае папярэджанне ў сувязі з тым, што аб’яднанне карыстаецца бланкам, на якім пазначана назва арганізацыі, што не адпавядае статутнай, а на пячатцы размешчана сімволіка, якая адрозніваецца ад зарэгістраванай.

**21 ліпеня.** Бабруйская суполка ТБМ пастаўлена на ўлік у гарвыканкаме.

**27 ліпеня.** Адразу ў двух месцах — ля плошчы Ванеева і ля стадыёна “Трактар” у г. Менску праведзены пікеты ў абарону беларускай мовы і збор подпісаў за Беларускі нацыянальны універсітэт.

**29 ліпеня.** ТБМ прыняло ўдзел ва Ўсебеларускім з’ездзе, які меў за мэту захаванне дзяржаўнасці Беларусі, пошукі шляхоў павышэння дабрабыту народа.

У Палацы культуры “Сукно” адбылося паседжанне Рады ТБМ, на якім заслухана справаздача старшыні Алега Трусава аб выкананні плана работы за 2-гі, пачатак 3-га квартала. Абмеркавана пісьмовае папярэджанне Міністэрства юстыцыі, заслухана інфармацыя Алега Трусава аб сустрэчы з міністрам адукацыі Васілём Стражавым па пытанні адкрыцця ў краіне Беларускага нацыянальнага універсітэта.

**Ліпень-жнівень**

Верхнядзвінская раённая Рада ТБМ прымала ўдзел у пілігрымках у Будслаў, Мосар, Расіцу.

**9 жніўня.** У кінатэатры “Змена” адбылася вечарына да юбілею Ларысы Геніюш -- 90-годдзя ад Дня нараджэння.

**8 верасня.** Старшыня Віцебскай гарадской рады ТБМ Валянцін Арлоў праз газету “Кур’ер” звярнуўся з адкрытым лістом да старшыні Віцебскага абласнога савета дэпутатаў сп. Ацясава з нагоды выказвання апошняга на абласным тэлебачанні аб тым, што аб’яднанне Беларусі і Расіі ў адну дзяржаву і надалей дазволіць замацоўваць этнічныя карані беларусаў.

**Верасень 2000 - чэрвень 2001 гг.**

Рупнасцю Святланы Багданкевіч арганізаваныя курсы па вывучэнні беларускай мовы: для пачаткоўцаў (выкладчык - Станіслава Філіповіч), для тых, хто ўдасканальвае сваё веданне мовы (выкладчык -- Валянціна Раманцэвіч) і па культуры мовы (выкладчык - Людміла Дзіцэвіч).

**Верасень**

Таварыства беларускай мовы падвяло вынікі конкурсу сярод школьнікаў і студэнтаў г. Менска “Ведайце свой горад”.

Чэрыкаўская суполка ТБМ сумесна з Клубам творчай інтэлігенцыі “Натхненне” арганізавала выставу жывапісу і правяла творчую сустрэчу са сваім земляком -- мастаком Аляксеем Марачкіным.

**8 кастрычніка.** З ініцыятывы Вячкі Станкевіча пачаў сваю працу семінар “Я магу жыць лепей”.

**14 кастрычніка.** У кінатэатры “Змена” праведзены шэраг мерапрыемстваў:

- навукова-практычная канферэнцыя “Беларуская тапаніміка. Гісторыя і сучаснасць”. Прачытаны 10 дакладаў, прынятая рэзалюцыя;
- паседжанне Рэспубліканскай Рады. На Радзе прынятыя пастановы: “Аб асноўных кірунках дзейнасці ТБМ з лістапада 2000 г. па красавік 2001 г.”, “Аб змяненні памеру штогадовых складак сяброў ТБМ”, “Аб распрацоўцы канцэпцыі новай газеты ТБМ”;
- вечарына ў сувязі з 60-годдзем Кастуся Тарасава, выбітнага беларускага пісьменніка і гісторыка.

**25 кастрычніка.** “Наша слова” атрымала неабгрунтаваннае папярэджанне ад Дзяржаўнага камітэта па друку Рэспублікі

Беларусь за публікацыю звароту Гарадзенскай арганізацыі дэмакратычных ветэранаў.

**Кастрычнік**

У сядзібе ТБМ адкрылася пастаянная выстава беларускіх кніг, аўдыё- і відэакасет.

Па просьбе Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь сябры Таварыства распачалі працу па перакладзе на беларускую мову вайсковых статутаў. Сябра Рады Вольга Кузьміч на грамадскіх пачатках распачала працу па перакладу Дысцыплінарнага статуту.

**Кастрычнік 2000 г.-травень 2001 г.** Бабруйская суполка ТБМ сабрала 235 подпісаў грамадзянаў пад зваротам у абарону беларускай мовы, які быў дасланы гарадскім уладам. Аднак пасля гэтага звароту моўная сітуацыя не толькі не палепшылася, але і прыняла выродлівыя формы. Тады сябры ТБМ звярнуліся да кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Урала Латыпава з просьбай спыніць парушэнне Канстытуцыі і моўнага заканадаўства. Бабруйская гарадская арганізацыя вядзе няспынную працу па пашырэнні сферы ўжытку беларускай мовы ў г. Бабруйску.

**8 лістапада.** “Наша слова” паведамляе, што на 1 лістапада 2000 г. сабрана 33926 подпісаў за адкрыццё Беларускага нацыянальнага універсітэта.

**10-11 лістапада.** Берасцейская гарадская арганізацыя ТБМ (старшыня Марыя Новік) брала ўдзел у арганізацыі і правядзенні навуковай канферэнцыі “Шануйце мову, каб не ўмёрлі”, прысвечаную 160-м угодкам з дня нараджэння Францішка Багушэвіча.

**11 лістапада.** Дзяржаўны камітэт Рэспублікі Беларусь па друку зарэгістраваў часопіс “Ад лідскіх муроў”. Выдавец часопіса - Лідская гарадская арганізацыя ТБМ імя Францішка Скарыны.

**26 лістапада.** У кінатэатры “Змена” ТБМ святкавала 70-ыя ўгодкі Уладзіміра Караткевіча. Да юбілею пісьменніка Таварыства ажыццявіла выпуск кішэннага каляндарыка на 2001 год (макет Міколы Купавы). Дэманстраваліся кінастужкі “Уладзімір Караткевіч. Мсціслаў”, “Хрыстос прызямліўся ў Гародні” (некалькі частак).

**7 снежня.** Джяржаўны камітэт па друку Рэспублікі Беларусь адмяніў вынесенае раней рэдакцыі “Наша слова” папярэджанне.

**21 снежня.** Прыняты зварот Сакратарыята ТБМ да грамадзянаў, партый і грамадскіх арганізацый з нагоды распрацаванага Нацыя-нальным цэнтрам законатворчай дзейнасці пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь новага праекту Закона “Аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь”, якім мяркуецца амаль цалкам знішчыць беларускамоўную адукацыю.

Прынята заява, у якой выказаны рашучы пратэст супраць новага праекту Закона “Аб адукацыі”.

**Снежань**

Магілёўская абласная арганізацыя ТБМ выпусціла кішэнны каляндарык на 2001 і 2002 гг., у якім пазначаны імёны, што складаюць гонар беларускай гісторыі, знакавыя даты беларускай гісторыі: святочныя, горычныя, змрочныя. Выкарыстаны творы мастака Базыля Камарова, макет Міхася Булавацкага і Андруся Слуцкага.

**У 2000 годзе**

Гарадоцкая рада ТБМ правяла віктарына па Тарасазнаўству.

Слонімская суполка ТБМ распачала выпуск газеты “Ветразь надзеі”, на старонках якой будуць друкавацца дзіцячыя вершы, апавяданні.

Слонімская суполка ТБМ разам з маладзёжным аб’яднаннем “Вятрак” правяла гарадскі конкурс сачыненняў “Беларусь – мая Радзіма” і па выніках гэтага конкурсу арганізавала выданне зборніка “Паэтычная Слонімшчына”.

Лёзненская раённая рада ТБМ разам з бібліятэкай распачала гістарычна-літаратурныя чытанні “Славутыя імёны Беларусі”. Першае паседжанне прысвечана асветніцкай дзейнасці Еўфрасінні Полацкай і князёўны Рагнеды.

# 2001 год

**27 студзеня.** У сядзібе ТБМ адбылося першае паседжанне рабочай групы па падрыхтоўцы “Стратэгіі развіцця беларускай мовы ў XXI стагоддзі”. Разгледжаны напрацоўкі Магілёўскай, Лідскай, Светлагорскай арганізацый ТБМ.

**30 студзеня.** Баранавіцкая рада ТБМ арганізавала творчую сустрэчу з Анатолем Вярцінскім.

**Студзень**

Магілёўская абласная арганізацыя ТБМ сумесна з іншымі грамадскімі аб'яднаннямі і дзяржаўнымі структурамі правяла інтэлектуальнае спаборніцтва для старшакласнікаў вобласці "Беларускае пяціборства".

Верхнядзвінская раённая Рада ТБМ брала ўдзел у прэзентацыі альманаха "Дзвіна", у семінары па школьным краязнаўстве, раённым конкурсе "Легенды і паданні".

**3 лютага.** У тэатральнай зале касцёла Святых Сымона і Алены адбылося паседжанне Рэспубліканскай рады ТБМ.

Прынятыя пастановы: "Аб правядзенні 20 траўня чарговага VII з'езду ТБМ ", "Аб прапановах па вылучэнні на VII з'езд кандыдатур у склад новай Рады", "Аб выпрацоўцы Стратэгіі абароны і развіцця беларускай мовы ў XXI стагоддзі".

**15 лютага.** Па просьбе Менскага заапарка Сакратарыят ТБМ прыняў рашэнне аб утрыманні рысі, якой, як і іншым жывёлам, не хапала харчавання. Па рашэнні Сакратарыяту вырашана штомесячна выдаткоўваць з ахвяраванняў, па магчымасці, пэўную суму грошай на падтрымку гэтага звера.

**16 лютага.** У сядзібе ТБМ прайшлі першыя заняткі гістарычнага семінара на тэму "Рагнеда і Ізяслаў" з удзелам Алеся Петрашкевіча, Алега Трусава, Уладзіміра Арлова.

**21 лютага.** У сядзібе Таварыства Менская гарадская арганізацыя ТБМ наладзіла прэс-канферэнцыю, прысвечаную Міжнароднаму Дню роднай мовы.

**25 лютага.** Разам з Цэнтрам па правах чалавека праведзена навукова-практычная канферэнцыя "Нацыянальная ідэя: шляхі кансалідацыі грамадства".

**24 сакавіка.** У Чырвоным касцёле, што ў сталіцы, адбылася ўрачыстасць з нагоды выхаду ў свет 500-га нумара газеты "Наша слова". У праграме — літаратурна-мастацкая кампазіцыя, выступленне гурту "Ліцьвіны" (мастацкі кіраўнік Уладзімір Бербераў), ганараванне пераможцаў конкурсу "Ведай свой горад Менск", які быў арганізаваны Таварыствам беларускай мовы. Вядоўца — Людміла Дзіцэвіч. Юбілейны нумар газеты выйшаў на 12 старонках.

**Люты-красавік**

Лёзненская раённая рада ТБМ зладзіла завочную краязнаўчую канферэнцыю "Мой родны кут". Удзел у ёй прынялі каля 50 школьнікаў.

**5 сакавіка**. Баранавіцкая рада ТБМ сумесна з Цэнтральнай бібліятэкай наладзіла гарадскую імпрэзу, прысвечаную 105-м угодкам Кандрата Крапівы

**Сакавік**

ТБМ выпусціла кішэнны каляндарык на 2001-2002 навучальны год да 125-х угодкаў Цёткі. Выкарыстана карціна Аляксея Марачкіна "Нас кавалі ў пламенні...", словы з верша Цёткі: "Мейце сілу і адвагу дзяржацца роднага слова" (дызайн Ігара Марачкіна).

Верхнядзвінская раённая Рада ТБМ брала ўдзел у навукова-практычнай канферэнцыі па школьным краязнаўстве, навукова-практычнай канферэнцыі для настаўнікаў "За старонкамі кнігі "Памяць", у свяце "Гуканне вясны".

**5 красавіка.** Адбылася сёмая канферэнцыя Магілёўскай гарадской арганізацыі, на якой была задаволеная просьба Яраслава Клімуцям, які ўзначальваў арганізацыю 12 гадоў, аб адстаўцы. Старшынём абараны Сяргей Украінка.

Сакратарыят ТБМ прыняў зварот да журналістаў, настаўнікаў і бацькоў з нагоды правядзення прымусовых палітінфармцыяў у навучальных установах Беларусі.

**8 красавіка.** Баранавіцкая гарадская рада зладзіла творчую сустрэчу з народным паэтам Беларусі Рыгорам Барадуліным і бардам Алесем Камоцкім, якая адбылася ў зале Дома афіцэраў, дзе сабралася каля 500 аматараў роднага слова.

**Красавік**

Кіраўніцтва ТБМ звярнулася да ўсіх рэктараў дзяржаўных вышэйшых навучальных установаў Беларусі з запытам:

1. На якіх факультэтах і па якіх спецыяльнасцях будзе ажыццяўляцца набор у беларускамоўныя групы ў 2001-2002 навучальным годзе?

2. Ці плануецца павелічэнне колькасці беларускамоўных груп у бліжэйшыя 5 гадоў і па якіх спецыяльнасцях?

**5 траўня.** У дольнай зале Чырвонага касцёла адбылося пасе-

джанне Рэспубліканскай рады ТБМ і рабочай групы па выпрацоўцы “Стратэгіі развіцця беларускай мовы ў XXI стагоддзі”. Рада зацвердзіла праект “Дэкларацыі аб беларускай мове”, які будзе вынесены на з’езд.

**20 траўня.** У сталічным Доме літаратара адбыўся **VII з’езд ТБМ.** Удзельнічала 190 дэлегатаў ад 69 арганізацый. З’езд прыняў пастановы: “Аб сяброўстве ў Рэспубліканскай Радзе ТБМ”, “Аб распрацоўцы і прыняцці Стратэгіі развіцця беларускай мовы ў XXI стагоддзі”, Палажэнне аб рэвізійных камісіях ГА “ТБМ імя Ф. Скарыны”.

З’езд прыняў “Дэкларацыю аб беларускай мове”, “Слова да беларускіх пісьменнікаў”.

Старшынём абраны Алег Трусаў, намеснікамі — Людміла Дзіцэвіч (першы намеснік), Алена Анісім, Сяргей Кручкоў. У склад Рады абраны 52 сябры.

**РЭСПУБЛІКАНСКАЯ РАДА ГА**
**“ТБМ ІМЯ ФРАНЦІШКА СКАРЫНЫ”,**
**абраная на VII з’ездзе ТБМ**

1. Аксак Валянціна, Менск
2. Анісім Алена, Менск
3. Арлоў Уладзімір, Менск
4. Бабіч Юры, Віцебск
5. Багданкевіч Святлана, Менск
6. Банкевіч Генадзь, Менск
7. Бароўскі Анатоль, Гомель
8. Баршчэўскі Лявон, Менск
9. Белы Анатоль, Менск
10. Булавацкі Міхась, Магілёў
11. Бураўкін Генадзь, Менск
12. Гаравы Леанід, Гарадок
13. Гарановіч Віталь, Глыбокае
14. Гарэцкі Радзім, Менск
15. Гілевіч Ніл, Менск
16. Грыцкевіч Анатоль, Менск
17. Гуркоў Сяргей, Менск
18. Дзіцэвіч Людміла, Менск
19. Завальнюк Уладзіслаў, Менск
20. Запрудскі Сяргей, Менск
21. Зуёнак Васіль, Менск

22. Іпатава Вольга, Менск
23. Камароўскі Мікалай, Орша
24. Кануннікава Ніна, Гародня
25. Кручкоў Сяржук, Менск
26. Кузьміч Вольга, Менск
27. Лапіцкі Аляксей, Жодзіна
28. Лыч Леанід, Менск
29. Майсеня Людміла, Менск
30. Малаш Юры, Менск
31. Марачкіна Ірына, Менск
32. Мацюкевіч Марыя, Салігорск
33. Місьцюкевіч Алесь, Гародня
34. Навумчык Іосіф, Віцебск
35. Новік Марыя, Берасце
36. Палсцюк Валеры, Менск
37. Паўлавец Зміцер, Гомель
38. Піскун Людміла, Калінкавічы
39. Пяткевіч Аляксей, Гародня
40. Раманцэвіч Валянціна, Менск
41. Ролік Міхаіл, Міёры
42. Рымша Алесь, Наваполацк
43. Санько Зміцер, Менск
44. Савіцкі Мікалай, Менск
45. Савіч Валер, Пінск
46. Содаль Уладзімір, Менск
47. Суднік Станіслаў, Ліда
48. Трусаў Алег, Менск
49. Цыхун Генадзь, Менск
50. Украінка Сяргей, Магілёў
51. Юркевіч Сяргей, Маладзечна
52. Ялугін Эрнэст, Менск.

## ДЭКЛАРАЦЫЯ АБ БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ

*Прынятая VII з'ездам ТБМ імя Францішка Скарыны*
*20. 05. 2001 г.*

***Дэкларацыя аб беларускай мове – гэта супольнае выяўленне гістарычнай волі беларускага народа да годнага існавання і перспектыўнага развіцця беларускай мовы – найвялікшага нацыянальнага багацця***.

**Мы, грамадзяне Рэспублікі Беларусь, прадстаўнікі беларус-**

**кага этнасу і міжнароднай супольнасці, заклапочаныя станам і перспектывамі развіцця беларускай мовы,**

**канстатуем, што:**

1. Беларуская мова -- тытульная мова беларускага народа.

2. Беларуская мова -- унікальная, самабытная, самастойная, дасканалая і выдатна распрацаваная лінгвістычная сістэма.

3. Беларуская мова ніколі не была ні часткай, ні адгалінаваннем, ні дыялектам нейкай іншай мовы, яна развівалася беларускім этнасам, унутры беларускага этнасу і паводле яго запатрабаванняў.

4. Беларуская мова – адзіная спрадвечная і паўнапраўная мова беларускага народа.

5. Паўнавартаснае жыццё беларускага грамадства можа быць рэалізавана толькі ў беларускамоўным асяроддзі.

6. Усе асноўныя гістарычныя, палітычныя і культурныя набыткі беларускага народа дасягнуты ў беларускамоўнай прасторы.

7. Беларуская мова ўяўляе сабой каштоўнасць для ўсяго чалавецтва і павінна быць захавана ў якасці жывой штодзённай мовы беларускага народа, як часткі агульначалавечай супольнасці.

8. Развіццё, удасканаленне і шырокае распаўсюджванне беларускай мовы – абавязак усіх грамадзян Беларусі і прадстаўнікоў беларускай дыяспары ў краінах свету.

9. Беларуская мова існуе ў вусным і пісьмовым выглядзе, літаратурнай і дыялектнай формах. Пісьмовая беларуская мова мае сваю ўнікальную граматыку– збор нормаў і правілаў для забеспячэння найбольшай адпаведнасці пісьмовай мовы вуснай.

10. Слоўны запас беларускай мовы забяспечвае магчымасць высокаякасных перакладаў любой інфармацыі з любой мовы свету.

11. Беларуская мова зразумелая прадстаўнікам усіх народаў, што жывуць на Беларусі, яна можа і павінна выконваць функцыі мовы міжнацыянальных зносінаў на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь.

**пагаджаемся ў тым, што:**

1. Грамадзяне Рэспублікі Беларусь павінны ведаць беларускую мову і карыстацца ёю ў штодзённым жыцці.

2. Беларусы за мяжой павінны лічыць за гонар ведаць беларускую мову і карыстацца ёю ў сям’і і грамадскай дзейнасці на карысць Беларусі.

3. Беларуская мова павінна быць адзінай афіцыйнай дзяржаўнай мовай Рэспублікі Беларусь.

4. Дзейнасць усіх палітычных партый і грамадскіх арганізацый Рэспублікі Беларусь мусіць ажыццяўляцца на беларускай мове,

дзейнасць грамадскіх арганізацый нацыянальных супольнасцяў можа адбывацца на нацыянальных або міжнародных мовах, а таксама з выкарыстаннем беларускай мовы.

У дзейнасці ўсіх прыватных і грамадскіх прадпрыемстваў на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь павінна абавязкова выкарыстоўвацца беларуская мова.

5. Дзяржаўныя і недзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь абавязаны выкарыстоўваць беларускую мову або мець беларускамоўны варыянт. СМІ нацыянальных супольнасцяў могуць выходзіць на мовах гэтых супольнасцяў, а таксама выкарыстоўваць беларускую мову.

6. Нацыянальная сістэма адукацыі мусіць ажыццяўляць навучанне і выхаванне карэнных жыхароў Беларусі на беларускай мове, а прадстаўнікі нацыянальных супольнасцяў маюць права навучацца на іх нацыянальных мовах з абавязковым выкарыстаннем беларускай мовы.

**патрабуем, каб:**

1. Беларуская дзяржава як вышэйшая арганізацыйная структура беларускай нацыі, забяспечыла рэальнае існаванне і развіццё беларускай мовы, як адзінай афіцыйнай дзяржаўнай мовы Рэспублікі Беларусь, стварыла эканамічныя, юрыдычныя і арганізацыйныя ўмовы для выканання беларускай мовай усіх функцый у грамадстве.

2. Быў прыняты новы Закон “Аб мовах”, які забяспечыць юрыдычныя падставы існавання і развіцця беларускай мовы як адзінай дзяржаўнай мовы Рэспублікі Беларусь і створыць умовы пашырэння беларускай мовы ў пазадзяржаўных сферах і за межамі Беларусі.

3. Дзяржаўнымі структурамі была распрацавана праграма па рэалізацыі гэтага Закона.

4. Усе дзяржаўныя ўстановы і структуры, у тым ліку сістэма адукацыі і СМІ, працавалі на беларускай мове.

5. Быў створаны Дзяржаўны камітэт (Міністэрства) па справах беларускай мовы і адпаведныя структуры ва ўсіх міністэрствах і ведамствах Рэспублікі Беларусь.

6. Штогод у Рэспубліцы Беларусь праводзіліся парламенцкія слуханні па пытаннях аб стане беларускай мовы і перспектывах яе развіцця.

**зацікаўлены ў тым, каб:**

1. Міжнародная супольнасць ставілася да беларускай мовы,

як да мовы рэальнага і самастойнага народа, і ў адпаведнасці з гэтым ладзіла свае стасункі з Беларуссю.

2. Міжнародная супольнасць ўсвядоміла неабходнасць дапамогі беларускай мове ў яе развіцці і пашырэнні, а грамадзянам Беларусі -- у захаванні іх моўных правоў.

3. Міжнародная супольнасць зразумела, што станаўленне Беларусі як дэмакратычнай краіны магчыма толькі пры вырашэнні моўнага пытання на карысць беларускай мовы.

4. Беларуская мова шырока выкарыстоўвалася ў дзейнасці рэлігійных канфесій у Беларусі.

**Мы выказваем сваё імкненне да ажыццяўлення ідэй і прынцыпаў, закладзеных у Дэкларацыі, і падпісваем яе.**

**На 20 траўня** сабрана каля 50 тысяч подпісаў за стварэнне БНУ, акцыя працягваецца.

**31 траўня.** На паседжанні Сакратарыята ТБМ пастаўлена на ўлік суполка ТБМ у г. Таронта (Канада).

**Травень**

Споўнілася 10 гадоў ад часу ўтварэння Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны Віленскага краю ў Літве, якое ачольвае Юрась Гіль.

**30 чэрвеня.** Магілёўская гарадская арганізацыя ТБМ разам з суполкай Маладога фронту наладзілі сустрэчу з Анатолем Грыцкевічам і Алегам Трусавым, прымеркаваную да 60-годдзя гераічнай абароны горада ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Былі падведзены вынікі гарадскога конкурсу вершаў і сачыненняў “Мая радзіма — Беларусь”.

**Чэрвень**

Суполка сяброў ТБМ, што ў вёсцы М. Плотніца Пінскага раёну, у дзень Святой Тройцы зладзіла, як, дарэчы, і кожны год, свята роднай вёскі і роднай мовы.

Верхнядзвінская раённая Рада ТБМ брала ўдзел у раённых конкурсах беларускай песні для школьнікаў

**1 ліпеня.** На паседжанні Рэспубліканскай рады ТБМ, якое адбылося ў дольнай зале Чырвонага касцёла, прынятыя: пастанова

“Аб парадку падпісання Дэкларацыі аб беларускай мове”, Зварот да ўдзельнікаў у прэзідэнцкіх выбарах выкарыстоўваць беларускую мову ў сваёй агітацыі, уключаць у свае передвыбарчыя праграмы патрабаванні аб статусе беларускай мовы, аб вяртанні нацыянальнай сімволікі, аб адкрыцці БНУ.

**5 ліпеня.** У тэатральнай зале Чырвонага касцёла, што на плошчы Незалежнасці ў г. Менску, ТБМ наладзіла вечарыну, прысвечаную 150-годдзю з дня нараджэння Янкі Лучыны.

З ініцыятывы ТБМ Міністэрства сувязі выпусціла маркаваны канверт да юбілею Янкі Лучыны.

**6 ліпеня.** У дзень народзінаў Янкі Лучыны сябры ТБМ наведалі магілу пісьменніка, усклалі кветкі.

**11 ліпеня**. У сталічным кінатэатры “Змена” ТБМ адзначыла 125-я ўгодкі Цёткі. Паказаны фільм “Крыж міласэрнасці”, зняты па сцэнарыі Валянціны Коўтун.

**23 ліпеня.** Слонімская суполка ТБМ правяла конкурс сярод настаўнікаў, выхавальнікаў, бацькоў па напісанні ўласнай праграмы выхавання нацыянальна свядомай асобы. Пераможцай прызнана старшыня Слонімскай суполкі ТБМ Таццяна Трафімчык.

**23 жніўня.** На Сакратарыяце ТБМ была прынятая Заява з нагоды спекуляцыяў у сродках масавай інфармацыі Беларусі вакол моўнага пытання падчас прэзідэнцкай выбарчай кампаніі.

**1 верасня.** Намаганнямі Мазырскай гарадской арганізацыі ТБМ у г. Мазыры на базе агульнаадукацыйнай школы адкрыты беларускамоўны падрыхтоўчы клас.

Сябры Наваполацкай гарадской арганізацыі ТБМ на чале са старшынём Алесем Рымшам правялі дабрачынную акцыю. Яны ўручылі кнігі Уладзіміра Арлова “Адкуль наш род” і “Дзесяць вякоў беларускай гісторыі” усім школам г. Наваполацка. Такі ж дарунак атрымалі ўсе іншыя навучальныя ўстановы горада.

Баранавіцкая гарадская Рада ТБМ сумесна з бібліятэкамі зладзіла свята беларускага пісьменства і друку. Штогод з 1995 г. сябры Баранавіцкай арганізацыі адзначаюць гэты Дзень адметнымі імпрэзамі.

**12 верасня.** Рада Светлагорскай арганізацыі ТБМ прыняла

заяву ў сувязі з ліквідацыяй філіі Нацыянальнага дзяржаўнага гуманітарнага ліцэя імя Якуба Коласа ў г. Светлагорску.

**20 верасня.** Сакратарыят прыняў заяву-пратэст супраць закрыцця Светлагорскага беларускамоўнага ліцэя, а таксама заявы ў абарону газеты "Пагоня" ("Пагоня" павінна існаваць") і "10 гадоў дзяржаўнасці беларускай нацыянальнай сімволікі", у якой звяртаецца да беларускіх уладаў прыняць заканадаўчы праект аб адначасовым ужыванні разам з сённяшнімі дзяржаўнымі сімваламі нацыянальнай гістарычнай сімволікі — герба "Пагоня" і бел-чырвона-белага сцяга.

**31 верасня.** Менскі гарвыканкам прыняў рашэнне аб адкрыцці беларускамоўнай гімназіі ў сталіцы. Гэтаму спрыялі пастаянныя стасункі Рады Менскай гарадской арганізацыі, Бацькоўскага камітэта ТБМ з гарадскімі ўладамі. Пры адкрыцці былі ўлічаны шмат якія прапановы, у тым ліку яе размяшчэнне ў цэнтры горада на базе 23-й СШ сталіцы.

**4 кастрычніка.** ТБМ адзначыла 70-гадовы юбілей Ніла Гілевіча. Урачыстая імпрэза адбылася ў Чырвоным касцёле, дзе прамоўцы выступалі непасрэдна з амбона. Гэта было сапраўднае народнае свята, гістарычная падзея.

**21 кастрычніка.** Баранавіцкая гарадская Рада зладзіла сустрэчу з творчай інтэлігенцыяй з г. Менска – Уладзімірам Арловым, Лявонам Баршчэўскім, Таццянай Цюрынай.

**Кастрычнік**

Верхнядзвінская раённая Рада ТБМ зладзіла вечарыну да 70-годдзя Ніла Гілевіча.

**15 лістапада.** На Сакратарыяце ТБМ прынятая заява-пратэст "Зачынена беларускамоўная газета "Пагоня".

**20 лістапада.** Шклоўская суполка ТБМ (старшыня Аляксандр Грудзіна) прыняла ўдзел ў літаратурнай вечарыне, прысвечанай 100-ым угодкам Міхася Зарэцкага.

**22 лістапада.** Лідская газета "Тэлескоп" стала беларускамоўнай. Выданне газеты пераняла Лідская гарадская арганізацыя ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны".

**23 лістапада.** Намаганнямі ТБМ Віленскага краю ў в. Савічуны Рукойнскай сянюніі Віленскага раёна Літвы на будынку мясцовай бібліятэкі ва ўрачыстых абставінах адбылося адкрыццё і ўстаноўка мемарыяльнай дошкі Францішку Багушэвічу.

**Лістапад**

На базе ТБМ распачаў працу гурток вышыўкі і бісераплецева для дзяцей малодшага школьнага веку. Кіраўнічка -- Алена Кірэева.

**6 снежня 2001г. – 20 студзеня 2002 г.**

Наваполацкая гарадская рада брала ўдзел у падрыхтоўцы выставы “Радзівілы – беларускія магнаты”, якая адбылася ў гарадской бібліятэцы імя Якуба Коласа.

**9 снежня.** Да 110-х угодкаў народзінаў Максіма Багдановіча Таварыства наладзіла дзве вечарыны: у Цэнтральнай бібліятэцы імя Янкі Купалы (адказная Алена Анісім) і ў кінатэатры “Змена” (адказны Алесь Стральцоў).

Выпушчаны юбілейны кішэнны каляндарык (макет і дызайн Ігара Марачкіна) з выявай паэта на фоне касцёла Святых Сымона і Алены ў Менску.

Баранавіцкая гарадская рада арганізавана вандроўку ў Старыя Дарогі з нагоды ўсталявання там помніка Ларысе Геніюш.

**16 снежня.** Па ініцыятыве Баранавіцкай гарадской рады ТБМ у Баранавічах адбылася ўрачыстая імпрэза, прысвечаная 110-м угодкам з дня нараджэння Максіма Багдановіча.

У дольнай зале Чырвонага касцёла ў г. Менску адбылося паседжанне Рэспубліканскай рады ТБМ, на якім заслухана справаздача старшыні Алега Трусава аб дзейнасці ТБМ у 2001г., зацверджаны план работы на 2002 г., абмеркавана пытанне аб працы над праектам “Стратэгіі развіцця беларускай мовы ў XXI стагоддзі”. У дакладзе адзначана, што за 2001 год у ТБМ прынята 685 сяброў. Пасведчанні новага ўзору атрымалі 1330 чалавек. Прынятая пастанова “Аб памерах складак сяброў ТБМ і тэрмінах іх збору”.

Баранавіцкая гарадская рада ў вялікай зале Дома афіцэраў зладзіла свята, прысвечанае 110-м угодкам з дня нараджэння Максіма Багдановіча.

**20 снежня.** Гарадзенская гарадская Рада “ТБМ імя Францішка Скарыны” падала заяву на размяшчэнне на сваім юрыдычным адрасе газеты “Каложа”.

**Снежань**

Сябар ТБМ Сымон Барыс выдаў кніжку “Беларускія імёны. Дапаможнік для маладых бацькоў”. Кніжка выйшла ў выдавецтве “Тэхналогія” пры садзеянні ТБМ.

**У 2001 годзе**

ТБМ выпусціла буклет пра арганізацыю “Беларуская мова – гэта наша мова” (дызайн Ігара Марачкіна) і кішэнны каляндарык на 2001 год з выявай Пагоні над Мірскім замкам і надпісам “З Пагоняй у трэцяе тысячагоддзе” (1296 — 2001). Распрацоўка і выданне сябра ТБМ Уладзіміра Цярохіна. Наклад 10.000 асобнікаў.

Гарадоцкая рада ТБМ зладзіла летнік для школьнікаў “Асновы літаратурнай творчасці”, у якім заняткі праводзілі пісьменнікі.

Магілёўская абласная арганізацыя ТБМ правяла рэспубліканскі конкурс “Казка для Анюткі”. На конкурс было даслана 22 казкі, якія мяркуецца падрыхтаваць да выдання.

Пабачыла свет брашура Старшыні Лёзненскай раённай рады ТБМ Міхаіла Космыкава “Хвала Бацькаўшчыне”.

**У 2001-2004 гадах**

Сакратарыят ТБМ арганізаваў відэазапіс семінара “Я магу жыць лепей”. Інструктары семінару Антаніна Хатэнка, Валер Мазынскі, Людміла Дзіцэвіч, Аляксей Хадыка. У аснову семінара пакладзены арыгінальны падручнік, напісаны дзеячам беларускай дыяспары ў ЗША і Чэхіі Вячкам Станкевічам.

# 2002 год

**16 студзеня, 6 лютага.** Газета “Наша слова” (№3, №6) змясціла на сваіх старонках шэраг матэрыялаў, прысвечаных 110-годдзю з дня народзінаў Браніслава Тарашкевіча.

**17 студзеня.** Сакратарыят ТБМ прыняў зварот “Голас душы павінен гучаць” да Міністэрства інфармацыі Беларусі з нагоды закрыцця перадачы “Голас душы” на першым канале дзяржаўнага беларускага радыё.

**20 студзеня.** Сакратарыят ТБМ сумесна з дырэкцыяй кінатэатра “Змена” наладзіў вечарыну, прымеркаваную да 110-х угодкаў Браніслава Тарашкевіча з удзелам Ніла Гілевіча, Арсеня

Ліса, Алега Трусава, Віталя Скалабана, Уладзіміра Содаля, Сяргея Панізніка, Уладзіміра Міхнюка, а таксама сваякоў Тарашкевіча: Ірыны Ніжанкоўскай і Рымы Герыловіч. Паказаны дакументальныя стужкі: “Браніслаў Тарашкевіч”, “Зямля Тарашкевіча”, “Дзядзька Уласаў”.

**31 студзеня.** Сакратарыят ТБМ прыняў на сваім паседжанні заяву “Спыніць пераслед Саюза беларускіх пісьменнікаў”, зварот “До спаць! Паўстаньце грамадою...”, у якім заклікае грамадзянаў Беларусі патрабаваць ад мясцовай улады выканання пастановы Міністэрства адукацыі “Праграма дадатковых мер па пашырэнні сферы выкарыстання беларускай мовы ў сістэме адукацыі”; прапанову на адрас Міністэрства культуры з нагоды конкурсу на новы беларускі гімн. У прапанове абгрунтаваны выбар у якасці гімна верша Наталлі Арсенневай “Магутны Божа”.

**Студзень**

Выйшаў з друку кішэнны каляндарык ТБМ на 2002 г. да 110-х угодкаў Браніслава Тарашкевіча (фота з архіва Арсеня Ліса, дызайн Ігара Марачкіна).

Суполкі ТБМ Беларускага Дзяржаўнага тэхналагічнага універсітэта падаравалі Лоскай базавай школе Валожынскага раёна, а таксама Смаргонскай гімназіі № 4 кнігу “Асветнікі зямлі беларускай” і зрабілі падпіску на “Наша слова”.

ТБМ наладзіла агульнабеларускую акцыю па ліставанні арганізацый Таварыства з уладамі па пытанні выканання Пастановы Міністэрства адукацыі Беларусі “Праграма дадатковых мер па пашырэнні сферы выкарыстання беларускай мовы ў сістэме адукацыі”.

**1 лютага.** На паседжанні Гарадзенскай гарадской рады ГА “ТБМ імя Ф. Скарыны” ад абавязкаў старшыні вызвалена Ніна Кануннікава па яе жаданні. Старшынём рады абраны Парфёненка А.А. Рада абавязала старшыню працягваць рэгістрацыю газеты гарадской арганізацыі.

**Люты**

Да 60-гадовага юбілею выдатнага сына беларускага народа Міхася Ткачова ТБМ выпусціла кішэнны каляндарык на 2002 г. з выявай вучонага, грамадскага і палітычнага дзеяча на фоне Наваградскага замка. Дызайн Ігара Марачкіна.

**10 сакавіка.** На паседжанні Рэспубліканскай рады ТБМ, якое

адбылося ў сталічным кінатэатры “Змена”, прынятая заява “БТ-2 павінен стаць нацыянальным каналам”, пастанова “Аб святкаванні 120-х угодкаў народзінаў Янкі Купалы і Якуба Коласа”. Зацверджаны асноўныя кірункі “Стратэгіі развіцця беларускай мовы ў XXI стагоддзі”, прапановы ў Палажэнне пра ўзорную гарадскую беларускамоўную школу, распрацаваныя сябрам Рады Віталем Гарановічам па просьбе Міністэрства адукацыі.

**11 сакавіка.** ТБМ наладзіла ў сталічным Доме літаратара ўрачыстую вечарыну “Памяці Міхася Ткачова”. Угодкі Міхася Ткачова адзначылі таксама Баранавіцкая, Лідская, Жодзінская, Віцебская, Мсціслаўская, Гарадзенская, Наваградская арганізацыі ТБМ. Публікацыі пра Міхася Ткачова змешчаны ў “Нашым слове”, “Свободных новостях”, “ЛіМе” і іншых выданнях.

**19 сакавіка.** Уступіла ў сілу новая рэдакцыя Закона “Аб адукацыі”, у якой улічаны прапановы ТБМ (артыкулы 5 і 32). На падставе гэтага закона Сакратарыят распрацаваў заяву для студэнтаў аб утварэнні беларускамоўных плыняў і распаўсюджвае яе ў ВНУ, дзе студэнты збіраюць подпісы за навучанне на роднай мове і звяртаюцца з заявай да рэктараў.

Гарадзенскі гарвыканкам адмовіў у размяшчэнні газет “Раніца” і “Каложа” па юрыдычным адрасе Гарадзенскай гарадской арганізацыі ТБМ.

**25 сакавіка.** Зарэгістравана газета Менскай гарадской арганізацыі ТБМ “Новы Час”.

**Сакавік**

Аршанская гарадская арганізацыя ТБМ адчыніла ў Горках, што на Магілёўшчыне, беларускамоўную дзіцячую кавярню.

З ініцыятывы і пры падтрымцы Бешанковіцкай суполкі ТБМ (старшыня Валянціна Гракун) і Віцебскага аддзялення Фонда імя Льва Сапегі заснаваная “Школьная газета”, першы нумар якой пабачыў свет у сакавіку.

**17 красавіка.** Дзякуючы намаганням ТБМ даведачная служба “088” загаварыла па-беларуску.

**29 красавіка.** У рамках Міжнароднага сімпозіуму “Разнастайнасць моў і культур у кантэксце глабалізацыі” Таварыства брала ўдзел у арганізацыі і правядзенні круглага стала “Аб нацыя-

нальнай тоеснасці мовы ў рэкламе і маркетынгу” (адказныя — Алена Анісім і Язэп Стэпановіч), які адбыўся ў Доме прэсы. Прынята рэзалюцыя.

**Красавік**

ТБМ на грошы ахвярадаўцаў выпусціла адмысловы значок “Размаўляй са мной па-беларуску”.

**2 траўня.** У сувязі з рашэннем Міністэрства адукацыі аб скасаванні абавязковага экзамену па беларускай літаратуры за курс сярэдняй школы Сакратарыят ТБМ прыняў зварот “Вернем экзамен па беларускай літаратуры ў школу”.

**15 траўня.** Баранавіцкая гарадская рада ТБМ у гонар бацькі беларускага тэатра Уладзіслава Галубка правяла шэраг мерапрыемстваў, прымеркаваных да 120-х угодкаў свайго славутага земляка: літаратурную вечарыну, святочны канцэрт, а таксама перадала экспанаты музею Галубка, што ў Ляснянскай школе.

**20 траўня.** У Беларускім дзяржаўным універсітэце культуры ў межах Міжнароднага сімпозіуму адбыўся “круглы стол” на тэму “Беларуская мова. Інтэрнэт і камп’ютар” (адказны за арганізацыю і правядзенне — кіраўнік спраў ТБМ Сяргей Кручкоў). Прынята рэзалюцыя, разасланая ў Адміністрацыю Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, Прэм’ер-міністру Рэспублікі Беларусь, у Палату прадстаўнікоў, Міністэрства адукацыі, Нацыянальную акадэмію навук Беларусі.

У гэтым жа годзе ТБМ пры падтрымцы Беларускага сацыяльна-экалагічнага саюза “Чарнобыль” выдала матэрыялы круглага стала асобнай кніжкай “Беларуская мова. Інтэрнэт і камп’ютэр” (складальнік Сяргей Кручкоў).

**31 траўня.** Бешанковіцкая суполка ТБМ арганізавала сустрэчу з народным паэтам Рыгорам Барадуліным, бардам Алесем Камоцкім і старшынём Віцебскай абласной рады ТБМ Іосіфам Навумчыкам. Сустрэча адбылася ў раённым Доме культуры.

**Травень**

Баранавіцкая гарадская арганізацыя ТБМ шырока адзначыла 200-ыя ўгодкі Ігната Дамейкі. У гонар славутага земляка праведзена віктарына для моладзі, футбольны турнір паміж дваровымі камандамі, коштам арганізацыі выдадзены кішэнны каляндарык на 2002-2003 навучальны год з выяваю Дамейкі, напісаны шэраг артыку-

лаў у мясцовыя газеты.

Выдадзены плакаты і кішэнныя каляндарыкі на 2002-2003 навучальны год да 120-годдзя з дня народзінаў Янкі Купалы і Якуба Коласа. Дызайн Ігара Марачкіна.

**19 чэрвеня.** У рамках Міжнароднага сімпозіуму адбыўся круглы стол "Мова і адукацыя, падручнікі, методыкі і дапаможнікі", у арганізацыі і правядзенні якога брала ўдзел ТБМ (адказная -- Людміла Дзіцэвіч). Прынята рэзалюцыя.

**27 чэрвеня.** Сакратарыят ТБМ прыняў заявы: "Аб захаванні талерантнасці у Рэспубліцы Беларусь" у сувязі са зменамі ў законе "Аб свабодзе веравызнанняў і рэлігійных арганізацый" (да дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу), "Аб падтрымцы журналістаў газеты "Пагоня".

**9-10 ліпеня.** У сталічным Доме літаратара пад эгідай ЮНЕСКА адбыўся Міжнародны сімпозіум "Разнастайнасць моў і культур у кантэксце глабалізацыі", у якім брала ўдзел ТБМ. Сябры Таварыства ўваходзілі ў склад аргкамітэту, былі адказнымі за арганізацыю і правядзенне трох круглых сталоў, мелі чатыры выступленні: Алег Трусаў на пленарным паседжанні з дакладам "Заканадаўчы аспект развіцця беларускай мовы"; Людміла Дзіцэвіч, Сяргей Кручкоў, Алена Анісім зрабілі паведамленні аб правядзенні круглых сталоў. Сябры сакратарыята ТБМ напісалі зварот, які падпісалі шэраг грамадскіх арганізацый, з нагоды катастрафічнага стану беларускай мовы ў СМІ Беларусі. Ад ТБМ зварот падпісалі Алег Трусаў і Сяргей Кручкоў. Ззварот быў перададзены Сяргеем Кручковым Генеральнаму дырэктару ЮНЕСКА Каіціру Мацууры.

**31 ліпеня.** ТБМ зладзіла грамадскую імпрэзу, прысвечаную 200-годдзю з дня нараджэння Ігната Дамейкі з удзелам Адама Мальдзіса, Алега Трусава, Здзіслава Сіцькі, Міколы Купавы. Прынята адмысловая Ўхвала сходу, якая разасланая ва ўладныя структуры.

**13 жніўня.** Гарадзенскі гарвыканкам адмовіў у размяшчэнні газеты "Ведамасці" па юрыдычным адрасе Гарадзенскай гарадской арганізацыі ТБМ.

**17 жніўня.** На ўзбярэжжы Бярэзіны Бабруйская суполка Таварыства ў гонар 120-годдзя з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа ладзіла фэст беларускай бардаўскай песні "Вольнае вогні-

шча”.

**28 жніўня.** Выйшаў першы нумар газеты “Новы Час”, заснаванай Менскай гарадской арганізацыяй ТБМ.

**1 верасня.** У 2002-2003 навучальным годзе дзякуючы намаганням ТБМ у СШ №181 г. Менска адкрыты 10 “Г” клас з беларускай мовай навучання.

Сакратарыят ініцыяваў агульнабеларускі месячнік “Размаўляем па-беларуску”. Месячнік меў інфармацыйную падтрымку дзяржаўных і недзяржаўных СМІ, а таксама фінансавую падтрымку дабрадзеяў. Быў выпушчаны 2-гі варыянт значка “Размаўляй са мной па-беларуску”. Акцыя мела шырокі розгалас у прэсе, рэкламу ў метро, каляровыя абвесткі на прыпынках гарадскога транспарту, каляровыя плакаты (150 штук) для распаўсюду ў навучальных установах, бібліятэках г. Менска і іншых гарадоў. Па выніках апытання больш за 30 % грамадзянаў Беларусі падтрымалі ініцыятыву ТБМ.

**9 верасня.** Прайшла справаздачна-выбарчая канферэнцыя Гарадзенскай гарадской арганізацыі ГА **“**Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны”. Старшынём гарадской арганізацыі абраны журналіст В. Задаля.

**11 верасня.** ТБМ падтрымала грамадскую ініцыятыву “Ушанаванне памяці ахвяраў тэракту 11 верасня 2001 г. у Амерыцы”. Сябрамі Таварыства створана адмысловая рукатворная Кніга памяці, якая перададзена Чырвонаму касцёлу, дзе людзі пакідаюць свае запісы і спачуванні. Змешчаны публікацыі ў “Новым Часе” і “Нашым слове”.

**12 верасня.** З ініцыятывы Лідскай гарадской і Лідскай (раённай) арганізацый ГА “ТБМ імя Ф. Скарыны” ў в. Беліца Лідскага раёна ўстаноўлены мемарыяльны крыж і гранітная пліта на памяць лідскай шляхты, якая ў 1659 годзе дала тут бой маскоўскаму войску, што рвалася на Ліду і Гародню. Крыж быў устаноўлены з дазволу выканкаму Беліцкага сельскага савету. Аднак Лідскія раённыя ўлады прызналі ўстаноўку крыжа незаконнай і ў пачатку лістапада крыж быў знесены.

**29 верасня.** Адбылося пашыранае паседжанне Віцебскай абласной рады ТБМ, на якім абмеркавана пытанне пра выкананне Праграмы дадатковых мер па пашырэнні выкарыстання беларускай

мовы ў сістэме адукацыі вобласці. Рада накіравала свае заўвагі і прапановы ў адрас абласнога ўпраўлення адукацыі. Таксама было абмеркавана пытанне аб выкарыстанні беларускай мовы ў перыядычным друку, на радыё і тэлебачанні вобласці. Вырашылі накіраваць падзячныя лісты рэдактарам беларускамоўных газет.

На паседжанні разгледжаны арганізацыйныя пытанні. Намеснікам старшыні абласной Рады ТБМ абраны Анатоль Канапелька, сакратаром – Ірына Шарапінская.

**Верасень**

ТБМ выпусціла аўдыёкасету беларускіх песень з мэтай падарыць яе начальнікам цягнікоў Беларускай чыгункі (ініцыятары і выканаўцы -- Сяргей Кручкоў, Уладзімір Бярбераў).

Магілёўская абласная арганізацыя ТБМ дамаглася таго, што старшыня аблвыканкама Барыс Батура падпісаў дазвол на адкрыццё беларускага класа з 4-ох чалавек у нацыянальнай гімназіі.

**1 кастрычніка.** Сакратарыят Таварыства звярнуўся да грамадзянаў краіны з заклікам прыняць удзел у месячніку “Спяваем па-беларуску” з мэтай прапаганды беларускай песні.

**4 кастрычніка.** Таварыства атрымала ліст-запыт ад Міністэрства юстыцыі, якое запатрабавала даць інфармацыю з нагоды правядзення месячніка “Размаўляем па-беларуску” і публікацыі “Крыж усталяваны на месцы бою” ў штотыднёвіку “Биржа информация” № 241 (з нагоды ўсталявання крыжа ў в. Беліца Лідскага раёна).

**17 кастрычніка.** Сакратарыят ТБМ звярнуўся ў Міністэрства замежных спраў, Міністэрства культуры, да творчых саюзаў краіны, шырокай грамадскасці з прапановай падтрымаць ініцыятыву Таварыства беларускай культуры ў Літве па адраджэнні Беларускага музея ў Вільні.

**31 кастрычніка.** На Сакратарыяце прыняты зварот “Беларускую газету — у кожную сям’ю”, у якім прапануецца з новага 2003 года падпісацца на беларускамоўныя газеты і часопісы. З ініцыятывы Сяргея Кручкова ў Доме прэсы па дадзенай праблеме праведзена нарада рэдактараў газет. У метро, а таксама на радыё змешчана рэклама на падпіску “Новага Часу”.

**1 лістапада.** ТБМ праводзіць месячнік “Танчым па-беларус-

ку” ў форме беларускамоўных дыскатэк для школьнай моладзі.

**10 лістапада.** Баранавіцкая рада ТБМ наладзіла святочную імпрэзу, прысвечаную 120-годдзю Янкі Купалы і Якуба Коласа.

**17 лістапада.** Кіраўнік спраў ТБМ Сяргей Кручкоў на Сакратарыяце ТБМ інфармаваў пра тое, што начальнікі цягнікоў атрымалі загад зверху не браць ад ТБМ музычных дарункаў (аўдыёкасеты).

**23 лістапада.** На справаздачна-выбарчай канферэнцыі Магілёўскай абласной арганізацыі ТБМ прыняты Заклік да Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь больш актыўна спрыяць пашырэнню беларускамоўнай мовы ў адукацыі з канкрэтнымі прапановамі.

Старшынёй арганізацыі абрана Наталля Лебедзева.

**Лістапад**

Мазырская гарадская рада ТБМ выдала кішэнны каляндарык на 2003 г. з нагоды 425-годдзя з часу атрымання Мазыром магдэбургскага права.

Менская гарадская арганізацыя на шматлікія запыты да кіраўніцтва Белтэлерадыёкампаніі атрымала ліст, у якім апошняе абяцае ўвесці перадачы на беларускай мове.

**6 снежня.** У Лідскім гарадскім доме культуры адбылася прэзентацыя кнігі старшыні суполкі ТБМ Лідскай музычнай навучальні Мар’яна Баяровіча “170 беларускіх народных песень Гродзеншчыны, запісаных М. А. Баяровічам”, выдадзеная з дапамогай Лідскай (раённай) арганізацыі ГА “ТБМ імя Ф. Скарыны”.

**12 снежня.** Сакратарыят ТБМ прыняў рашэнне абскардзіць у Вярхоўным Судзе пісьмовае папярэджанне Міністэрства юстыцыі, вынесенае ТБМ 26.11. 2002 г., за крыж у Беліцы і акцыю “Размаўляем па-беларуску”.

Напярэдадні зімовых святаў -- Калядаў, Нараджэння Хрыстова, Новага года Сакратарыят ТБМ звярнуўся да грамадзянаў Беларусі з заклікам “Святкуем па-беларуску”. Заклік з прапановамі разасланы ў СМІ.

**Снежань**

100-годдзе Максіма Гарэцкага ТБМ адзначыла выданнем кішэннага каляндарыка на 2003 год з выявай пісьменніка.

ТБМ пры падтрымцы еўрапейскай супольнасці выступіла з ініцыятывай заснавання незалежнага спадарожнікавага тэлеканала.

На Рэспубліканскай радзе ТБМ у рэчышчы выканання Стратэгіі развіцця беларускай мовы ў 21-м стагоддзі разглядалася пытанне стварэння кампутарных праграм, якія б забяспечылі выкарыстанне беларускай мовы ў інфармацыйных тэхналогіях.

Створана камісія па інфарматызацыі, якая вызначыла першачарговыя задачы па ўкараненні беларускай мовы ў кампутарную сферу.

**У 2002 годзе**

Гарадзенская абласная рада ТБМ у 2002 г. выдала Беларускі спеўнік, які пры садзеянні Лідскай гарадской арганізацыі быў перавыдадзены ў 2003 г. (96 старонак, 73 беларускія песні).

Баранавіцкая гарадская арганізацыя ТБМ выдала песенны зборнік “Люблю наш край”.

Намаганнямі Шаркаўшчынскай раённай арганізацыі ТБМ сумесна з КАЦ імя Язэпа Драздовіча стварылі прыватны мемарыяльны Дом-музей на сядзібе вядомага садавода Івана Сікоры ў вёсцы Алашкі.

Пачаў выходзіць друкаваны дадатак на 22 старонках да радыёперадачы “Люблю наш край”, якую рыхтуюць і вядуць на Баранавіцкім радыё сябры Баранавіцкай гарадской арганізацыі.

# 2003 год

**21 студзеня.** ТБМ атрымала ад Міністэрства юстыцыі чарговае пісьмовае папярэджанне з прычыны таго, што Лідская гарадская арганізацыя ТБМ карыстаецца старой пячаткай, якая не адпавядае статутнай.

**26 студзеня.** У Чырвоным касцёле адбылося паседжанне Рады ТБМ. Заслуханы справаздачны даклад старшыні ТБМ Алега Трусава. Зацверджаны план работы ТБМ на 2003 год. Абмеркаваны канчатковы варыянт Стратэгіі развіцця беларускай мовы ў XXI стагоддзі. Прынятыя звароты: да кандыдатаў у дэпутаты мясцовых саветаў аб выкарыстанні імі беларускай мовы падчас выбарчай кампаніі, да выбаршчыкаў аб падтрымцы кандыдатаў, якія ведаюць і шануюць родную мову.

**27, 28 і 29 студзеня.** Адбыліся судовыя паседжанні Вярхоўнага Суда па зыску ТБМ да Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь у сувязі з пісьмовым папярэджаннем, якое атрымала грамадскае аб'яднанне 26. 11. 2002 г. за устаноўку мемарыяльнага крыжа ў гонар лідскай шляхты і абвестку пра месячнік "Размаўляем па-беларуску", дзе адсутнічала поўная, зарэгістраваная Мінюстам назва арганізацыі. Суд не задаволіў скаргу Таварыства. ТБМ прайграла судовую справу. Судовыя паседжанні ішлі на беларускай мове.

**28 студзеня.** Адбылася сустрэча старшыні ТБМ Алега Трусава з прадстаўнікамі Адміністрацыі Прэзідэнта па пытанні стварэння Беларускага нацыянальнага універсітэта. Прыхільна, з вялікай цікавасцю былі выслуханыя прапановы Алега Трусава.

**Студзень**

ТБМ выпусціла кішэнны каляндарык на 2003 г. з выявай Францішка Аляхновіча -- да 120-годдзя з дня нараджэння пісьменніка. Дызайн Ігара Марачкіна.

**2 лютага.** Адбылася справаздачна-выбарчая канферэнцыя Менскай абласной арганізацыі ТБМ. Старшынём пераабраны Юры Малаш.

**5 лютага.** ТБМ атрымала паведамленне з Міністэрства юстыцыі пра адмену пісьмовага папярэджання. Такое сталася магчымым дзякуючы выкананню рашэння Рады ТБМ, якая адбылася 26 студзеня 2003 г.

**6 лютага.** На паседжанні Сакратарыята ТБМ прынятая праграма правядзення месячніка "Любім і кахаем па-беларуску". У праграме месячніка: зварот да грамадзянаў "Любіце і кахайце па-беларуску", рэкламныя лісткі ў навучальных установах, конкурс "валянцінак", конкурсы "Любоўныя пары ў беларускім мастацтве", "Што і як любілі, каго і як кахалі нашы продкі?", "Як мы пазнаёміліся?".

**23 лютага.** На паседжанні Віцебскай абласной рады ТБМ абмеркаваная дзейнасць арганізацый і суполак. Рада звярнулася да старшыні Савета Рэспублікі А.П. Вайтовіча і міністра адукацыі П.І. Брыгадзіна з просьбай, каб з 2003/2004 навучальнага года быў адкрыты універсітэт з беларускай мовай навучання. Рада звярнулася

таксама да міністра адукацыі з патрабаваннем неабходнасці вяртання абавязковага выпускнога экзамену па беларускай літаратуры ў сярэднюю школу.

Рада вырашыла звярнуцца ва ўладныя структуры па пытанні музеефікацыі хаты Васіля Быкава ў в. Бычкі Ушацкага раёна, а таксама Рада вырашыла ўшанаваць памяць памерлага ў снежні 2002 г. намесніка старшыні абласной рады Анатоля Канапелькі выданнем памятнага каляндарыка.

Намеснікам старшыні Рады абраны Юры Бабіч.

**24 лютага.** Сябры ТБМ прымалі ўдзел у тэлевізійнай праграме “Выбар”, прысвечанай будучыні беларускай мовы. Падчас перадачы патэлефанавалі 26 тысяч гледачоў, з іх 65 % выказаліся ў падтрымку далейшага развіцця беларускай мовы.

**Люты**

На свой запыт Таварыства атрымала адказ з Менскага гарвыканкама, аб тым, што ў забудове Вялікая Сцяпянка вуліцы № 7 нададзена імя Ігната Дамейкі, № 8 — Браніслава Тарашкевіча, № 9 — Паўлюка Труса.

Да 100-годдзя першай беларускай партыі Грамада ТБМ разам з Фондам імя братоў Луцкевічаў выпусціла кішэнны каляндарык на 2003 г. накладам 1000 асобнікаў. Выкарыстана карціна Аляксея Марачкіна “Іван Луцкевіч”.

**13 сакавіка.** З нагоды Дня абароны правоў спажыўца на паседжанні Сакратарыят ТБМ прыняты зварот “Аб выкарыстанні беларускай мовы на спажывецкім рынку” да ўраду, заканадаўчых органаў, Дзяржстандарту.

**28 сакавіка.** Слонімская суполка ТБМ правяла круглы стол па праблемах роднай мовы.

**29 сакавіка.** У падвіленскіх Свіранах у Літве, на радзіме Францішка Багушэвіча, намаганнямі рупліўцаў ТБМ Віленскага краю ў гонар дня народзінаў пісьменніка ўстаноўлены і асвечаны Святы Крыж.

**Сакавік**

Асіповіцкая раённая арганізацыя ТБМ зладзіла сустрэчу з паэтамі Навумам Гальпяровічам і Алесем Пісьмянковым.

**3 красавіка.** Прынятая заява з нагоды новага праекту “Правілаў беларускай арфаграфіі і пунктуацыі”, у якім цалкам ігнаруюцца нормы беларускай мовы. ТБМ выказвае рашучую нязгоду з аўтарамі праекту.

**9 красавіка.** Выйшаў 600-ы нумар “Нашага слова”.

**Красавік**

Абрабавалі сядзібу ТБМ: скралі ўсю інфармацыю з кампутара разам з яго дэталямі.

**20 траўня.** На чарговым паседжані абласной рады Гарадзенскай арганізацыі ТБМ абмеркаваны пытанні стану беларускай мовы на Гарадзеншчыне. Прыняты зварот да старшыні абласнога Савета народных дэпутатаў А. Карпуця.

**Травень**

Падведзены вынікі конкурсу “Як мы пазнаёміліся?”. Яніна Мельнікава і Максім Маслаў з г. Слоніма, якія занялі першае месца, узнагароджаны скіраваннем на курорт “Нарач”. Другое месца – Ірына Рабушка і яе муж з Маладзечна, трэцяе – Таццяна Падліпская і Максім з Клімавіч.

ТБМ распрацавала і даслала ў Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь Прапановы па ўдасканаленні Закона “Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь”. Прапановы падрыхтавалі: Генадзь Бураўкін, Лявон Баршчэўскі, Ніл Гілевіч, Сяргей Кручкоў, Вячаслаў Рагойша, Язэп Стэпановіч, Алег Трусаў, Генадзь Цыхун.

ТБМ выпусціла кішэнны каляндарык на 2003 г. да 100-х угодкаў Наталлі Арсенневай. Выкарыстана фота паэткі 1920-х гадоў з Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва. Дызайн Ігара Марачкіна.

**5 чэрвеня.** Сакратарыят ТБМ прыняў заяву “Абаронім Беларускі ліцэй” з прычыны звальнення з пасады дырэктара Уладзіміра Коласа.

У сувязі з прыпыненнем выхаду ў свет “Беларускай дзелавой газеты” прынята заява “Свабоду незалежнай прэсе”.

**24 чэрвеня.** Сябры Баранавіцкай гарадской арганізацыі правялі жалобны сход, на якім ушанавалі памяць Васіля Быкава.

**25 чэрвеня.** 32 сябры Баранавіцкай гарадской арганізацыі

паехалі ў г. Менск для ўдзелу ў грамадзянскай акцыі развітання з народным пісьменнікам Васілём Быкавым.

**26 чэрвеня.** На паседжанні Сакратарыят ТБМ прынята заява "Спыніць русіфікацыю Беларускай чыгункі". Распачаты збор подпісаў грамадзянаў за вяртанне беларускай мовы на чыгунку, асабліва ў электрацягнікі.

Накіраваны ліст на імя намесніка прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь Ул. Дражына з прапановамі па ўвекавечанні памяці народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава.

**Чэрвень**

Праведзены заняткі гістарычнага семінара для студэнтаў ВНУ. Вядучыя семінара: Уладзімір Арлоў, Віталь Скалабан, Кастусь Тарасаў.

**6 ліпеня.** Асіповіцкая раённая арганізацыя накіравала зварот на імя кіраўнікоў прадпрыемстваў аб выкарыстанні беларускай мовы на прадукцыі, што выпускаюцца ў горадзе.

**8 ліпеня.** Падчас летніх адпачынкаў ТБМ атрымала запыт з Міністэрства юстыцыі "Аб прадастаўленні інфармацыі пра дзейнасць аб'яднання". Усяго – 8 пунктаў.

**12 ліпеня.** Дзякуючы намаганням ТБМ у новых дзяржаўных стандартах зроблены запіс аб абавязковым ужыванні дзяржаўнай беларускай мовы пры маркіроўцы харчовых тавараў. Гэтаму папярэднічала праца сяброў Сакратарыята ТБМ па перакладзе на беларускую мову тэкстаў стандартаў на харчовыя і нехарчовыя тавары на грамадскіх пачатках. Арганізаваны збор подпісаў грамадзянаў пад патрабаваннем выкарыстання беларускай мовы таваравытворцамі.

**12-13 ліпеня.** Лідская арганізацыя ТБМ наладзіла семінар па тэме "Стратэгічнае планаванне дзейнасці лідскіх арганізацый ГА "ТБМ імя Францішка Скарыны".

**13 ліпеня.** Лідская гарадская арганізацыя ТБМ прыняла ўдзел у асвячэнні мемарыяльнай дошкі ў гонар трох ксяндзоў, расстраляных царскімі карнікамі за ўдзел у паўстанні 1863 г.

**26 ліпеня.** Лідская гарадская арганізацыя ТБМ правяла шэраг

мерапрыемстваў да 10-годдзя ўстаноўкі ў г. Лідзе помніка Францішку Скарыну. У 12.00 старшыня ТБМ Алег Трусаў і першы старшыня Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ Міхась Мельнік усклалі вянок 2-х мятровай вышыні да помніка Ф. Скарыну. У 15.00 кандыдат гістарычных навук Алег Трусаў і доктар гістарычных навук Алесь Краўцэвіч правялі сустрэчу з лідзянамі.

**27 ліпеня.** Лідская гарадская арганізацыя правяла шэраг мерапрыемстваў да 140-х угодкаў паўстання 1863 года.

У 9.00 былі ўскладзены кветкі да магілы ўдзельніцы паўстання Валерыі Цехановіч. У 9.30 былі ўскладзены кветкі да магілы героя паўстання ксендза Адама Фалькоўскага.

У 11 гадзін адбылася сустрэча лідзян з беларускімі пісьменнікамі Вольгай Іпатавай, Эрнэстам Ялугіным, Міхасём Скоблам, бардам Эдуардам Акуліным.

У 15.00 адбылася штогадовая імша ў памяць паўстанцаў 1863 года ва ўрочышчы “Крыжы” паміж вёскамі Малое Ольжава і Мохавічы Лідскага раёна з удзелам старшыні ТБМ Алега Трусава і беларускіх пісьменнікаў Вольгі Іпатавай, Эрнэста Ялугіна, Міхася Скоблы, барда Эдуарда Акуліна.

**Ліпень**

Віцебская абласная і гарадская арганізацыі ТБМ ушанавалі памяць сябра Таварыства Анатоля Канапелькі, якому ў 2004 годзе споўнілася б – 65 гадоў, выпускам кішэннага каляндарыка (дызайн Ігара Марачкіна).

Да 80-годдзя Васіля Быкава ТБМ выдала кішэнны каляндарык (3 тысячы асобнікаў) на 2004 г., а таксама плакат фарматам А-3 і А-4 (дызайн Ігара Марачкіна, фота Сяргея Шапрана).

ТБМ выпусціла юбілейныя кішэнныя каляндарыкі на 2003-2004 навучальны год да 120-х угодкаў Вацлава Ластоўскага і Язэпа Лёсіка. (Дызайн – сябра ТБМ Ігара Марачкіна).

**21 жніўня.** Сімволіка Таварыства ўнесена ў Дзяржаўны геральдычны рэестр Рэспублікі Беларусь за № Б-93. Палажэнне аб эмблеме зацверджана Камітэтам па архівах і справаводстве пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь.

Згодна з заявай Лявона Баршчэўскага, Сакратарыят ТБМ вырашыў даць дазвол на выкарыстанне памяшкання ТБМ з 9 да 16 гадзінаў штодня для правядзення бясплатных кансультацый навучэнцам забароненага ўладамі Беларускага гуманітарнага ліцэя.

У сувязі з 70-годдзем ад дня рэфармавання беларускай мовы

2 жніўня 1933 г. Сакратарыят ТБМ прыняў заяву “70 год таму хацелі знішчыць беларускую мову”.

**27 жніўня.** ТБМ накіравала адкрыты ліст на імя старшыні Менгарвыканкама М. Паўлава наконт сітуацыі вакол НДГЛ імя Якуба Коласа (ліст прыняты на Сакратарыяце 21 жніўня).

**Жнівень**

Таварыства атрымала ліст ад кіраўніка дзяржавы, у якім паведамляецца, што “Стварэнне на сучасным этапе ў краіне новай дзяржаўнай ВНУ не прадстаўляецца магчымым”. Па даручэнні Адміністрацыі Прэзідэнта ліст прыйшоў з Міністэрства адукацыі за подпісам міністра Пятра Брыгадзіна.

**11 верасня.** Старшынём Гарадзенскай гарадской арганізацыі ГА “ТБМ імя Ф. Скарыны” абраны грамадскі дзеяч Мікола Маркевіч.

**13 верасня.** На паседжанні Віцебскай абласной рады прынята пастанова “Аб плане дзеянняў абласной арганізацыі ТБМ па ўвекавечанні памяці Васіля Быкава і падрыхтоўцы да 80-годдзя з дня яго нараджэння. Адпаведныя прапановы былі дасланы ў Адміністрацыю Прэзідэнта, Савет Міністраў, Міністэрства культуры, Віцебскі гарвыканкам і аблвыканкам.

**19 верасня.** Асіповіцкая раённая арганізацыя прыняла ўдзел у святкаванні 10-годдзя мясцовай Беларускай гімназіі. Сябры ТБМ падарылі альбом з фотаздымкамі вядомых беларускіх пісьменнікаў, бібіліятэчку кніг мастацкай літаратуры, энцыклапедыі і кнігі па гісторыі Беларусі.

**21 верасня.** Адбылася справаздачна-выбарчая канферэнцыя Гарадзенскай абласной арганізацыі. Абмеркаваны стан спраў Гарадзенскай гарадской арганізацыі, дзе засталося толькі 156 сяброў. Старшынём пераабраны Алесь Місцюкевіч.

**30 верасня.** Адбылася справаздачна-выбарчая канферэнцыя Светлагорскай раённай арганізацыі ТБМ, на якой Вадзім Болбас склаў з сябе абавязкі старшыні. Старшынём абраны Тэльман Маслюкоў.

**12 кастрычніка. VIII з’езд ТБМ.** Заслуханы справаздачны даклад Старшыні ТБМ Алега Трусава, намеснікаў Алены Анісім,

Людмілы Дзіцэвіч, Сяргея Кручкова, намесніка старшыні Рэвізійнай камісіі Міколы Лавіцкага, рэдактара "Нашага слова" Станіслава Судніка. Абмеркаваныя праблемы мовы і дзейнасці арганізацыі, прынятыя новыя дакументы. Разгледжана сітуацыя вакол НДГЛ імя Якуба Коласа. Прынята заява "Шанаванне роднай мовы – адзін з найбліжэйшых шляхоў да дабрабыту і дэмакратыі", зварот да палітычнага кіраўніцтва краіны, зварот да грамадзянаў Беларусі і зварот у Канстытуцыйны Суд Рэспублікі Беларусь.

Старшынём абраны Алег Трусаў, намеснікамі – Людміла Дзіцэвіч (першы намеснік), Сяргей Кручкоў, Алена Анісім, старшынём Рэвізійнай камісіі – Мікола Лавіцкі.

**РЭСПУБЛІКАНСКАЯ РАДА**
**ГА "ТБМ ІМЯ ФРАНЦІШКА СКАРЫНЫ",**
**абраная на VIII з'ездзе ТБМ**

1. Аксак Валянціна, Менск
2. Анісім Алена, Менск
3. Арлоў Уладзімір, Менск
4. Бабіч Юры, Віцебск
5. Багданкевіч Святлана, Менск
6. Банкевіч Генадзь, Менск
7. Бароўскі Анатоль, Гомель
8. Баршчэўскі Лявон, Менск
9. Барэль Таццяна, Асіповічы
10. Булавацкі Міхась, Магілёў
11. Бураўкін Генадзь, Менск
12. Гаравы Леанід, Гарадок
13. Гарановіч Віталь, Глыбокае
14. Гарэцкі Радзім, Менск
15. Гілевіч Ніл, Менск
16. Грыцкевіч Анатоль, Менск
17. Гуркоў Сяргей, Менск
18. Дзіцэвіч Людміла, Менск
19. Завальнюк Уладзіслаў, Менск
20. Запрудскі Сяргей, Менск
21. Зуёнак Васіль, Менск
22. Іванова Бярнарда, Менскі р-н
23. Іпатава Вольга, Менск
24. Камароўскі Мікалай, Орша
25. Кануннікава Ніна, Гародня
26. Колас Уладзімір, Менск

27. Краўчанка Пётр, Менск
28. Кручкоў Сяржук, Менск
29. Кузьміч Вольга, Менск
30. Лапіцкі Аляксей, Жодзіна
31. Лебедзева Наталля, Магілёў
32. Мазынскі Валер, Менск
33. Майсеня Людміла, Менск
34. Малаш Юры, Менск
35. Мальдзіс Адам, Менск
36. Марачкіна Ірына, Менск
37. Маркевіч Мікола, Гародня
38. Мацкевіч Васіль, Пінск
39. Місцюкевіч Алесь, Гародня
40. Навумчык Іосіф, Віцебск
41. Палсцюк Валеры, Менск
42. Піскун Людміла, Калінкавічы
43. Пяткевіч Аляксей, Гародня
44. Ролік Міхась, Міёры
45. Рымша Алесь, Наваполацк
46. Санько Зміцер, Менск
47. Содаль Уладзімір, Менск
48. Сом Алена, Полацк
49. Суднік Station Станіслаў, Ліда
50. Сырыца Віктар, Баранавічы
51. Трафімчык Таццяна, Слонім
52. Трусаў Алег, Менск
53. Цыхун Генадзь, Менск
54. Чэчат Алесь, Менск

**12 кастрычніка.** Адбылася Берасцейская абласная справаздачна-выбарчая канферэнцыя, на якой абрана новае кіраўніцтва арганізацыі: Віктар Сырыца – старшыня, Ніна Чаранкевіч -- намеснік.

**15 лістапада.** Група сяброў Баранавіцкай гарадской рады прымала ўдзел у паэтычным тыдні ў гонар Паўлюка Багрыма, які праводзіўся ў Крошынскай школе. Гаворка ішла і пра дзейнасць гарадской арганізацыі ТБМ.

**Лістапад**

ТБМ неаднаразова звярталася да кіраўніка краіны, намесніка прэм’ер-міністра У. Дражына, Міністра культуры, Міністра эканомікі з прапановай неадкладна пачаць рэстаўрацыю Лідскага

замка. У падтрымку гэтых зваротаў Лідская гарадская арганізацыя ТБМ распачала збор подпісаў грамадзянаў.

**5 снежня.** У адказ на шматлікія запыты ТБМ Канстытуцыйны Суд прыняў рашэнне "Аб выкарыстанні беларускай і рускай моваў у сферы абслугоўвання, абароту банкаўскіх пластыкавых картак і ў сістэме дзяржаўнага страхавання", у якім прызнаў, што сённяшні Закон "Аб мовах" не адпавядае дзейнай Канстытуцыі.

**14 снежня.** Адбылася справаздачна-выбарчая канферэнцыя Віцебскай абласной арганізацыі ТБМ. Прынята адпаведная Пастанова. Абрана Рада ў складзе 19 чалавек, рэвізійная камісія (3 сябры), старшыня Іосіф Навумчык, намеснік – Юры Бабіч.

На паседжанні Рады Віцебская абласная арганізацыя ТБМ выступіла з ініцыятывай аб ўвекавечанні памяці народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава, падрыхтоўцы да 80-х угодкаў яго народзінаў і накіравала свае прапановы ў Адміністрацыю Прэзідэнта, Савет Міністраў, Міністэрства культуры, Віцебскі абл- і гарвыканкамы.

**16 снежня.** На паседжанні Сакратарыяту ТБМ былі ўзнагароджаны пераможцы конкурсу "Рупліўцы Беларушчыны", у якім бралі ўдзел 104 чалавекі. Узнагароды ўручалі Радзім Гарэцкі, Вольга Іпатава, Уладзімір Арлоў, Марыя Міцкевіч. Публікацыя пра вынікі конкурсу змешчаная ў "Нашым слове" 4 лютага 2004 года.

Прынята заява "Калядуем па-беларуску".

Сябра ТБМ, старшыня Пружанскай раённай арганізацыі з 1989 года Іван Здановіч падрыхтаваў і выдаў грамадска-літаратурны даведнік "Рупліўцы беларускага нацыянальнага адраджэння з Пружаншчыны".

**У 2003 годзе**

Сябра Слонімскай суполкі ТБМ Янка Карповіч стварыў музей гісторыі горада Слоніма ў СШ № 10.

Дзякуючы намаганням Сакратарыята ТБМ, Магілёўскай абласной і Горацкай раённай арганізацыям ТБМ, а таксама Ірыны і Віктара Каральковым з Горак іхняй дачцы, пяцікласніцы Марылі пачалі з студзеня 2002/2003 навучальнага года выкладаць матэматыку, гісторыю і прыродазнаўства на беларускай мове. Змаганне за навучанне дзяўчынкі на роднай мове мела шырокі розгалас у прэсе, у тым ліку ў газеце "Звязда" і на тэлебачанні.

# 2004 год

**8 студзеня.** У газеце "Наша слова" апублікаваная Стратэгія дзейнасці ТБМ па развіцці беларускай мовы ў XXI стагоддзі, ухваленая Радай ТБМ 26 студзеня 2003 г.

Асіповіцкая раённая арганізацыя ТБМ накіравала адкрыты ліст старшыні Ягору Рыбакову з патрабаваннем пашырэння на радыё і тэлебачанні вяшчання на беларускай мове.

**12 студзеня.** Таварыства атрымала афіцыйны ліст з Адміністрацыі Партызанскага раёна г. Менска аб тым, што дамова на арэнду памяшкання па вул. Румянцава, 13 заканчваецца 4 сакавіка, і тэрмін яе не будзе падоўжаны. Фактычна, гэта азначае высяленне. Распачалася праца па зборы подпісаў у абарону сядзібы на імя старшыні гарвыканкаму Паўлава.

**15 студзеня.** Рада Гарадзенскай абласной арганізацыі сумесна з аддзелам адукацыі наладзіла вечарыну ў гонар пераможцаў алімпіяд у Гародні, на якой тыя былі ўзнагароджаны беларускамі кнігамі і сувенірамі.

**23-24 студзеня.** Пад Менскам адбыўся 1-шы праваабарончы форум, у працы якога браў удзел ад ТБМ Дзяніс Тушынскі.

**Студзень**

Полацкая гарадская арганізацыя ТБМ (старшыня Алена Сом) выдала кішэнны каляндарык на 2004 год з сімволікай ТБМ.

Светлагорская раённая арганізацыя ТБМ распачала выданне Інфармацыйнага бюлетэня.

**1 лютага.** На паседжанні Рэспубліканскай рады, якое адбылося ў сядзібе БНФ, заслуханы справаздачны даклад старшыні Алега Трусава аб дзейнасці ТБМ ў 2003 г., зацверджаны план работы на 2004 г. Абмеркавана праца камісіяў ТБМ, а таксама сітуацыя, якая склалася вакол сядзібы ТБМ у сувязі з адмовай раённай улады працягнуць дамову арэнды.

Прыняты зварот да грамадзянаў "Свята роднай мовы" ў сувязі з Міжнародным днём роднай мовы 21 лютага, зварот да моладзі з заклікам выбіраць на тэставанні экзамен па беларускай мове, а таксама ліст на імя прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь С. Сідорскага з прапановай вырашыць пытанне з сядзібай ТБМ шляхам

перадачы памяшканняў па вул. Румянцава, 13 у бестэрміновую арэнду.

**5, 6, 8 лютага.** Да 80-годдзя з дня нараджэння Валянціна Таўлая ў Баранавічах прайшлі Таўлаеўскія дні, арганізаваныя тамтэйшым ТБМ разам з Цэнтральнай бібліятэкай і музеем Таўлая.

**21 лютага.** Да Міжнароднага дня роднай мовы з ініцыятывы ТБМ у храмах адбыліся малебны за беларускі народ, родную мову, прыняты зварот Сакратарыята да грамадзянаў, накіраваны лісты на Беларускае тэлебачанне з прапановамі адзначыць гэты дзень адмысловымі перадачамі, надрукаваны артыкул Уладзіміра Кошчанкі ў “Нашым слове”, Ірыны Марачкінай у “Народнай волі”.

**25 лютага.** ЖРЭА Партызанскага раёна падпісала дамову з Таварыствам на арэнду сядзібы па вул. Румянцава, 13 да 31 сакавіка 2004 г.

Агульны сход Гарадзенскай гарадской арганізацыі ТБМ звярнуўся да выкладчыкаў ВНУ з заклікам актыўней выкарыстоўваць беларускую мову ва ўсіх формах практычнай, выкладчыцкай і навучальнай дзейнасці.

Беларуская чыгунка звярнулася ў ТБМ з просьбай спыніць звароты грамадзянаў і паведаміла пра выпраўленне становішча з выкарыстаннем беларускай мовы ў справаводстве, афармленні дакументаў, канвертаў, у абвестках станцый і інфармацыі ў электрацягніках.

Сакратарыят ТБМ звярнуўся да ўладных структураў і грамадзянаў краіны з прапановай захаваць часопіс “Бярозка”, над якім навісла пагроза ліквідацыі. Зварот “Бярозка ў небяспецы” быў надрукаваны ў СМІ.

**3 сакавіка.** На запыт ТБМ ААТ “Ашчадны банк Беларусбанк” паведаміў, што займаецца перакладам дакументаў на беларускую мову.

**14 сакавіка.** Сакратарыят ТБМ прыняў зварот да грамадзянаў “Абаронім Дом літаратара” з нагоды наступу ўладных структураў на Саюз беларускіх пісьменнікаў.

**15 сакавіка.** Атрымана афіцыйнае паведамленне КУП “Менскі гарадскі цэнтр нерухомасць” Менскага гарвыканкама аб перазаключэнні дамовы на арэнду памяшкання тэрмінам да 4 лютага

2005 г.

Па просьбе кіраўніцтва Беларускай чыгункі Сакратарыят ТБМ зрабіў пераклад неабходных дакументаў і паведамленняў на беларускую мову. Пераклад беларускіх назваў узгоднены з Інстытутам мовазнаўства НАН Беларусі.

**31 сакавіка.** Віцебская абласная рада ТБМ звярнулася да ўсіх, каму дарагое імя Васіля Быкава, з просьбай зрабіць грашовыя ахвяраванні на ўшанаванне ягонай памяці.

**15 красавіка.** Слуцкая гарадская арганізацыя ТБМ зарэгістравана ў гарвыканкаме.

**25 красавіка.** У сталічным Доме літаратара адбыўся 2-гі Усебеларускі сход інтэлігенцыі, на якім з дакладам аб выключнай ролі беларускай мовы ва ўсіх грамадскіх працэсах выступіў старшыня ТБМ Алег Трусаў.

**28 красавіка.** Сакратарыят ТБМ прыняў заяву з нагоды пагрозы ліквідацыі Навуковага культурна-асветнага цэнтра імя Францішка Скарыны.

**Красавік**

ТБМ накіравала лісты на імя старшыні Камітэта Дзяржаўнага кантролю А. А. Тозіка, генеральнага пракурора В. У. Шэймана, прэм'ер-міністра С.С. Сідорскага, міністра адукацыі А. М. Радзькова, дырэктара Рэспубліканскага інстытута кантролю ведаў М.С. Фяськова з нагоды таго, што тэставыя заданні для выпускнікоў сярэдніх школаў падрыхтаваныя толькі на рускай мове.

**1-2 траўня.** Адбыўся 5-ы кангрэс Асамблеі няўрадавых арганізацый Беларусі, на якім ад ТБМ удзел браў Дзяніс Тушынскі. Быў прыняты стратэгічны план Асамблеі.

**8 траўня.** Падчас добраахвотнага платнага тэставання 41129 навучэнцаў абралі для здачы іспыту беларускую мову, у той час як рускую — 37689, матэматыку — 38199. У сувязі з гэтым Сакратарыят ТБМ прыняў заяву “Моладзь — за беларускую мову”.

**14 траўня.** У цэнтры беларускай культуры і мовы МДЛУ адбылася прэзентацыя першай у Беларусі прафесійнай праграмы праверкі арфаграфіі “Літара 1.0”. Гэта плён працы калектыву на-

вукоўцаў, мовазнаўцаў і практыкаў: Генадзя Цыхуна, Змітра Санько, Змітра Саўкі, Уладзіміра Кошчанкі, Сяргея Шуры, Юрася Бушлякова, Югасі Валкавец. Ідэя стварэння праграмы належыць намесніку старшыні ТБМ Сяргею Кручкову. Тэхнічная рэалізацыя навуковага супрацоўніка Інстытута электронікі НАН Беларусі Фёдара Піскунова.

**22 траўня.** Падчас святкавання 15-годдзя Таварыства беларускай культуры ў Літве адбылося адкрыццё мемарыяльнай дошкі ў гонар паэткі Наталлі Арсенневай. З ініцыятывы ТБМ дошка ўсталявана на будынку былой беларускай гімназіі ў Базыльянскіх мурах у Вільні. Скульптар — Алесь Шатэрнік, фундатар – сябра ТБМ Пятро Краўчанка і суполка ТБМ "Спадчына".

**29 траўня.** На радзіме Францішка Багушэвіча ў Свіранах сіламі ТБМ Віленскага краю, а таксама актывістамі фальварку Свіраны праведзены Дзень беларускай паэзіі, мовы і малітвы па ўшанаванні памяці паэта. Падчас імпрэзы быў адкрыты Мемарыяльны знак Францішку Багушэвічу. ¨н усталяваны на пастаменце з выявай скульптуры Маці Божай Ружанцовай. Малебен і асвячэнне Знака правёў біскуп Віленскай курыі а. ¨зас Тунайціс.

**Травень**

Праязныя талоны па-беларуску ў Гародні — вынік ліставання ТБМ з гарадскімі ўладамі.

Берасцейскі, Гомельскі, Магілёўскі, Віцебскі выканкамы пацвердзілі, што плануецца пераклад праязных дакументаў на беларускую мову ў 2005 годзе або па меры выкарыстання рускамоўнага варыянту.

Завяршыў сваю працу гістарычны семінар для студэнтаў, які доўжыўся болей за год.

**24 чэрвеня.** У Лідскім райвыканкаме прайшоў круглы стол з удзелам кіраўніцтва горада і прадстаўнікоў грамадскіх арганізацый, наладжаны па ініцыятыве Лідскай гарадской арганізацыі ГА "ТБМ імя Францішка Скарыны". Круглы стол вызначыў стратэгічныя кірункі ўзаемадзеяння грамадскіх арганізацый і ўладаў па захаванні, адраджэнні і развіцці гістарычна-культурнай спадчыны Лідчыны. У рамках рэалізацыі гэтых кірункаў пачаліся работы па арганізацыі новага этапу рэстаўрацыі Лідскага замка, па ўстаноўцы помніка Вялікаму князю Гедзіміну ў Лідзе, па адкрыцці Лідскага літаратурнага музея і інш.

**27 чэрвеня.** У сядзібе ТБМ адбылося ўрачыстае паседжанне Сакратарыята ТБМ, прысвечанае 15-годдзю з дня Ўстаноўчага з’езду ТБМ з удзелам Ніла Гілевіча, Лявона Баршчэўскага, Уладзіміра Коласа, Святланы Кліменцэнкі, Уладзіміра Содаля. Падчас імпрэзы была адкрыта выстава плаката Уладзіміра Крукоўскага. Таварыства беларускай мовы выпусціла адмысловы канверт да 15-гадовага юбілею.

**Чэрвень**

Падведзены вынікі конкурсу “Вытокі нашай незалежнасці”, які быў праведзены з ініцыятывы сябра Рады Вольгі Іпатавай. У конкурсе прынялі ўдзел 52 вучні старэйшых класаў і студэнты з усіх, акрамя Гарадзенскай, абласцей нашай краіны і горада Менска.

Светлагорская раённая арганізацыя ТБМ перадала аддзелу адукацыі выканаўчага камітэта Светлагорскага раёна кнігі для школ (мастацкая літаратура для вучняў пачатковых класаў) - 368 асобнікаў.

Віцебская абласная арганізацыя сумесна з абласной бібліятэкай і абласным аддзяленнем Саюза беларускіх пісьменнікаў праведзена вечарына, прысвечаная 80-годдзю В.У. Быкава. У вечарыне прыняў удзел сябар Васіля Быкава Г.М. Бураўкін.

Віцебская абласная рада ТБМ прыняла ўдзел у святкаванні 80-гадовага юбілею В.У. Быкава ва Ўшацкім раёне, дзе адбылося адкрыццё Дома-музея народнага пісьменніка ў в. Бычкі, і ва ўрачыстай вечарынеў раённым доме культуры.

**10 жніўня.** У сядзібе ТБМ адбылася прэзентацыя кнігі старшыні Таварыства Алега Трусава “Падсумаванне”, у якую ўвайшлі навуковыя і навукова-папулярныя артыкулы 2004 года, бібліяграфія за 1976-2004 гг. Удзел у імпрэзе бралі Генадзь Бураўкін, Ніл Гілевіч, Лявон Баршчэўскі, Віталь Скалабан, Кастусь Тарасаў.

**16 жніўня.** Асіповіцкая раённая арганізацыя звярнулася ў гарвыканкам з прапановай аб наданні адной з вуліц горада імя Васіля Быкава ў сувязі з яго 80-годдзем.

**25 жніўня.** Старшыня Бабруйскай суполкі Віктар Маліноўскі паведаміў, што, нарэшце, гарадскія ўлады далі станоўчы адказ на шматлікія запыты аб выкарыстанні беларускай мовы ў візуальным афармленні горада. Прапановы суполкі ўлічаны і будуць паступова рэалізаваны.

**Жнівень**

Выйшла ў свет кніжка вершаў для дзяцей сябра ТБМ Фелікса

Шкірманкова “Незвычайны каляндар”.

**Лета**

Удзел сяброў Светлагорскай арганізацыі ТБМ у моладзевай археалагічнай экспедыцыі (IX і X) на раскопках старажытнага гарадзішча ва ўрочышчы Гарадок, каля вёскі Адрубы Кабанаўскага сельскага Савета Жлобінскага раёна (сумесна з дзяржаўнай навуковай установай “Інстытут гісторыі Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі”, г. Менск).

**6 верасня.** Падатковая інспекцыя Партызанскага раёна г. Менска ўчыніла праверку дзейнасці ТБМ. Першы раз за 15 гадоў. Гэта адбылося падчас збору подпісаў за вылучэнне старшыні ТБМ Алега Трусава кандыдатам у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу.

**8 верасня.** На паседжанні Сакратарыята ТБМ было прынята рашэнне аб звароце ў пракуратуру Рэспублікі Беларусь па факту вандалізму ў адносінах да помніка Якубу Коласу на вайсковых могілках.

**17 верасня.** Упраўленне юстыцыі Гомельскага аблвыканкама паведаміла (ліст № 1-7/897) пра скасаванне запісу аб рэгістрацыі Гомельскай абласной арганізацыі ТБМ. Фактычна гэта азначае ліквідацыю абласной структуры. Старшыня Гомельскай абласной арганізацыі ТБМ, якому пра гэта не паведамілі, падазрае, што зроблена гэта ў сувязі з перадвыбарчай кампаніяй, у якой сябры ТБМ будуць прымаць удзел у назіранні за выбарамі ў Палату прадстаўнікоў 17 кастрычніка 2004 г.

**22 верасня.** На паседжанні Сакратарыята ТБМ прыняты зварот да кампаніі МТС па пытанні выкарыстання беларускай мовы ў аўтаматычнай службе сервісу абанентаў кампаніі. Распачаты збор подпісаў на адрас генеральнага дырэктара СТАА “Мабільныя ТэлеСістэмы” А.Б. Румянцава. Копія: Міністру сувязі і інфармацыі У.І. Ганчарэнку.

**29 верасня.** Адбылася вечарына-канцэрт беларускай бардаўскай песні, якую зладзіла ТБМ з нагоды 15-годдзя ад дня заснавання. Удзел бралі: Кася Камоцкая, Эдуард Акулін, Лера Сом, Алесь Камоцкі, Галіна і Барыс Вайханскія. Выступіў старшыня ТБМ Алег Трусаў. Вечарыну вяла Людміла Дзіцэвіч.

**14 кастрычніка.** З ініцыятывы Сакратарыята ТБМ распачаты збор подпісаў на адрас Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Рэспублікі Польшчы ў Рэспубліцы Беларусь пад заявай наступнага зместу:

*“Мы, грамадзяне Рэспублікі Беларусь занепакоеныя сітуацыяй, якая склалася вакол тыднёвіка “Ніва” і школаў Беласточчыны, у якіх беларуская мова вывучаецца як прадмет. Выклікаюць трывогу дзеянні Беластоцкай Дэлегатуры Найвышэйшай кантрольнай палаты Польшчы, якая штучна “раздзьмувае” скандал вакол фінансавай дзейнасці рэдакцыі газеты “Ніва” і патрабуе дэкларацый ад бацькоў, якія хочуць, каб іх дзеці вывучалі родную беларускую мову ў школах Беласточчыны. Просім Вас давесці нашую пазіцыю да Ураду Польшчы і зрабіць захады па захаванні газеты “Ніва”, а таксама захаванні беларускамоўнага навучання ў месцах кампактнага пражывання беларусаў Польшчы”.*

ТБМ атрымала адказ з Менскага гарвыканкама (намеснік старшыні М. А. Пятрушын) на свой запыт пра мову грашова-рэчавай латарэі “Сталіца”, у якім гаворыцца, што ў 2005 годзе наша прапанова па афармленні латарэйнага білета на беларускай мове будзе ўлічана.

**19 кастрычніка**. У адказ на запыт ТБМ РУУС Савецкага раёна г. Менска ўзбудзіў крымінальную справу па факту вандалізму на магіле Якуба Коласа.

**25 лістапада.** У адказ на калектыўны зварот грамадзянаў аб выкарыстанні беларускай мовы ў службе сервісу абанентаў Мабільныя Тэлесістэмы Генеральны дырэктар паведаміў, што плануецца стварэнне беларускамоўнай версіі афіцыйнага сайту кампаніі www.mts.by; вывучэнне магчымасці распрацоўкі аўтаматычнай службы сервісу абанента на беларускай мове.

**29 лістапада.** Канстытуцыйны Суд Рэспублікі Беларусь паведаміў, што новаму складу Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь накіравана рашэнне “Аб выкарыстанні беларускай і рускай моў у сферы абслугоўвання, абарачэння банкаўскіх пластыкавых картак і ў сістэме дзяржаўнага страхавання” з прапановай аб неабходнасці ўдасканальвання Закона “Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь” з мэтай прыняцця на заканадаўчым узроўні мер па забеспячэнні фактычнай роўнасці дзяржаўных моў – беларускай і рускай.

**2 снежня.** ТБМ спрычынілася да арганізацыі вечарыны-прэзентацыі новага зборніка вершаў сябра Рады Генадзя Бураўкіна “Жураўліная пара”. Імпрэза адбылася ў вялікай зале Дома літаратара.

**3 снежня.** Па запрашэнні камісіі ААН Сяргей Кручкоў удзельнічаў у міжнародных слуханнях па правах чалавека ў Беларусі, дзе выступіў з дакладам аб парушэнні лінгвістычных правоў грамадзянаў нашай краіны.

**9 снежня.** У адказ на запыт ТБМ Упраўленне па фізічнай культуры, спорту і турызму паведаміла, што “лічыць мэтазгодным уключыць парк-музей валуноў у пералік аб’ектаў для паказу турыстам Нацыянальнай праграмы турызму на 2006-2010 гг. пасля добраўпарадкавання яго тэрыторыі”.

**15 снежня.** Старшыня Камісіі па адукацыі, культуры, навуцы і НТП Палаты прадстаўнікоў У. Здановіч паведаміў, што, нягледзячы на прапановы Камісіі, пункт аб падрыхтоўцы праекта Закона Рэпублікі Беларусь “Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь “Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь” у Плане падрыхтоўкі законапраектаў адсутнічае.

**18 снежня.** У сядзібе ТБМ намеснік старшыні Сяргей Кручкоў наладзіў для выкладчыкаў Беларускага калегіюма прэзентацыю праграмы “Уводзіны ў дыстанцыйнае навучанне”.

**Снежань**

Намеснік старшыні ТБМ Сяргей Кручкоў на аснове праграмы Moodle зрабіў пераклад на беларускую мову абалонкі для стварэння курсаў дыстанцыйнага навучання.

ТБМ атрымала ліст з амбасады Рэспублікі Польшча за подпісам пасла сп. Тадэвуша Паўляка ў адказ на запыт пра дзеянні органаў кантролю Польшчы ў дачыненні да штотыднёвіка “Ніва”. Ліст быў надрукаваны ў “Нашым слове”.

**У 2004 годзе**

З прапановы ТБМ Міністэрства сувязі выпусціла віншавальныя паштоўкі з надпісамі “З Калядамі” і “Са святам Божага нараджэння”.

Берасцейская гарадская рада спрычынілася да выдання “Альпенскага дыялектнага слоўніка”, які сабралі вучні 7-9 класаў Альпенскай школы пад кіраўніцтвам свайго настаўніка.

На працягу года першы намеснік старшыні ТБМ Людміла Дзіцэвіч і яе дачка Юлія ствараюць у праграме “БУМ” на канале “Лад” дзве перадачы: “Гаворым па-беларуску”, “Народныя традыцыі”.

Намаганнямі Шаркаўшчынскай раённай арганізацыі ТБМ сумесна з КАЦ імя Язэпа Драздовіча стварылі прыватны літаратурна-мастацкі музей у вёсцы Германавічы.

Сябра Слонімскай суполкі ТБМ Я. Дз. Лазар арганізавала клуб па захаванні беларускіх сямейных традыцый “Радасць”, паседжанні якога адбываліся ў дзіцячай бібліятэцы горада.

Выйшла кніга Яна Чачота “Спевы пра даўніх ліцьвінаў” на беларускай мове. Укладальнік -- сябар рэдкалегіі газеты “Наша слова” Васіль Ліцьвінка. Перакладчыкі -- Кастусь Цвірка і Станіслаў Суднік.

# 2005 год

**Студзень**

У г. Салігорску створана моладзевая суполка ТБМ. Яе старшынём абраны Вадзім Богдан.

Баранавіцкая гарадская арганізацыя спрычынілася да выдання кнігі паэзіі Яна Збажыны “Пыл саркафагаў”. Рэдактар кнігі – Віктар Сырыца, мастак – Галіна Сігневіч.

**4 студзеня.** Па просьбе кіраўніцтва кандытарскай фабрыкі “Слодыч” зроблены пераклад на беларускую мову назваў кандытарскіх вырабаў і тэкстаў, што змяшчаюцца на ўпакоўцы прадукцыі (выканаўцы – Сяргей Кручкоў, Ірына Марачкіна).

Па просьбе Беларускай чыгункі перакладзена на беларускую мову інфармацыя для пасажыраў.

**4 – 6 студзеня.** Гарадзенская абласная арганізацыя ТБМ (старшыня Аляксандр Місцюкевіч) на сродкі ахвярадаўцаў набыла 20 асобнікаў кнігі Васіля Быкава “Выбранае” і 10 зборнікаў Цёткі, якія былі ўручаны пераможцам абласной алімпіяды па беларускай мове падчас урачыстай нарады па падвядзенні Гарадзенскім аддзелам адукацыі вынікаў алімпіяды.

**5 студзеня**. З удзелам ТБМ адбылася юбілейная вечарына сябра Рэспубліканскай Рады ТБМ пісьменніцы Вольгі Іпатавай. Ад імя ТБМ юбілярку віншавала намеснік старшыні Алена Анісім. Ад-

былася прэзентацыя новай кнігі вершаў В. Іпатавай “Задарожжа”.

**12 студзеня.** На Сакратарыяце ТБМ быў прыняты зварот да дэпутатаў і кіраўніцтва Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь “Закон “Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь” патрабуе зменаў”.

**18 студзеня.** Намеснік старшыні ТБМ Сяргей Кручкоў зрабіў пераклад з рускай мовы на беларускую інфармацыі (10 друкаваных старонак) аб працы транспартнай групы “Белсісгруп” для размяшчэння ў Інтэрнэце на сайце кампаніі.

**24 студзеня.** Старшыня Камісіі па адукацыі, культуры, навуцы і навукова-тэхнічным прагрэсе Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага Сходу У. Здановіч паведаміў, што праект Закона Рэспублікі Беларусь “Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь “Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь” разглядаецца на ўзроўні Старшыні Палаты прадстаўнікоў У. М. Канаплёва і ніякіх затрымак з яго разглядам і прыняццем не будзе.

**26 студзеня.** У менскай сядзібе ТБМ адбылася прэс-канферэнцыя, прымеркаваная да 15-х угодкаў Закона “Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь”. Прысутнічалі распрацоўшчыкі Закона (Міхась Яўневіч, Васіль Шаранговіч, Вячаслаў Рагойша, Іосіф Падлужны), журналісты (БелаПАН, “Звязда”, “Народная воля”, “Беларускі рынак”, “Новы Час”, “Наша слова”), сябры ТБМ і прыхільнікі арганізацыі. Падрыхтаваны прэс-рэліз Закону “Аб мовах – 15 гадоў” (аўтар – Ірына Марачкіна).

**4 лютага.** З ініцыятывы і пры непасрэдным удзеле ТБМ у асобе намесніка старшыні Сяргея Кручкова Праграма доступу да сеткі Інтэрнэт у Беларусі пры ААН праводзіла семінар па азнаямленні беларускамоўных выкладчыкаў школ, ліцэяў, ВНУ з тэхналогіямі дыстанцыйнага навучання.

**10 лютага.** Наваполацкая гарадская арганізацыя ТБМ (старшыня Алесь Рымша) разам з іншымі грамадскімі арганізацыямі распачалі збор подпісаў грамадзянаў за перайменаванне вул. Дзяржынскага ў вуліцу Васіля Быкава.

**14 лютага.** На паседжанні сакратарыята ТБМ прыняты зварот да суайчыннікаў “Не пакідайце ж мовы нашай беларускай...” з наго-

ды Міжнароднага дня роднай мовы, які адзначаецца 21 лютага.

**20 і 21 лютага.** На канале СТБ у праграме “168 гадзінаў” адзін з сюжэтаў быў прысвечаны Міжнароднаму дню роднай мовы. У сюжэце браў удзел старшыня ТБМ А. А. Трусаў.

**21 лютага.** Менская гарадская арганізацыя ТБМ перадала беларускія кнігі гімназіі № 23 г. Менска.

Лідская арганізацыя ТБМ зладзіла святкаванне Міжнароднага дня роднай мовы. У мерапрыемстве брала ўдзел Вольга Іпатава.

**22 лютага.** На прапанову ТБМ выпусціць мастацкі канверт да 95-годдзя з дня нараджэння Ларысы Геніюш Міністэрства сувязі і інфармацыі Рэспублікі Беларусь паведаміла, што такі канверт будзе выраблены да 100-годдзя паэткі згодна з п. 2. 1. 2. “Палажэння аб знаках паштовай аплаты і спецыяльных паштовых штэмпелях”.

Падсвільская суполка ТБМ зладзіла вечарыну да Міжнароднага дня роднай мовы і Дня Святога Валянціна.

**23 лютага.** ТБМ атрымала пісьмовае папярэджанне Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь з прычыны таго, што шэраг структураў ТБМ (Слонімская, Лідская і Бешанковіцкая арганізацыі) маюць юрыдычныя адрасы ў жылых памяшканнях.

**Люты**

ТБМ звярнулася ў Камісію па справах ЮНЕСКА ААН і Камітэт па справах рэлігій і нацыянальных меншасцяў з прапановай правесці супольна круглы стол, прымеркаваны да Міжнароднага дня роднай мовы. Прапанову абедзве арганізацыі адхілілі, але паведамілі наступнае: Камісія па справах ЮНЕСКА разам з Нацыянальнай бібліятэкай Беларусі прымеркавала да гэтага дня выпуск кампакт-дыска “Літаратурная спадчына Беларусі (з XI да сярэдзіны XX стагоддзя)”, у які ўвайшлі 700 твораў беларускіх пісьменнікаў.

Камітэт па справах рэлігій і нацменшасцяў паведаміў, што газета “Голас Радзімы” і ГА “Міжнародная асацыяцыя беларусістаў” асветляць на старонках газеты падзеі, што адбудуцца ў Беларусі ў сувязі з Міжнародным днём роднай мовы.

Сяргей Кручкоў і Ірына Марачкіна зрабілі пераклад на беларускую мову сайта праваслаўнага прыходу ў гонар іконы Божае Маці “Неўпівальная Чаша”, а таксама аповед пра гісторыю вобраза “Неўпівальнай Чашы”.

Сяргей Кручкоў зрабіў пераклад інфармацыі на этыкетках сокаў прадукцыі СТДА "Голд Стрым" СЭЗ "Гроднаінвест", в. Калбасіна, вул. Завадская, 1, выраблены па рэцэптуры, распрацаванай РУНДП "Стандартплодаагародніна".

**6 сакавіка.** З нагоды пісьмовага папярэджання Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь адбылося нечарговае тэрміновае паседжанне Рэспубліканскай Рады ТБМ, на якім прынятае наступнае рашэнне:

1. Напісаць ліст у Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь з абгрунтаванай прапановай адмяніць вынесенае папярэджанне.

2. У выпадку адмовы – падаць заяву ў Вярхоўны Суд Рэспублікі Беларусь.

На паседжанні прыняты зварот да выпускнікоў сярэдніх навучальных устаноў "З родным словам па жыцці" з нагоды маючага адбыцца тэставання: ТБМ выказвае спадзяванне, што моладзь абярэ для іспытаў беларускую мову.

**15 сакавіка.** Паводле рашэння, прынятага Радаю, ТБМ падало ў Вярхоўны Суд Рэспублікі Беларусь скаргу на пісьмовае папярэджанне, вынесенае Міністэрствам юстыцыі Рэспублікі Беларусь.

**25 сакавіка.** Прадстаўнікі ТБМ (Сяргей Кручкоў) і Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь (Аляксандр Харытон) былі выкліканыя ў Вярхоўны Суд для падрыхтоўкі справы да судовага разгляду. ТБМ запатрабавала, каб судовае паседжанне вялося на беларускай мове. Суддзя Г. К. Жукоўская прапанавала бакам у тыднёвы тэрмін знайсці паразуменне і заключыць мірнае пагадненне. Пагадненне не было заключанае, бо Міністэрства юстыцыі адмовілася адклікаць сваё пісьмовае папярэджанне ТБМ.

**Сакавік**

Старшыня суполкі ТБМ Віленскага краю Юры Гіль намагаецца аформіць падпіску на газету "Наша слова" для Параф'янаўскай СШ, якую сам закончыў, але дырэктар Міхаіл Немкаловіч забараняе настаўнікам і вучням чытаць і выпісваць "Наша слова".

**5 і 7 красавіка**. Адбыліся два судовыя паседжанні па грамадзянскай справе паміж ТБМ і Міністэрствам юстыцыі Рэспублікі Беларусь. Паседжанне вялося па-беларуску. Суд пастанавіў "адмовіць Радзе грамадскага аб'яднання "ТБМ імя Фран-

цішка Скарыны” ў задавальненні скаргі на вынясенне Міністэрствам юстыцыі Рэспублікі Беларусь 16 лютага 2005 года пісьмовага папярэджання за № 06-11/210. Рашэнне ўступае ў законную сілу неадкладна пасля яго абвяшчэння, абскарджанню і апратэставанню ў касацыйным парадку не падлягае”.

СМІ пра падзею:

Радыё “Свабода”, Алег Груздзіловіч: “Міністэрства юстыцыі вынесла папярэджанне Таварыству беларускай мовы” (23.02.2005 г.), “Разгляд скаргі ТБМ у Вярхоўным Судзе будзе весціся па-беларуску” (05.04.2005 г.). “Прадстаўнік Міністэрства юстыцыі прызнае ранейшы ліст Міністэрства “юрыдычна нікчэмным”, “Вярхоўны Суд адмовіў ТБМ, але пракурор Людміла Федарынчык размаўляла па-беларуску” (08.04.2005 г.).

“Наша слова” № 14 за 13.04.2005 г., Марат Гаравы, БелаПАН: “Вярхоўны суд прызнаў законнасць папярэджання, вынесенага Міністэрствам юстыцыі ТБМ”; “Выступ старшыні ТБМ Алега Трусава на паседжанні Вярхоўнага Суда Рэспублікі Беларусь 07.04.2005 г.”; “Выступ намесніка старшыні ТБМ Сержука Кручкова на паседжанні Вярхоўнага Суда Рэспублікі Беларусь 07.04.2005 г.”.

**13 красавіка.** “Наша слова” № 700 апублікавала выступленні старшыні ТБМ А. А. Трусава і намесніка старшыні С. Кручкова на паседжанні Вярхоўнага Суда Рэспублікі Беларусь, а таксама інфармацыю БелаПАН “Вярхоўны Суд прызнаў законнасць папярэджання, вынесенага Міністэрствам юстыцыі ТБМ” і рашэнне суда “Імем Рэспублікі Беларусь”.

**24 красавіка.** На паседжанні Рэспубліканскай Рады ТБМ у адпаведнасці з пісьмовым папярэджаннем Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь і рашэннем Вярхоўнага Суда Рэспублікі Беларусь прынятая Пастанова “Аб зняцці з уліку ў мясцовых органах структураў Таварыства, зарэгістраваных у жылых памяшканнях”. Прынятая Пастанова “Аб скліканні чарговага IX з’езда ТБМ”, а таксама зварот “10 гадоў няспыннага змагання” з нагоды рэферэндуму, які адбыўся 14 мая 1995 г.

**13 траўня.** У сядзібе ТБМ у г. Менску (Румянцава, 13) праведзена прэс-канферэнцыя, прысвечаная 10-ым угодкам рэферэндуму 1995 г.

**19 траўня.** Сакратарыят ТБМ прыняў зварот з нагоды перайменавання вуліц і праспектаў г. Менска. Зварот надрукаваны

ў “Народнай волі” і “Нашым слове”.

**17 – 22 траўня.** Па запрашэнні Міністэрства культуры і Дзяржкамітэта па справах рэлігій і нацыянальных меншасцяў Рэспублікі Беларусь сябры ТБМ Прыбайкалля (кіраўнік Алег Рудакоў) бралі ўдзел у VI Усебеларускім фестывалі нацыянальных культур.

**23 траўня.** У сядзібе ТБМ на вул. Румянцава, 13 адбылася прэзентацыя выдання “Беларускі клясычны правапіс. Збор правілаў. Сучасная нармалізацыя”. Кніга – вынік 10-гадовай працы Вінцука Вячоркі, Змітра Санько (сябры Рады ТБМ), Юрася Бушлякова, Змітра Саўкі.

**28 траўня.** Адбылася літаратурна-краязнаўчая імпрэза “Святы куточак той Свіраны, дзе пуп паэта закапаны”, якую зладзіла ТБМ Віленскага краю.

**Травень**

Адбылося ўзнагароджанне пераможцаў “Беларускага пяціборства – IV”, якое традыцыйна ладзіцца Магілёўскай абласной арганізацыяй ТБМ разам з Магілёўскім дзяржаўным універсітэтам імя А. Куляшова пры падтрымцы ГА “Кола сяброў”. Перамогу атрымалі Віталь Гаравы, Алена Крыкуненка, Зміцер Шастакоў, якія занялі першае, другое і трэцяе месца адпаведна.

**8 чэрвеня.** На справаздачна-перавыбарчым паседжанні дэлегатаў IV Міжнароднага кангрэсу беларусістаў у г. Менску старшынём ГА “Міжнародная асацыяцыя беларусістаў” абраны сябра Рэспубліканскай Рады ТБМ Сяргей Запрудскі.

**19 чэрвеня.** Сябры Віцебскай абласной рады ТБМ наведалі радзіму Васіля Быкава – вёску Бычкі, дзе сустрэліся з сястрой пісьменніка Валянцінай і мясцовымі жыхарамі, таксама арганізавалі літаратурныя чытанні, прысвечаныя духоўнай і літаратурнай спадчыне В. Быкава. У чытаннях прынялі ўдзел сябры Таварыства з г.г. Віцебска, Полацка, Глыбокага, Бешанковіцкага, Віцебскага, Шаркоўшчынскага, Ушацкага раёнаў. Там жа адбылося вылучэнне дэлегатаў на IX з’езд ТБМ, запланаваны на 30 кастрычніка 2005 г.

**27 чэрвеня.** ТБМ звярнулася з лістом да амбасадара Федэратыўнай Рэспублікі Германія доктара Марціна Хекера ў сувязі

з планамі радыёстанцыі “Deutsche Welle” (“Нямецкая хваля”) пачаць вяшчанне на Беларусь на рускай мове.

**Чэрвень**

ТБМ выдала плакат і кішэнны каляндарык на 2005 – 2006 навучальны год да 75-годдзя Уладзіміра Караткевіча.

У сядзібе ТБМ на Румянцава, 13 адбылося падвядзенне вынікаў конкурсу дзіцячых малюнкаў “Аршанская слава”, прымеркаванага да 940-х угодкаў Вялікай перамогі пад Воршай.

Светлагорская арганізацыя ТБМ разам з ГА “Таварыства Шумана” зладзіла прэзентацыю кнігі “Беларусь – сцэнары рэформаў” з удзелам аднаго з аўтараў – М. Залескага.

У Лідзе выйшла кніга сябра ТБМ Алеся Нічыпара “Паўночная песня”. Гэта адна з нямногіх беларускамоўных кніг пра вікінгаў

**6 ліпеня.** Сябра ТБМ Васіль Кісляк звярнуўся да кіраўніцтва Гарадзенскага цукровага камбіната з адкрытым лістом, у якім абгрунтаваў неабходнасць выкарыстання беларускай мовы на ўпакоўках цукру.

**12 ліпеня.** ТБМ атрымала афіцыйны адказ на зварот у амбасаду ФРГ. У лісце за подпісам Часовага Паверанага ў справах Федэратыўнай Рэспублікі Германія ў Беларусі Яна Канторчыка пазіцыя радыёстанцыі “Нямецкая хваля” ў пытанні мовы вяшчання абгрунтоўваецца тым, што большасць грамадзянаў Рэспублікі Беларусь у штодзённых зносінах карыстаецца рускай мовай.

ТБМ распачала кампанію па зборы подпісаў грамадзянаў за вяшчанне перадач “Нямецкай хвалі” па-беларуску. Пазней (жнівень) амбасада ФРГ выказала сваё меркаванне адносна сабраных подпісаў і сітуацыі з мовай вяшчання радыёстанцыі.

**16 – 17 ліпеня.** Старшыня ТБМ А. А. Трусаў выступіў з дакладам “Нас яднае беларуская мова” на IV з’ездзе ЗБС “Бацькаўшчына”. Новым кіраўніком Згуртавання беларусаў свету абраны сябра ТБМ мастак Аляксей Марачкін.

**Уначы з 23 на 24 ліпеня.** Невядомыя запэцкалі чорнай фарбай сцены і дзверы будынка па вул. Румянцава, 13, у якім месціцца цэнтральная сядзіба ТБМ. Фарбай залітая шыльда ТБМ, на сценах намалявана эмблема незарэгістраванай Нацыянальна-бальшавіцкай партыі і зроблены надпіс “НБП”.

**29 ліпеня.** У сувязі з падзеямі 23 – 24 ліпеня (пашкоджанне будынка сядзібы ТБМ) Сакратарыятам ТБМ прыняты ліст да старшыні Камітэта дзяржаўнай бяспекі Рэспублікі Беларусь Сцяпана Сухарэнкі з просьбай разабрацца ў сітуацыі.

**Ліпень**

Светлагорская арганізацыя ТБМ сумесна з Інстытутам гісторыі НАН Беларусі правялі 15-дзённую археалагічную экспедыцыю з мэтай раскопак гарадзішча ва ўрочышчы Гарадок Кабанаўскага сельскага савета Жлобінскага раёна.

**6 жніўня.** ТБМ прыняло ўдзел у імпрэзах, прысвечаных 95-годдзю з дня нараджэння Ларысы Геніюш. Сябры ТБМ уваходзілі ў склад аргкамітэта, узначаленага Пятром Краўчанкам і Міхасём Скоблам. Каля помніка паэтцы выступілі ў шэрагу іншых Алег Трусаў, Вольга Іпатава, Аляксей Пяткевіч. У арганізацыі святочных мерапрыемстваў бралі непасрэдны ўдзел сябры Зэльвенскай і Лідскай арганізацый ТБМ.

**10 жніўня.** У адказ на сабраныя ТБМ подпісы ў падтрымку беларускамоўнага вяшчання радыёстанцыі “Нямецкая хваля” амбасада ФРГ ў чарговы раз агучыла сваю пазіцыю па дадзенай праблеме: паколькі вынікі незалежных апытанняў сведчаць, што руская мова адыгрывае значную ролю ў палітычным жыцці Беларусі, а “Нямецкая хваля” не мае фінансавых сродкаў для стварэння праграмы на беларускай мове, амбасада па-ранейшаму падтрымлівае рашэнне радыёстанцыі вяшчаць на Беларусь па-руску.

Атрыманы ліст ад кіраўніка рускай праграмы “Нямецкая хваля” Карнеліі Рабіц, у якім абгрунтоўваецца выбар рускай мовы для вяшчання на Беларусь.

**22 жніўня.** Прадстаўнікі кіраўнічых органаў ТБМ бралі ўдзел у санкцыянаваным пікеце супраць рускамоўнай “Нямецкай хвалі”. Заяўнікі пікету – выпускнік БДУ культуры Зміцер Касяпровіч і журналіст Вадзім Александровіч. Пікет адбыўся на плошчы Бангалор у Менску.

**23 жніўня.** На падставе заканчэння кантракту пазбаўлены працы старшыня Гарадоцкай раённай арганізацыі ТБМ, дырэктар Верхоўскай БШ Леанід Гаравы, які займаў дадзеную пасаду цягам 18 гадоў.

**27 жніўня.** Адбылася справаздачна-выбарчая канферэнцыя Гарадзенскай абласной арганізацыі ТБМ. Старшынём на новы тэрмін абраны Алесь Місцюкевіч, намеснікамі – Алесь Крой і Іван Буднік. У канферэнцыі браў удзел старшыня ТБМ Алег Трусаў.

**30 жніўня.** Ля будынка Нацыянальнай бібліятэкі ў Менску ўстаноўлены помнік беларускаму першадрукару Францішку Скарыну.

**1 верасня.** Сябры ТБМ – ліцэісты зачыненага ўладамі ў 2003 г. Нацыянальнага гуманітарнага ліцэю імя Якуба Коласа зладзілі на плошчы Якуба Коласа ў г. Менску флэш-моб пад дэвізам “Хочам вучыцца па-беларуску”.

**3 – 4 верасня.** У ноч з 3 на 4 верасня на Крапівенскім полі пад г. Орша прайшло свята Беларускай вайсковай славы з удзелам сяброў ТБМ.

**11 верасня.** З удзелам сябра Рады ТБМ ксяндза-магістра Уладзіслава Завальнюка ва Ушачах адбылася прэзентацыя кнігі Рыгора Барадуліна “Ксты”.

**13 верасня.** Старшыня ТБМ А. А. Трусаў быў запрошаны на сустрэчу з амбасадарамі і супрацоўнікамі амбасадаў краін Еўрасаюзу ў Беларусі, дзе гаворка ішла пра мову вяшчання радыёстанцыі “Нямецкая хваля” на Беларусь. Пазіцыю ТБМ адносна неабходнасці беларускамоўных перадач падтрымалі польскія і літоўскія дыпламаты.

**16 верасня.** У сталічным Доме літаратара адбылася прэзентацыя кнігі старшыні Полацкай гарадской арганізацыі ТБМ Леры Сом “Свабода. Слова. Зіма”.

**21 верасня.** Сакратарыят ТБМ прыняў заяву “Пашырэнне беларускай мовы ў міжнародным эфіры спрыяе дэмакратызацыі Беларусі” з нагоды намераў Еўракамісіі пачаць вяшчанне радыёперадачаў “Нямецкай хвалі” на Беларусь на рускай мове.

**1 – 2 кастрычніка.** Старшыня ТМБ А. А. Трусаў прыняў удзел у “Кангрэсе дэмакратычных сілаў Беларусі”, дзе выступіў з дакладам “Роля беларускай мовы ў дэмакратызацыі Беларусі”.

**6 кастрычніка.** У Лідзе ў мікрараёне вуліцы Рыбіноўскага ўтворана Паўночная суполка ТБМ. Старшынём суполкі абраны Сяргей Чайка.

**16 кастрычніка.** У Лідскім гарадскім доме культуры прайшла справаздачна-выбарчая канферэнцыя Лідскай (раённай) арганізацыі ТБМ імя Ф. Скарыны. На чарговы тэрмін старшынём Лідскай арганізацыі ТБМ абраны Лявон Анацка.

**29 кастрычніка**. На ўрачыстасці, прысвечанай Францішку Скарыну, у Навасібірску абвешчана Навасібірскае таварыства беларускае мовы. Старшыня НТБМ А.Мітэр звярнуўся да гарадскога савета, адміністрацыі і грамадскасці горада з прапановай пера-найменаваць адну з вуліц горада ў вул. Францішка Скарыны, а таксама ў Прэзідыум Сібірскага аддзялення Расійскай акадэміі навук уключыць партрэт Францішка Скарыны ў галярэю вялікіх дзеячоў навукі ў Доме вучоных.

**30 кастрычніка.** У Менску, у штаб-кватэры Партыі БНФ, прайшоў **IX з'езд грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" (ТБМ)**. У яго працы ўзялі удзел 128 дэлегатаў са 153 абраных у розных рэгіёнах краіны. У якасці гасцей прысутнічалі паслы ЗША і Польшчы ў Беларусі Джордж Крол і Тадэвуш Паўляк, а таксама шэраг прадстаўнікоў беларускай грамадскасці і палітычных партый, у тым ліку адзіны кандыдат ад дэмакратычных сілаў на прэзідэнцкія выбары 2006 года Аляксандр Мілінкевіч і старшыня Партыі БНФ Вінцук Вячорка, які з'яўляецца сябрам Рады ТБМ.

З'езд пачаў працу хвілінай маўчання ў памяць сяброў ТБМ, якія адышлі ад нас у апошнія два гады.

На парадку дня былі вынесены даклады старшыні ТБМ Алега Трусава, яго трох намеснікаў Людмілы Дзіцэвіч, Алены Анісім і Сяржука Кручкова, старшыні Рэвізійнай камісіі Міколы Лавіцкага і галоўнага рэдактара друкаванага органа аб'яднання — газеты "Наша слова" Станіслава Судніка, а таксама выбары кіраўніцтва арганізацыі.

З'езд даў станоўчую ацэнку дзейнасці Рады ТБМ і старшыні за мінулыя два гады, зацвердзіў даклад рэвізійнай камісіі.

З'езд абраў Алега Трусава старшынём ТБМ на чарговы два гады.

З'езд пакінуў намеснікаў старшыні ў тым жа складзе: Людміла Дзіцэвіч-першы намеснік, Сяржук Кручкоў і Алена Анісім - намеснікі. З'езд абраў Раду Таварыства ў складзе 58 чалавек і Рэві-

зійную камісію ў складзе 5 чалавек. З’езд зацвердзіў Станіслава Судніка рэдактарам газеты “Наша слова” на наступныя два гады.

## РЭСПУБЛІКАНСКАЯ РАДА ГА “ТБМ ІМЯ ФРАНЦІШКА СКАРЫНЫ”, абраная на IX з’ездзе ТБМ

1. Аксак Валянціна, Менск
2. Анісім Алена, Менск
3.Арлоў Уладзімір, Менск
4. Бабіч Юры, Віцебск
5. Багданкевіч Святлана, Менск
6. Банкевіч Генадзь, Менск
7. Бароўскі Анатоль, Гомель
8. Баршчэўскі Лявон, Менск
9. Барэль Таццяна, Асіповічы
10. Булавацкі Міхась, Магілёў
11. Бураўкін Генадзь, Менск
12. Вярцінскі Анатоль, Менск
13. Вячорка Вінцук, Менск
14. Гарановіч Віталь, Глыбокае.
15. Гаравы Леанід, Гарадок
16. Гарэцкі Радзім, Менск
17. Гілевіч Ніл, Менск
18. Грыцкевіч Анатоль, Менск
19. Гуркоў Сяргей, Менск
20. Дзіцэвіч Людміла, Менск
21. Жучкова Наталля, Менск
22. Завальнюк Уладзіслаў, Менск
23. Запрудскі Сяргей, Менск
24. Зуёнак Васіль, Менск
25. Іванова Бярнарда, Менскі раён
26. Іпатава Вольга, Менск
27. Колас Уладзімір, Менск
28. Краўчанка Пётра, Менск
29. Кручкоў Сяргей, Менск
30. Кузьміч Вольга, Менск
31. Мазынскі Валер, Менск
32. Майсеня Людміла, Менск
33. Мальдзіс Адам, Менск
34. Марачкін Аляксей, Менск
35. Марачкіна Ірына, Менск

36. Місцюкевіч Алесь, Гародня
37. Навумчык Іосіф, Віцебск
38. Панізнік Сяргей, Менск
39. Палсцюк Валеры, Менск
40. Піскун Людміла, Мазыр
41. Пяткевіч Аляксей, Гародня
42. Сакалова Алена, Віцебск
43. Раманцэвіч Валянціна, Менск
44. Рымша Алесь, Наваполацк
45. Савіцкі Мікола, Менск
46. Санько Зміцер, Менск
47. Содаль Уладзімір, Менск
48. Сом Алена, Полацк
49. Суднік Станіслаў, Ліда
50. Стэпановіч Язэп, Менск
51. Сырыца Віктар, Баранавічы
52. Трафімчык Таццяна, Слонім
53. Трубач Таццяна, Заслаўе
54. Трусаў Алег, Менск
55. Тушынскі Дзяніс, Менск
56. Цурпанаў Валадар, Магілёў
57. Цыхун Генадзь, Менск
58. Чэчат Алесь, Менск

**16 лістапада.** Кіраўніцтва РУП "Аўтобусны парк № 2", творчае згуртаванне "Святліца" і сябры Баранавіцкай гарадской арганізацыі ТБМ прынялі рашэнне, што інфармацыя на аўтавакзале і аб'явы прыпынкаў у некаторых гарадскіх маршрутах у г. Баранавічы будуць гучаць па-беларуску.

**18 лістапада.** Старшыня Баранавіцкай абласной і гарадской арганізацый ТБМ Віктар Сырыца мусіў падаць заяву на звальненне з пасады выкладчыка сацыяльна-гуманітарных дысцыплін Баранавіцкага эканоміка-юрыдычнага каледжа на знак пратэсту супраць дзеянняў адміністрацыі каледжа, якая запалохвала студэнтаў і пагражала выключэннем з каледжа за тое, што яны разам са сваім педагогам прымалі ўдзел у сустрэчы з Аляксандрам Мілінкевічам, кандыдатам на пост прэзідэнта Рэспублікі Беларусь на выбарах 2006 г.

**Лістапад**

Гарадзенскае гарадское аддзяленне "Таварыства беларускай

школы” разам з гарадской арганізацыяй ТБМ правялі вечарыну, прысвечаную 75-годдзю Уладзіміра Караткевіча, на якой старшыня Гарадзенскай гарадской арганізацыі Аляксей Пяткевіч распавёў пра невядомыя факты з жыцця пісьменніка.

**4 снежня.** У горадзе Бярозаўцы Лідскага раёна прайшоў установчы сход Бярозаўскай суполкі ГА “ТБМ імя Ф. Скарыны”. Старшынём суполкі абраны Сяргей Дычок.

**Снежань.**

У сядзібе ТБМ у г. Менску з ініцыятывы мастака Міколы Купавы адкрылася дзіцячая мастацкая выстава, прысвечаная 75-годдзю Уладзіміра Караткевіча.

Улады г. Гародні ліквідавалі ГА “Таварыства беларускай вышэйшай школы” у сувязі з прысутнасцю ў яго назве слова “беларуская”. Паколькі для правядзення сваіх мерапрыемстваў ТБВШ не выкарыстоўвала юрыдычнага адрасу, кіраўніцтва арганізацыі не было запрошана на “адкрыты суд, звязаны з ліквідацыяй грамадскага аб’яднання” (Наша слова. 2006. № 1).

**У 2005 годзе**

Сябры Віцебскай абласной арганізацыі ТБМ у розных аўдыторыях правялі сустрэчы з беларускімі пісьменнікамі Рыгорам Барадуліным, Нілам Гілевічам, Генадзем Бураўкіным, Вольгай Іпатавай, Уладзімірам Арловым, Францам Сіўко, Уладзімірам Папковічам.

У Лідзе надрукавана брашура “Летапіс ТБМ. 1989-2004”. Наклад 299 асобнікаў.

# 2006 год

**Верасень 2005 - студзень 2006.** У Лідскім каледжы ўпершыню у гісторыі беларускай лінгвістыкі прачытаны поўны курс “Стэнаграфіі” на беларускай мове. Курс прачытаў старшыня Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ Станіслаў Суднік.

**18 студзеня.** У газеце “Наша слова” надрукаваны адказ галоўнага рэдактара “НС” на рашэнне Мінгарсаюздруку перапыніць дамову з рэдакцыяй на распаўсюджванне выдання праз шапікі ў 2006 г. Станіслаў Суднік выказвае абурэнне рашэннем прадпрыемства і дае канкрэтныя рэкамендацыі сябрам ТБМ для пацвяр-

джэння запатрабаванасці выдання ў сістэме распаўсюду праз шапікі.

**25 студзеня.** “Наша слова” апублікавала адказ намесніка міністра адукацыі Рэспублікі Беларусь сп. Н.С. Фарыно на запыт сябра ТБМ сп. С.А. Лісоўскага, у якім падаюцца канкрэтныя лічбы па рэалізацыі дзяржаўнага двухмоўя у сістэме адукацыі краіны.

**29 студзеня.** У г. Менску прайшло пасяджэнне Рэспубліканскай Рады ТБМ. Рада ўнесла дапаўненні і зацвердзіла план работы ТБМ на 2006 г., унесла змены і дапаўненні ў Статут ТБМ, змены ў памеры складак на 2006 г. У склад ТБМ прынята група менскай моладзі, а таксама 14 чалавек з г. Новасібірска, зарэгістраваны Новасібірская і Бярозаўская суполкі ТБМ.

**Студзень – люты**

Пасля складаных перамоваў паміж рэдакцыяй “Нашага слова” і УА “Мінгарсаюздрук” заключана дамова на продаж газеты ў г. Менску. Замоўлена пастаўка 300 асобнікаў замест ранейшых 250. Папярэдняя дамова заключана на выпрабавальны тэрмін 3 месяцы.

**1 лютага.** У “Нашым слове” апублікавана справаздача па выніках працы Берасцейскай гарадской арганізацыі ТБМ. Арганізацыя складаецца з 10 суполак. Дзейнасць за справаздачны перыяд уключала культурна-асветніцкую працу – арганізацыю і правядзенне шматлікіх творчых сустрэчаў і вечарынаў, збор подпісаў у абарону Менскай сядзібы ТБМ, беларускай мовы ў СМІ, працу па беларусізацыі візуальнага афармлення г. Берасця, а таксама працу ў сферы адукацыі і СМІ.

**8 лютага.** “Наша слова” надрукавала справаздачу аб працы Гарадзенскай абласной арганізацыі ТБМ у 2005 г. Шмат намаганняў было прыкладзена арганізацыяй на пераклад аб’яваў у грамадскім транспарце на беларускую мову (збор подпісаў, сустрэча з кіраўніцтвам тралейбуснага ўпраўлення і аўтапарку, сустрэча з намеснікам старшыні аблвыканкама В. М. Лявонавым). У выніку ў частцы тралейбусаў і аўтобусаў загучалі аб’явы па-беларуску. Сумесна з гарадскім аддзяленнем ТБШ праведзены вечарыны, прысвечаныя 100-годдзю М. Васілька, 75-годдзю Ул. Караткевіча, 85-годдзю А. Карпюка.

**12 лютага.** У г. Віцебску прайшла 5-ая справаздачна-выбарчая канферэнцыя абласной арганізацыі ТБМ. Са справаздачным дакла-

дам выступіў яе старшыня І. А. Навумчык. Дэлегаты зацвердзілі справаздачу старшыні рэвізійнай камісіі. Дзейнасць арганізацыі за двухгадовы перыяд была прызнана задавальняючай. На канферэнцыі абраны новы склад Абласной рады і Сакратарыяту. Старшынём Віцебскай абласной рады ТБМ на чарговы тэрмін абраны І. А. Навумчык.

**15 лютага.** Першы намеснік міністра адукацыі Рэспублікі Беларусь А. І. Жук прыслаў ліст у адказ на зварот старшыні ТБМ у Адміністрацыю Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь аб адкрыцці Нацыянальнага класічнага універсітэта. Міністэрства лічыць адкрыццё новага універсітэта ў нашай краіне немэтазгодным і эканамічна неабгрунтаваным, паколькі тут ужо функцыянуе 43 дзяржаўныя і 10 прыватных вышэйшых навучальных устаноў (усе да адной – рускамоўныя).

**22 лютага.** На паседжанні Сакратарыята ТБМ прынята Заява з нагоды 50-гадовага юбілею беларускамоўнай газеты Польшчы "Ніва". Заснаваная ў г. Беластоку ў 1956 г., газета спрыяла захаванню беларускай мовы і культуры ў пасляваеннай Польшчы на беларускай этнічнай тэрыторыі, а таксама і на савецкіх абшарах, дзя яе можна было выпісаць і набыць. Таму ТБМ рашуча выступае супраць судовага пераследу рэдакцыі і рэдакцыйнай рады "Нівы" і жадае калектыву поспехаў у выданні і распаўсюдзе беларускамоўнай газеты.

**Люты**

Атрыманы адказ ад Дэпартаменту Бундэсканцлера Германіі сп. Міхаэля Зіберта на імя старшыні ТБМ А. А. Трусава адносна мовы вяшчання на Беларусь "Нямецкай хвалі". У лісце паведамляецца, што "Нямецкая хваля" вырашыла выпускаць "Беларускую хроніку" на дзве траціны па-руску і на адну – па-беларуску. Па-беларуску будзе выходзіць падборка навінаў, а таксама рэпартаж або аповед.

**1 сакавіка.** "Наша слова" надрукавала справаздачу аб працы Дзятлаўскай раённай арганізацыі ТБМ за 2005 г.

**18 сакавіка.** У Лідзе падведзены вынікі 1-га літаратурнага конкурсу памяці Валянціна Таўлая, арганізаванага Лідскай гарадской арганізацыяй ТБМ і творчым аб'яднаннем "Суквецце". Пераможцам конкурсу з вершам "Беларуская мова" стала Іна Міхалюк.

**20 сакавіка.** ГРУП "Мінаблсаюздрук" прыняў рашэнне аб прыпыненні дамовы на пастаўку і распаўсюд "Нашага слова" ў аднабаковым парадку з 1 красавіка 2006 г.

**22 сакавіка.** У "Нашым слове" надрукаваны справаздачы Гарадзенскай гарадской арганізацыі ТБМ, Наваградскай суполкі "Узвышша", Магілёўскай гарадской арганізацыі ТБМ.

**29 сакавіка.** У "Нашым слове" надрукаваны ліст А. А. Трусава "Медыкі павінны ведаць родную мову" рэктару Беларускага Дзяржаўнага Медычнага Універсітэта сп. П. І. Беспальчуку аб павелічэнні ў гэтай ВНУ колькасці прадметаў, якія выкладаюцца пабеларуску. У адказе рэктара адзначаецца, што беларускамоўнае выкладанне забяспечана ў дастатковым аб'ёме.

Надрукаваны ліст Аляксандра Ступеня першаму намесніку міністра адукацыі Рэспублікі Беларусь А. І. Жуку з прапановамі адносна паляпшэння стану роднай мовы ў ВНУ Беларусі, а таксама адказ сп. Жука з абяцаннем давесці прапановы да кіраўніцтва ВНУ.

**4 красавіка.** Уначы з 3 на 4 красавіка на сядзібу ТБМ зроблены чарговы напад прадстаўнікоў незарэгістраванай арганізацыі "Нацыянал-бальшавіцкай партыі". Дзверы і шыльда былі заклеены лістоўкамі "НБП" фашысцкага зместу і заклікамі да забойства "ворагаў".

Папярэдні напад на сядзібу адбыўся ўначы з 23 на 24 ліпеня 2005 г. З той нагоды Сакратарыят ТБМ накіраваў заявы ў Камітэт дзяржаўнай бяспекі і раённы аддзел міліцыі. Звароты выніку не далі.

На імя старшыні КДБ С. М. Сухарэнкі старшыня ТБМ А. А. Трусаў накіраваў ліст з патрабаваннем даць афіцыйную ацэнку дзеянням прадстаўнікоў НБП, прыкласці ўсе намаганні для іх затрымання і пакарання ў адпаведнасці з заканадаўствам. Адказу на гэты ліст не было.

**5 красавіка.** "Наша слова" апублікавала справаздачу аб дзейнасці Бешанковіцкай суполкі ТБМ за 2005 г., а таксама справаздачу аб дзейнасці ТБМ г. Бабруйска.

**14 красавіка.** ТБМ прайшло перарэгістрацыю. Яно зарэгістравана рашэннем Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь ад 14 красавіка 2006 г. за № 187 у Адзіным дзяржаўным рэгістры юрыдычных асоб і індывідуальных прадпрымальнікаў за № 100129705. ТБМ атрымала пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі

грамадскага аб'яднання за № 01412. Зарэгістраваны новы Статут ТБМ. Сімволіка засталася ранейшага ўзору.

**Красавік – чэрвень**

3-ці тур семінараў, арганізаваных ТБМ, доўжыўся 2 месяцы (з сярэдзіны красавіка па сярэдзіну чэрвеня). За гэты час прачытана каля 40 лекцыяў і праведзена прыкладна столькі ж дыспутаў і гутарак паміж выступоўцамі і слухачамі як у г. Менску, так і ў іншых гарадах. Агулам у сталіцы і Менскай вобласці семінары за гэты перыяд наведала каля 500 чалавек. За год іх правядзення колькасць удзельнікаў склала некалькі тысяч.

**3 траўня.** На паседжанні Сакратарыята ТБМ прынята "Пастанова Сакратарыята ТБМ аб пераходзе на дзейнасць па новай рэдакцыі Статута".

**22 – 23 траўня.** Уначы з 22 на 23 траўня адбыўся чарговы напад актывістаў незарэгістраванай Нацыянал-бальшавіцкай партыі на менскую сядзібу ТБМ. На шыльду ТБМ і на ўваходныя дзверы нанесены плямы чорнай фарбы, а на сцяне дома – абрэвіятура НБП і выява яе сімвала – сярпа з молатам у крузе.

У сувязі з гэтым кіраўніцтва ТБМ звярнулася да вышэйшых органаў улады краіны з патрабаваннем прыняць належныя меры.

У інтэрв'ю БелаПАН старшыня ТБМ А. А. Трусаў адзначыў. што гэты напад на штаб-кватэру ТБМ ужо трэці за 2005 – 2006 гады, а на папярэднія два звароты КДБ адказу не даў і не праявіў ніякай актыўнасці па выяўленні і пакаранні злачынцаў. Таму злодзеі "адчуваюць поўную беспакаранасць за свае дзеянні", а такая пазіцыя КДБ садзейнічае развіццю фашызму і ксенафобіі ў Беларусі.

**27 траўня.** У г. Вільні ў сядзібе ТБК адбылося ўшанаванне памяці Францішка Багушэвіча і беларускіх святароў, арганізаванае ТБМ Віленскага краю.

**31 траўня.** Сакратарыят ТБМ выступіў з заявай да кіраўніцтва Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі, у якой абгрунтавана выказаў патрабаванне арганізаваць каментарыі матчаў чэмпіянату свету па футболе – 2006, а таксама іншых спартыўных спаборніцтваў на дзяржаўнай беларускай мове.

**Чэрвень**

ТБМ, выкарыстаўшы фінансавую дапамогу Федэрацыі праф-

саюзаў Беларусі, выпісала 26 газет "Наша слова" і "Раніца" ў беларускамоўныя школы і гімназіі г. Менска і тыя раённыя бібліятэкі Беларусі, дзе не было ні воднага падпісчыка "Нашага слова". За грошы ТБМ аформлена ці падоўжана на 3 квартал падпіска ўсім палітвязням Беларусі. Дзякуючы намаганням спсп. Місцюкевіча і Шытко, была аформлена падпіска шматлікім школам г. Гародні і Камянецкага раёна.

**8 чэрвеня.** Адбылася справаздачна-выбарчая канферэнцыя Гарадзенскай абласной арганізацыі ТБМ. Прычынай сталася пастанова Сакратарыяту ТБМ "Аб пераходзе на дзейнасць па новай рэдакцыі Статута". Старшынём абласной арганізацыі абраны Аляксандр Місцюкевіч. За школамі, у якіх мяркуюцца адкрыцца беларускамоўныя класы, замацаваны сябры Рады. Прысутныя ўдакладнілі план працы на бягучы год.

**13 чэрвеня.** Сакратарыят ТБМ выступіў з Заявай "Унікальнаму кнігазбору пагражае небяспека". У ім выказваецца заклапочанасць у сувязі з сітуацыяй, якая склалася вакол бібліятэкі Саюзу беларускіх пісьменнікаў. Зварот апелюе да кіраўніка ўраду сп. Сідорскага з заклікам рабіць захады дзеля захавання унікальнага кнігазбору цэласным, не дапускаючы яго раздзелу на часткі.

**18 чэрвеня.** У г. Віцебску па ініцыятыве абласнога ТБМ адбылося агульнагарадское літаратурнае свята, прымеркаванае да 82-ой гадавіны з дня нараджэння Васіля Быкава. Ушанаваць памяць пісьменніка прыйшлі прыкладна 500 жыхароў горада. Прынялі ўдзел старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў Алесь Пашкевіч, намеснік старшыні гэтай арганізацыі Анатоль Кудравец, паэты Анатоль Вярцінскі, Сяргей Законнікаў, Уладзімір Някляеў, рэдактар часопіса "Дзеяслоў" Барыс Пятровіч, старшыня Віцебскай абласной арганізацыі СБП Франц Сіўко, пісьменнік Давід Сімановіч, акцёры Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа прысутнічала ўдава Васіля Быкава Ірына Міхайлаўна.

**Ліпень**

Спн. Людміла Піскун з г. Мазыра арганізавала падпіску на "Наша слова" па ўсёй Гомельскай вобласці, падпісаўшы на 137 асобнікаў. У выніку падпіска па вобласці вырасла з 88 да 210 асобнікаў, а Гомельская вобласць упершыню выйшла па колькасці падпішчыкаў на 1-ае месца па краіне.

**1 ліпеня.** ТБМ Віленскага краю адсвяткавала сваё 15-годдзе. У мерапрыемстве ўдзельнічала 50 чалавек з засценка Вашунова, госці з Вільні, Віцебска, Менска і наваколля.

У Вашунове адбылося асвячэнне фігуры Маці Божай Засцянковай, двух крыжоў. 2 ліпеня арганізавана паломніцтва ў Будслаў з заездам у Параф'янава (касцёл) і Сітцы – радзіннае "гняздо" Дамейкаў.

**8 ліпеня.** ТБМ атрымала ліст ад Дзяржаўнага мытнага камітэта ў адказ на свой зварот да яго кіраўніцтва з прапановай увесці беларускамоўныя бланкі на айчыннай мытні. ДМК запэўніў, што зробіць "неабходныя захады" для станоўчага вырашэння гэтага пытання.

**13 - 14 ліпеня.** З ініцыятывы Лідскай гарадской арганізацыі ГА ТБМ імя Ф. Скарыны ў Мінойты Лідскага раёна вывезена большая частка бібліятэкі Саюза беларускіх пісьменнікаў, якая знаходзілася ў Доме літаратара ў Менску.

**30 ліпеня.** Ва ўрочышчы "Крыжы" паміж вёскамі Малое Ольжава і Мохавічы Лідскага раёна адбыўся штогадовы фэст у памяць паўстанцаў 1863 года. Імпрэза ладзілася пад сцягам ТБМ. Пра значнасць вычыну герояў 1863 г. прамовіў старшыня Лідскага ТБМ Станіслаў Суднік. Пасля імшы з паэтычным словам да прысутных звярнулася Вольга Іпатава. Акрамя мясцовых жыхароў ва ўшанаванні памяці прынялі ўдзел Моладзь БНФ, якая вялікай дэлегацыяй прыехала з г. Менску, прадстаўнікі лідскіх і бярозаўскіх арганізацый ТБМ і БНФ.

**З 15 па 30 жніўня.** Сябры Слабадской суполкі ТБМ №2 г. Ліды Эдуард Пальчыс, Яўген Сілько, Алег Халявінскі і Эдвард Запаснік правялі расчыстку сядзібы Ігната Дамейкі ў в. Заполле Лідскага раёна. Па выніках расчысткі праведзены замеры і начэрчаны план дома.

**17 жніўня.** Завершаны вываз бібліятэкі Саюза беларускіх пісьменнікаў з Менска ў в. Мінойты Лідскага раёна, які адбываўся з ініцыятывы Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ.

**22 жніўня.** Сакратарыят ТБМ выступіў з Заявай "Беларускую гісторыю трэба вывучаць на беларускай мове". У Заяве адзначана, што выдадзенае ў жніўні 2006 г. Міністэрствам адукацыі Рэспублікі

Беларусь інструктыўна-метадычнае пісьмо “Аб выкладанні гісторыі ў 2006 – 2007 навучальным годзе”, у якім сказана, што выкладанне гісторыі Беларусі ў 9 – 10 класах у навучальных установах з рускай мовай навучання будзе ажыццяўляцца на рускай мове – выклікала хвалю абурэння ў беларускім грамадстве. Сакратарыят ТБМ заклікаў настаўнікаў, вучняў і бацькоў патрабаваць ад дырэктараў школ і загадчыкаў адпаведных гарадскіх і раённых аддзелаў адукацыі пакінуць вывучэнне беларускай гісторыі на беларускай мове, а неабыякавых грамадзянаў звяртацца па гэтым пытанні ў Міністэрства адукацыі і да кіраўнікоў мясцовых органаў улады.

**23 жніўня.** Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь (у асобе намесніка міністра В. К. Гедройца) прыслала адказ на зварот ТБМ аб выданні беларускамоўнага перакіднога календара “Асветнікі Беларусі”. Міністэрства запэўнівае, што, разумеючы важнасць перавыдання такога календара для культуры краіны, накіруе хадайніцтва ў Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь аб уключэнні календара ў спіс сацыяльна значнай літаратуры на 2007 г.

Лідскі райвыканкам перарэгістраваў Лідскую гарадскую арганізацыю ТБМ рашэннем № 816 на новы юрыдычны адрас.

**Жнівень**

Старшыня Камітэта па адукацыі Менскага гарадскога выканаўчага камітэта прыслаў адказ на ліст старшыні ТБМ, дасланы старшыні Менскага гарвыканкама М. Паўлаву пра мову выкладання ў школе прадмету гісторыя Беларусі. У адказе паведамляецца, што Міністэрства адукацыі прыняло рашэнне, у адпаведнасці з якім у 10-х класах выкладанне прадметаў “Гісторыя Беларусі” і “Геаграфія Беларусі” будзе ажыццяўляцца на рускай мове ва ўсіх установах адукацыі з рускай мовай навучання.

Калі хто хоча вывучаць гэтыя прадметы па-беларуску, то для іх у кожным раёне горада ёсць па адной беларускай школе і асобныя беларускамоўныя класы. Адкрыццё ж класаў з беларускай мовай навучання залежыць ад жадання і колькасці заяў бацькоў.

ТБМ атрымала адказ на свой зварот аб мове выкладання гісторыі Беларусі ад намесніка міністра адукацыі Рэспублікі Беларусь К. С. Фарыно. У лісце паведамляецца. што выкладанне азначанага прадмета на рускай мове ўводзіцца ў сувязі з перыядычнымі зваротамі грамадзянаў і для стварэння адпаведных умоў для рэалізацыі права выбару мовы навучання.

Падручнікі па гісторыі Беларусі будуць выдавацца на дзвюх

мовах, пры гэтым падручнікамі на беларускай мове будуць забяспечаны не толькі агульнаадукацыйныя установы з беларускай, але і з рускай мовай навучання (па іх выбары).

**1 верасня.** У г. Полацку з нагоды Дня ведаў праводзіцца свята ў гарадскіх бібліятэках. Увечары ў бібліятэцы імя Янкі Купалы сабраліся сябры гарадской суполкі ТБМ на вечарыну пад назвай "Гучы, роднае слова". Удзел прынялі Ірына Жарнасек, Лера Сом, Валер Старынскі, Змітрок Куніцкі, Галіна Загурская, Мікалай Балдоўскі. Арганізавана кніжная выстава, падрыхтавана тэатральная пастаноўка, гучалі вершы, песні. Пасля завяршэння вечарыны Рада ТБМ абмеркавала праграму сваёй працы.

**14 верасня.** ТБМ атрымала адказ ад Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь, Упраўлення Дзяржаўнай аўтамабільнай інспекцыі на пытанні адносна мовы дарожных знакаў і вадзіцельскіх пасведчанняў. Паведамляецца, што пасведчанне аб рэгістрацыі транспартнага сродку па жаданні грамадзяніна можа быць афармлена на беларускай мове.

У цэлым жа адзначаецца, што "дзяржаўны стандарт дазваляе рабіць подпісы і на рускай мове, і Дзяржаўтаінспекцыя МУС Рэспублікі Беларусь не мае падставы для выдачы прадпісанняў па пытаннях парушэння дзяржаўнага стандарту".

**Верасень - кастрычнік.**

У Віцебску і Полацку прайшлі сустрэчы з аўтарамі часопіса "Дзеяслоў" Нілам Гілевічам, Леанідам Дранько-Майсюком, Эдуардам Акулінным.

**18 кастрычніка.** Атрыманы адказ з Міністэрства інфармацыі ад намесніка міністра І. М. Лапцёнка на ліст ТБМ з прапановай рэкамендаваць выдавецтву "Беларусь" уключыць у план выпуску на 2007 г. некалькі перакідных беларускамоўных календароў. Сутнасць адказу ў тым, што выдавецтвы валодаюць поўнай творчай і фінансавай самастойнасцю, а перакідны каляндар на 2005 г. "Асветнікі Беларусі", тыраж якога застаўся ў значнай меры нерэалізаваным, сёлета выдавацца не будзе. Выдавецтвам прынята рашэнне абмежаванага выпуску адрыўнога беларускамоўнага календара на 2007 г. "Родны край".

**19 кастрычніка.** Адбылася канферэнцыя Магілёўскай абласной арганізацыі ТБМ. Абраны новы склад рады і рэвізійнай

камісіі. Старшынём арганізацыі абраны дацэнт Магілёўскага дзяржаўнага універсітэта імя Аркадзя Куляшова, кандыдат філалагічных навук Яраслаў Клімуць, намеснікамі – Наталля Лебедзева, Алег Дзячкоў – кіраўнік Магілёўскай гарадской арганізацыі ТБМ.

**5 лістапада.** Адбылося чарговае паседжанне Рэспубліканскай Рады ТБМ. На абмеркаванне былі вынесены наступныя пытанні:

1. Аб газеце "Наша слова".

2. Аб звароце "Дапаможам вясковым і школьным бібліятэкам".

3. Аб аднаўленні дзейнасці і пастаноўцы на ўлік Гомельскай абласной арганізацыі ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны".

4. Абмеркаванне праекта плана работы ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны" на 2007 г.

5. Аб "Заяве ТБМ пра сітуацыю з беларускай мовай у ВНУ".

Рада ТБМ прыняла зварот "Дапаможам вясковым і школьным бібліятэкам", у якім яна заклікае грамадзян Беларусі і суайчыннікаў за мяжой падпісаць блізкія і вядомыя ім школьныя і вясковыя бібліятэкі, а таксама раённыя музеі на беларускамоўныя выданні, у тым ліку на "Наша слова". Выказана падзяка Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі за неаднаразовую падтрымку беларускіх выданняў.

Рада ТБМ прыняла заяву "Абаронім беларукую мову ў ВНУ", у якой выказваецца занепакоенасць палітыкай русіфікацыі, што праводзіцца ўладнымі структурамі: беларуская мова зусім знікае з вучэбных стандартаў ВНУ. ТБМ звяртае ўвагу грамадскасці на гэтыя згубныя працэсы ў сферы нацыянальнай мовы і культуры і заклікае папярэдзіць вынікі такіх неабачлівых крокаў з боку Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь.

**22 лістапада.** Старшыня ТБМ А. А. Трусаў звярнуўся праз газету "Наша слова" да сяброў ТБМ з заклікам праявіць актыўнасць у правядзенні падпіскі на "Наша слова", каб максімальна павялічыць колькасць падпісчыкаў, а таксама актывізаваць збор сяброўскіх складак і ахвяраванняў. Да кіраўнікоў раённых, гарадскіх і абласных арганізацый ён звярнуўся з просьбай да 15 снежня даць справаздачу аб дзейнасці сваёй структуры за 2006 г., а таксама ўнесці прапановы і дадаткі да плана дзейнасці ТБМ у наступным годзе.

На пасяджэнні Сакратарыята ТБМ прыняты "Зварот да Кіраўніка Беларускай дзяржавы А. Р. Лукашэнкі "Абвесцім 2007 год годам беларускай мовы і культуры", у якім ТБМ нагадвае беларус-

кім уладам. што ў 2007 г. спаўняецца 125 гадоў з дня народзінаў класікаў беларускай літаратуры Янкі Купалы і Якуба Коласа. У адпаведнасці з гэтым прапануецца выдаць адпаведны Указ або Пастанову Савета Міністраў, дзе варта адлюстраваць наступнае:

1. Абвесціць наступны 2007 год годам беларускай мовы і літаратуры.

2. Вярнуць у адукацыйныя стандарты ВНУ абавязковае выкладанне беларускай мовы і курса "Беларусазнаўства".

3. Аднавіць выкладанне гісторыі і геаграфіі Беларусі на беларускай мове ў школах з рускай мовай выкладання.

4. Адкрыць у г. Менску Нацыянальны універсітэт з выкладаннем усіх прадметаў па-беларуску і надаць яму імя Якуба Коласа.

**Лістапад.** Выйшла кніга сябра Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ Васілісы Пазнуховай "Мілавіца".

**12 снежня.** Гарадзенскі абласны выканаўчы камітэт рашэннем № 804 зарэгістраваў Установу інфармацыі "Выдавецкі дом грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны (Установа інфармацыі "Выдавецкі дом ТБМ"), на якаую леглі абавязкі па выданні газеты "Наша слова" і "Лідскі летапісец". Дырэктарам установы прызначаны рэдактар газеты "Наша слова" Станіслаў Суднік.

**15 снежня.** На імя старшыні ТБМ А. А. Трусава прыйшоў ліст з Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага Сходу Рэспублікі Беларусь, падпісаны старшынём камісіі па адукацыі, культуры, навуцы і навукова-тэхнічным прагрэсе У. М. Здановічам. У лісце паведамляецца, што ў краіне створаны арганізацыйны камітэт па падрыхтоўцы да святкавання 125-годдзя з дня нараджэння класікаў беларускай літаратуры Янкі Купалы і Якуба Коласа. Палата прадстаўнікоў будзе ўшаноўваць памяць класікаў у межах мерапрыемстваў, запланаваных аргкамітэтам.

Тут жа выказана меркаванне, што ўносіць дадатковыя запісы аб парадку выкарыстання беларускай мовы ў ВНУ краіны ў праект Закона Рэспублікі Беларусь "Аб вышэйшай адукацыі" немэтазгодна.

**У 2006 годзе.**

З пачатку года ва ўсіх аўтобусах, тралейбусах, трамваях г. Віцебска інфармацыя падаецца па-беларуску.

# 2007 год

**Студзень**

У пачатку года ў г. Гародні скончыўся трэці этап Рэспубліканскіх алімпіядаў па беларускай мове. Былі вылучаныя і ўзнагароджаныя найлепшыя маладыя знаўцы роднай мовы. Прадстаўнікі абласной арганізацыі ТБМ віншавалі пераможцаў, узнагароджвалі кнігамі беларускіх пісьменнікаў і слоўнікамі, зычылі далейшых поспехаў у засваенні роднай мовы.

**3 студзеня.** Сакратарыят ТБМ накіраваў заяву на імя старшыні Баранавіцкага гарадскога выканаўчага камітэта сп. В. І. Дзічкоўскага з асуджэннем дзеянняў, скіраваных супраць кіраўніка Баранавіцкай гарадской арганізацыі ТБМ В. А. Сырыцы, якога спачатку пазбавілі працы, а потым правяліператрус у ягонай хаце.

**7 студзеня.** На імя старшыні ТБМ А. А. Трусава прыйшоў афіцыйны адказ з Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь на зварот аб ушанаванні памяці славутых беларускіх пісьменнікаў Янкі Купалы і Якуба Коласа ў сувязі з іх 125-годдзем. У лісце паведамляецца, што 2007 год было вырашана абвясціць годам класікаў беларускай літаратуры Янкі Купалы і Якуба Коласа, і цягам году запланаваныя шматлікія ўрачыстыя мерапрыемствы. Разам з тым прапанаваная ў звароце ТБМ ідэя стварэння новай вышэйшай навучальнай установы адхіляецца.

**11 студзеня.** На імя старшыні ТБМ А. А. Трусава прыйшоў афіцыйны адказ з Мінгарвыканкама на зварот па пытанні выпускаў імгненнай латэрэі “Родны горад”, прысвечанай 125-ым угодкам Янкі Купалы і Якуба Коласа. У лісце паведамляецца, што ў ліпені – лістападзе 2007 г. хутчэй за ўсё будуць выдадзеныя латарэйныя білеты “Родны горад”, прысвечаныя 125-ым угодкам класікаў беларускай літаратуры Янкі Купалы і Якуба Коласа.

**13 студзеня.** На імя старшыні ТБМ А. А. Трусава прыйшоў афіцыйны адказ з Міністэрства сувязі і інфарматызацыі Рэспублікі Беларусь на зварот аб выпуску канвертаў і марак з выявамі вядомых беларускіх дзеячаў гісторыі і культуры, даты нараджэння якіх у 2007 г. з’яўляюцца юбілейнымі. У лісце паведамляецца, што ў 2007 годзе ў тэматычным плане не магчыма прадугледзець усе юбілейныя даты,

але, улічваючы просьбу ТБМ, будзе выдадзены канверт з нагоды 90-годдзя Янкі Брыля.

**17 студзеня.** На імя старшыні ТБМ А. А. Трусава прыйшоў афіцыйны адказ з Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь на зварот аб выданні Правілаў дарожнага руху на беларускай мове. У лісце паведамляецца, што МУС чакае адказу на адпаведны запыт адносна гэтага пытання ад выдавецтваў.

1**8 студзеня.** На імя старшыні ТБМ А. А. Трусава прыйшоў афіцыйны адказ з Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь на зварот аб выкладанні беларускай мовы ў вышэйшых навучальных установах. У лісце паведамляецца, што "вышэйшыя навучальныя ўстановы будуць самастойна вырашаць пытанне аб неабходнасці ўвядзення курсу "Беларуская мова. Прафесійная лексіка" за кошт гадзін, якія адводзяцца ў навучальных планах на спецкурсы і факультатывы". Таксама ў лісце падкрэсліваецца, што адпаведна з беларускім Заканадаўствам студэнты маюць магчымасць выбіраць мову навучання па асабістаму жаданню: "У БДУ і шэрагу іншых ВНУ краіны створаны беларускамоўныя плыні навучання".

**20 студзеня.** На імя старшыні ТБМ А. А. Трусава прыйшоў афіцыйны адказ з Баранавіцкага гарвыканкама на заяву на імя старшыні Баранавіцкага гарадскога выканаўчага камітэта сп. В. І. Дзічкоўскага з асуджэннем дзеянняў, скіраваных супраць кіраўніка Баранавіцкай гарадской арганізацыі ТБМ В. А. Сырыцы. У лісце паведамляецца, што ў адносінах да В. А. Сырыцы праводзіцца праверка, па выніках якой будзе вядома аб адказнасці альбо вызваленні ад адказнасці В. А. Сырыцы – кіраўніка Баранавіцкай гарадской арганізацыі ТБМ.

**3 лютага**. На імя старшыні ТБМ А. А. Трусава прыйшоў афіцыйны адказ з Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь на зварот аб выданні насценных беларускамоўных календароў з выявамі славутых беларускіх літаратараў Янкі Купалы і Якуба Коласа. У лісце паведамляецца, што выпуск календароў не можа быць ажыццёўлены па прычыне строга рэгламентаванага прыцягнення бюджэтных сродкаў і субсідый.

**4 лютага.** У сядзібе ТБМ у г. Менску прайшло паседжанне Рэспубліканскай Рады ТБМ. Былі разгледжаны наступныя пытанні:

1. Справаздача аб дзейнасці ТБМ за 2006 год.

2. Абмеркаванне і зацвярджэнне плана працы ТБМ на 2007 г.

3. Аб дзейнасці Установы інфармацыі “Выдавецкі дом ТБМ”.

4. Аб зменах у Статуце ТБМ.

5. Аб зменах у складзе Сакратарыяту ТБМ.

6. Прыняцце Пастановы аб святкаванні 450-х угодкаў з дня народзінаў Льва Сапегі.

7. Прыняцце звароту “Часопісу “Роднае слова” – быць”.

8. Прыняцце заявы па святкаванні Міжнароднага дня роднай мовы.

9. Аб зменах у складзе рэдкалегіі газеты “Наша слова”.

Радай быў заснаваны аргкамітэт па стварэнні “Таварыства ведыйскай культуры”.

**11 лютага.** Актывісты Гарадзенскай гарадской і абласной арганізацый ТБМ атрымалі адказ на зварот у Гарвыканкам адносна карыстання (дакладней: не карыстання) беларускай мовай кіроўцамі тралейбуснага і аўтапарку ў час аб’яўлення прыпынкаў. У лісце давалася шмат цьмяных спасылак на Заканадаўства Рэспублікі Беларусь, але не было сказана нічога пэўнага адносна вырашэння гэтага пытання на практыцы.

**13 лютага.** Старшыня ТБМ Алег Трусаў звярнуўся з афіцыйным лістом да старшыні Мінгарвыканкама М. Паўлава з прапановай назваць адну з вуліц г. Менска імем Напалеона Орды, славутага мастака, кампазітара, педагога і пісьменніка, які з’яўляецца ўраджэнцам нашай зямлі.

**14 лютага.** Праз газету “Наша слова” Рада ТБМ звярнулася да грамадзянаў Беларусі з заклікам прыняць актыўны ўдзел у святкаванні Міжнароднага дня роднай мовы (21 лютага) і стала карыстацца дзяржаўнай беларускай мовай.

Праз газету “Наша слова” Рада ТБМ звярнулася да Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь з надзеяй на далейшую падтрымку Міністэрствам часопіса “Роднае слова” і захавання гэтым часопісам статусу асобнага самастойнага выдання.

**24 лютага.** На імя старшыні ТБМ А. А. Трусава прыйшоў афіцыйны адказ з Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь на зварот аб выданні Правілаў дарожнага руху на беларускай мове. У лісце МУС паведамляе, што з усіх беларускіх выдавецтваў, у якія звярталася Міністэрства, зацікаўленасць друкам беларускамоўнага варыянту Правілаў выявіла толькі выдавецтва “Літаратура

і Мастацтва” Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Астатнія выдавецтвы адмовіліся па прычыне адсутнасці афіцыйна зацверджанага перакладу. Само УДАІ МУС РБ не мае магчымасці выдаць Правілы дарожнага руху, але можа прыняць удзел у падрыхтоўцы перакладу у якасці дарадцы па тэхнічных аспектах.

**28 лютага.** Старшыня ТБМ Алег Трусаў направіў афіцыйны ліст Кіраўніку Адміністрацыі Прэзідэнта сп. Г. М. Нявыгласу з прапановамі на ўсталяванне помніка Льву Сапегу, правядзення канферэнцыі і іншых урачыстых мерапрыемстваў, прысвечаных гэтаму славутаму беларускаму дзеячу. У лісце падаецца падрабязны спіс магчымых культурных мерапрыемстваў і імпрэзаў.

**9 сакавіка.** На імя старшыні ТБМ А. А. Трусава прыйшоў афіцыйны адказ з Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь на зварот аб выданні альбома, прысвечанага 450-годдзю з дня нараджэння Льва Сапегі. У лісце паведамляецца, што выданне альбома да 4 красавіка не было запланаваным і не ўяўляецца магчымым.

**14 сакавіка.** На імя старшыні ТБМ А. А. Трусава прыйшоў афіцыйны адказ з Упраўлення культуры Мінгарвыканкама на зварот аб пераназванні адной з вуліц г. Менска імем Напалеона Орды. У лісце паведамляецца, што гэтае пытанне будзе вынесена на разгляд Камісіі па найменаванні і перайменаванні вуліц г. Менска.

**24 сакавіка.** На імя старшыні ТБМ А. А. Трусава прыйшоў афіцыйны адказ з НАН Беларусі на зварот аб правядзенні міжнароднай навуковай канферэнцыі, прысвечанай жыццю і дзейнасці Льва Сапегі. У лісце паведамляецца, што Інстытут гісторыі НАН Беларусі сумесна з Гродзенскім дзяржаўным універсітэтам будзе праводзіць такую канферэнцыю 4 –5 красавіка.

Таксама дзякуючы намаганням ТБМ у г. Лідзе 2 – 9 красавіка быў праведзены тыдзень, прысвечаны Льву Сапегу, і шэраг іншых культурных мерапрыемстваў у розных мястэчках і гарадах Беларусі.

**28 сакавіка**. На імя старшыні ТБМ А. А. Трусава прыйшлі афіцыйныя адказы з Брэсцкага абласнога Савету дэпутатаў, Кобрынскага раённага Савета дэпутатаў і Кобрынскага раённага выканаўчага камітэта на зварот аб неправамернасці і беспадстаўнасці надання статусу Сувораўскага храма-помніка праваслаўнаму храму, які будуецца ў г. Кобрыне. У лістах адзначаецца,

што ў Брэсцкі Савет дэпутатаў не паведамлялі пра прысваенне такога статусу храму ў г. Кобрыне, а дадзены будынак афіцыйна носіць назву "Свято-Христорождественская церковь г. Кобрына – храм-памятник 60-летия освобождения Беларуси".

**1 красавіка.** На імя старшыні ТБМ А. А. Трусава прыйшоў афіцыйны адказ з Гомельскага абласнога выканаўчага камітэта на зварот аб неабходнасці павелічэння выкарыстання беларускай мовы пры інфармаванні пасажыраў грамадскага транспарта. У лісце паведамляецца, што беларуская мова ўжываецца вельмі шырока пры інфармаванні грамадства, але ў дадзеным кірунку праца будзе працягвацца, у тым ліку будзе разгледжана пытанне пра распаўсюд практыкі інфармавання пасажыраў на беларускай мове ў электрычным транспарце г. Гомель.

**5 красавіка.** На імя старшыні ТБМ А. А. Трусава прыйшоў афіцыйны адказ з Пракуратуры Рэспублікі Беларусь на зварот аб разглядзе законнасці размяшчэння гатэльнага комплексу ў месцы знаходжання помніка архітэктуры па вуліцы Кірылы і Мяфодзія (д. №№ 6 і 8). У лісце паведамляецца, што зварот яшчэ будзе разгледжаны Пракуратурай.

**11 красавіка.** Лідская гарадская Рада ТБМ звярнулася з заявай праз "Наша слова" да Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь. Лідская Рада ТБМ патрабуе вызваліць А. Радзькова з пасады міністра адукацыі РБ як антыбеларускага, антынацыянальнага, антыдзяржаўнага дзеяча і забараніць яму цягам 10 гадоў займаць любыя пасады ў адукацыйнай сферы.

**3 траўня**. На імя старшыні ТБМ А. А. Трусава прыйшоў афіцыйны адказ з Камітэта архітэктуры і горадабудаўніцтва на зварот аб рэканструкцыі будынкаў на вуліцы Кірылы і Мяфодзія (д. №№ 6 і 8). У лісце паведамляецца, што рэстаўрацыя вядзецца па заказе КУП "Менская спадчына" і для скасавання ці прыпынення работ няма ніякіх падстаў.

**13 траўня.** На імя старшыні ТБМ А. А. Трусава прыйшоў афіцыйны адказ з Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь на скаргу аб рэкламе і любой іншай інфармацыі у гандлёвым цэнтры "Карона" на рускай мове. У лісце паведамляецца, што скарга разгледжаная ў Канстытуцыйным судзе. Суд нагадвае, што ў Канстытуцыі Беларусі замацаваныя дзве дзяржаўныя мовы.

**1 чэрвеня.** На імя старшыні ТБМ А. А. Трусава прыйшоў афіцыйны адказ з Пракуратуры на скаргу аб рэкламе і любой іншай інфармацыі у гандлёвым цэнтры "Карона" на рускай мове. У лісце паведамляецца, што быў паўторна разгледжаны зварот па пытанні выкарыстання беларускай і рускай моваў пры маркіроўцы тавараў і рэалізацыі на практыцы канстытуцыйнага права грамадзянаў на карыстанне беларускай мовай. "Падставаў для прыняцця мер пракурорскага рэагавання ў частцы ўскладання на суб'екты гаспадарання абавязкаў па маркіроўцы тавараў на беларускай мове не маецца".

**21 чэрвеня.** Старшыня ТБМ А. А Трусаў накіраваў генеральнаму пракурору Рэспублікі Беларусь П. П. Міклашэвічу ліст аб парушэнні ўказа Прэзідэнта № 332 ад 28 ліпеня 2003 г. у сувязі з тым, што ўлады г. Гародні пачалі актыўна знішчаць старажытны цэнтр найпрыгажэйшага горада Беларусі, які з'яўляецца унікальным будаўнічым ансамблем XII – XX стагоддзяў. У адказе паведамляецца, што зварот будзе разгледжаны Пракуратурай Рэспублікі Беларусь.

**26 – 27 чэрвеня.** У г. Менску прайшлі VIII Міжнародныя чытанні – навуковая канферэнцыя "Мастацкі свет Янкі Купалы: класічна-анталагічнае і непаўторна-індывідуальнае", прысвечаныя 125-годдзю класіка нацыя-нальнай літаратуры. На чытаннях з дакладам "Пытанні зберажэння і аховы гісторыка-культурнай спадчыны ў творах Янкі Купалы" выступіў і старшыня ТБМ А. А. Трусаў.

**30 чэрвеня.** У Віцебскай вобласці на базе гістарычна-этнаграфічнага музея "Засцянковая хатка" адбылася літаратурна-рэлігійная імпрэза на тэму "Сваты засценак – родны мой, каханы", прысвечаны 15-годдзю ТБМ Віленскага краю, 205-ым угодкам Ігната Дамейкі, а таксама 65-годдзю старшыні ТБМ Віленскага краю.

**4 ліпеня.** Намаганнямі ТБМ дзвюм вуліцам г. Менска нададзены імёны Напалеона Орды і Алеся Гаруна.

**15 ліпеня**. На імя старшыні ТБМ А. А. Трусава прыйшоў афіцыйны адказ з Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь на зварот па пытанні адсутнасці бланкаў цэнтралізаванага тэставання на беларускай мове. У лісце паведамляецца, што зварот будзе разгледжаны ў Міністэрстве адукацыі Рэспублікі Беларусь.

**29 ліпеня.** Ва ўрочышчы “Крыжы” паміж вёскамі Малое Ольжава і Мохавічы Лідскага раёна адбылася святая імша ў памяць паўстанцаў 1863 года. Арганізатарамі імпрэзы выступілі Лідская гарадская арганізацыя ТБМ і іншыя грамадскія арганізацыі.

**4 жніўня.** Старшыня ТБМ А. А. Трусаў направіў старшыні Карэліцкага райвыканкама І. М. Шматко ліст з прапановай надаць адной са школ г. Карэлічы, а таксама адной з вуліц імя Янкі Брыля ў сувязі з 90-годдзем пісьменніка.

**5 жніўня.** На імя старшыні ТБМ А. А. Трусава прыйшоў афіцыйны адказ з Гродзенскага гарадскога выканаўчага камітэта на зварот аб пытанні захавання аб‘ектаў на тэрыторыі гістарычнага цэнтру г. Гародні, занесенага ў Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцяў Рэспублікі Беларусь. У лісце паведамляецца, што ўсе работы на тэрыторыі гістарычнага цэнтру ажыццяўляюцца ў адпаведнасці з Заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

**15 жніўня.** Старшыня ТБМ А. А. Трусаў направіў Генеральнаму пракурору Рэспублікі Беларусь П. П. Міклашэвічу ліст па пытанні парушэння ўладамі г. Гародні “Закона аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны” і іншых заканадаўчых актаў. У сваім лісце старшыня ТБМ пералічвае факты знішчэння гістарычнай спадчыны ў г. Гародні і просіць сп. П. П. Міклашэвіча даць даручэнне работнікам рэспубліканскай пракуратуры праверыць прыведзеныя факты.

**23 жніўня**. На імя старшыні ТБМ А. А. Трусава прыйшоў афіцыйны адказ з Карэліцкага раённага выканаўчага камітэту на зварот аб наданні адной са школ г. Карэлічы, а таксама адной з вуліц імя Янкі Брыля ў сувязі з 90-годдзем пісьменніка. У лісце паведамляецца, што Карэліцкім раённым выканаўчым камітэтам разглядаецца пытанне надання імя Янкі Брыля Турэцкай сярэдняй школе-саду (вёска Турэц), адміністрацыя якой звярнулася ў гарвыканкам з дадзенай прапановай.

**25 жніўня.** На імя старшыні ТБМ А. А. Трусава прыйшоў афіцыйны адказ з Міністэрства сувязі і інфарматызацыі Рэспублікі Беларусь на зварот аб выданні мастацкага маркіраванага канверта, прысвечанага 125-годдзю з дня нараджэння беларускага навукоўца і грамадскага дзеяча Сцяпана Некрашэвіча. У лісце паведамляецца, што Міністэрства сувязі разгледзела зварот і на 2008 год прадугле-

джаны выпуск такога канверта.

**1 верасня.** На імя старшыні ТБМ А. А. Трусава прыйшоў афіцыйны адказ з Упраўлення культуры Мінгарвыканкама на зварот па ўшанаванні памяці Сцяпана Некрашэвіча. У лісце паведамляецца, што ў Менскім гарадскім выканаўчым камітэце пытанне па ўвекавечанні памяці знакамітых асобаў у назвах вуліц разглядае Камісія па найменаванні і перайменаванні вуліц г. Менска. Прапанова аб прысваенні адной з вуліц імя С. Некрашэвіча ўключана ў план работы дадзенай Камісіі.

**6 верасня.** На імя старшыні ТБМ А. А. Трусава прыйшоў афіцыйны адказ з Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь на зварот аб вырабе бланкаў для цэнтралізаванага тэставання на беларускай мове. У лісце паведамляецца, што Канстытуцыйны суд РБ прыняў дадзенае рашэнне.

**20 верасня.** На імя старшыні ТБМ А. А. Трусава прыйшоў афіцыйны адказ з Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь на зварот аб выданні Правілаў дарожнага руху на беларускай мове. У лісце паведамляецца, што дадзенае пытанне ўваходзіць у кампетэнцыю МУС Рэспублікі Беларусь.

**28 верасня.** У менскай сядзібе ТБМ (вул. Румянцава, 13) прайшоў круглы стол па абмеркаванні праекту “Закона аб правілах беларускай арфаграфіі і пунктуацыіі”. Удзел узялі навукоўцы, палітыкі, юрысты, супрацоўнікі дзяржаўных структураў. Была прынятая наступная рэзалюцыя:

1. Адкласці прыняцце змен у правапісе беларускай мовы ў форме закона.
2. Апублікаваць новы праект правілаў у дзяржаўных друкаваных СМІ.
3. Арганізаваць шырокае грамадскае абмеркаванне праекта новай рэдакцыі правілаў.
4. Правесці навуковую канферэнцыю па праблемах беларускага правапісу.
5. Правесці парламенцкія слуханні па праблеме прыняцця новай рэдакцыі правілаў.

**29 верасня.** На імя старшыні ТБМ А. А. Трусава прыйшоў афіцыйны адказ з Міністэрства сувязі і інфарматызацыі Рэспублікі

Беларусь на зварот аб выпуску паштовай маркі, канверта Першага дня і спецыяльнага памятнага штэмпеля, прысвечанага 200-годдзю з дня народзінаў Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча. У лісце паведамляецца, што дадзены выпуск на 2008 год прадугледжаны.

**Пачатак кастрычніка.** Выйшла кніга старшыні Бердаўскай суполкі ТБМ Лідскага раёна Анатоля Крупы "Пакінуць след на зямлі".

**19 кастрычніка.** На імя старшыні ТБМ А. А. Трусава прыйшоў афіцыйны адказ з Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь на зварот, які тычыцца надрукавання Правілаў дарожнага руху на беларускай мове. У лісце паведамляецца, што дадзены зварот разгледжаны. "Афіцыйнае апублікаванне нарматыўнага прававога акта ажыццяўляецца на той дзяржаўнай мове, на якой ён прыняты. Апублікаванне на іншых мовах дапускаецца пры наяўнасці афіцыйна зацверджанага перакладу". Таксама падкрэсліваецца і тое, што Закон "Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь" не забяспечвае роўнасці дзвюх дзяржаўных моў, перш за ўсё беларускай.

**24 кастрычніка.** На імя старшыні ТБМ А. А. Трусава прыйшоў афіцыйны адказ з Дзяржаўнага сакратарыята Савета бяспекі Рэспублікі Беларусь на зварот аб захаванні архітэктурных і археалагічных скарбаў у ходзе рэканструкцыі аб'ектаў культурна-гістарычнай спадчыны Беларусі – у тым ліку ў г. Гародні. У лісце паведамляецца, што меры, якія прымаюцца па рэканструкцыі гістарычнай часткі Гародні на дадзеным этапе з'яўляюцца дастатковымі, але не выключаюць кантролю з боку грамадскасці.

**25 кастрычніка.** На імя старшыні ТБМ А. А. Трусава прыйшоў афіцыйны адказ з Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь на зварот, які тычыцца надрукавання Правілаў дарожнага руху на беларускай мове. У лісце паведамляецца, што "афіцыйнае апублікаванне нарматыўнага прававога акта ажыццяўляецца на той дзяржаўнай мове, на якой ён прыняты. Апублікаванне на іншых мовах дапускаецца пры наяўнасці афіцыйна зацверджанага перакладу". Таксама падкрэсліваецца, што Правілы дарожнага руху па-беларуску былі надрукаваныя ў газеце "Звязда".

**28 кастрычніка.** На імя старшыні ТБМ А. А. Трусава пры-

йшоў афіцыйны адказ з Мінгарвыканкама на зварот аб выкарыстанні беларускай мовы. У лісце паведамляецца, што з 15 кастрычніка 2007 года праязныя квіткі на лістапад паступілі ў продаж са штампам "лістапад", і надалей назва месяца на праязной дакументацыі будзе пазначацца на беларускай мове.

**4 лістапада.** На імя старшыні ТБМ А. А. Трусава прыйшоў афіцыйны адказ з Белпошты на зварот аб выданні на 2008 год беларуска-моўнага календара, прысвечанага Дню беларускага пісьменства, і выпуску адрыўнога календара "Родны край". У лісце паведамляецца, што Белпошта не мае магчымасці выдання дадзенай прадукцыі.

**7 лістапада.** У Магілёве мясцовай суполкай ТБМ быў зладжаны рух святочнага тралейбуса ў гонар 120-годдзя з дня народзінаў славутага беларускага пісьменніка Цішкі Гартнага.

**8 лістапада.** На імя старшыні ТБМ А. А. Трусава прыйшоў афіцыйны адказ з Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь на зварот аб выданні беларускамоўных календароў на 2008 г. У лісце паведамляецца, што Нацыянальная бібліятэка Беларусі, Нацыянальны мастацкі музей Беларусі, а таксама іншыя ўстановы культуры (музеі, бібліятэкі, тэатры і інш.) могуць аказаць дапамогу ў падборы патрэбных дакументаў з выявамі, неабходнымі для афармлення беларускамоўных календароў.

**14 лістапада.** Праз газету "Наша слова" Слуцкая гарадская арганізацыя ТБМ абвясціла конкурс "390 год найстарэйшай школе Беларусі!".

Праз газету "Наша слова" ТБМ паведаміла аб выданні кішэннага календара на 2008 год, прысвечанага 200-м угодкам паэта і драматурга Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча.

**15 лістапада.** Старшыня ТБМ А. А. Трусаў накіраваў міністру юстыцыі Рэспублікі Беларусь сп. В. Р. Галаванаву ліст з просьбай патлумачыць, чаму Міністэрства юстыцыі дало адмоўную экспертызу рашэння Менскага гарвыканкама аб прысваенні сталічным вуліцам імёнаў Льва Сапегі і Янкі Брыля.

Старшыня ТБМ А. А. Трусаў направіў старшыні Менгарвыканкама сп. М. Я. Паўлаву ліст з падзякай за ўважлівае стаўленне да заўваг і прапаноў ТБМ. У лісце старшыня ТБМ таксама просіць парады адносна таго, як ТБМ можа абараніць слушнае першапа-

чатковае рашэнне гарвыканкама аб прысваенні сталічным вуліцам імёнаў Льва Сапегі і Янкі Брыля, якое было скасавана праз адмоўную экспертызу Міністэрства юстыцыі.

На імя старшыні ТБМ А. А. Трусава прыйшоў афіцыйны адказ з Гарадзенскага гарадскога выканаўчага камітэта на зварот ТБМ па пытанні рэканструкцыі гістарычных аб'ектаў у г. Гародні. У лісце паведамляецца, што на пачатковых этапах работ па шэрагу аб'ектаў меліся пэўныя парушэнні, але яны былі ліквідаваныя ў азначаныя прадпісаннямі тэрміны.

**18 лістапада.** На імя старшыні ТБМ А. А. Трусава прыйшоў афіцыйны адказ з Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь на зварот аб выданні беларускамоўнага календара на 2008 год. У лісце паведамляецца, што прапанову аб выданні беларускамоўнага календара, прысвечанага Дню беларускага пісьменства, Міністэрства інфармацыі падтрымлівае, але выпуск адрыўнога календара "Родны край" не планаваўся і пакуль не плануецца.

**19 лістапада**. На імя старшыні ТБМ А. А. Трусава прыйшоў афіцыйны адказ з Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь на зварот аб выданні беларускамоўнага календара на 2008 год, прысвечанага дню беларускага пісьменства, і выпуску адрыўнога календара "Родны край". У лісце паведамляецца, што Мінінфармацыі падтрымлівае прапанову аб выданні беларускамоўнага календара, прысвечанага Дню беларускага пісьменства, але адзначаецца і тое, што выпуск адрыўнога календара "Родны край" не планаваўся па аб'ектыўных эканамічных прычынах.

**24 лістапада.** На імя старшыні ТБМ А. А. Трусава прыйшоў афіцыйны адказ з Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь на зварот з просьбай патлумачыць, чаму Міністэрства юстыцыі дало адмоўную экспертызу рашэння Менскага гарвыканкама аб прысваенні сталічным вуліцам імёнаў Льва Сапегі і Янкі Брыля. У лісце намеснік міністра матывуе скасаванне рашэння Мінгарвыканкама тым, што змест вышэйзгаданага нарматыўнага акта супярэчыць патрабаванням артыкула 15 Закона Рэспублікі Беларусь ад 5 траўня 1998 г. "Аб адміністратыўна-тэрытарыяльным дзяленні і парадку вырашэння пытанняў адміністратыўна-тэрытарыяльнага дзялення Рэспублікі Беларусь".

**26 лістапада.** ТБМ праз газету "Наша слова" звярнулася да жыхароў г. Менска з прапановай падтрымаць рашэнне Менгарсаве-

та ад 26 верасня 2007 года аб наданні менскім вуліцам імёнаў Янкі Брыля, Льва Сапегі, Эдварда Вайніловіча і тэрмінова накіраваць адпаведныя лісты ў Менскі гарадскі Савет. Тут жа надрукаваны падпісны бланк на імя міністра юстыцыі Рэспублікі Беларусь В. Р. Галаванава.

**3 снежня.** Праз газету "Наша слова" сябры ТБМ паведамілі, што ў г. Магілёве створана першая беларускамоўная група ў дзіцячым садку № 81. На працягу пяці месяцаў актывісты мясцовых суполак ТБМ і руху БНФ "Адраджэнне" дамагаліся ад уладаў адкрыцця беларускамоўных групаў.

**9 снежня.** На імя старшыні ТБМ А. А. Трусава прыйшоў афіцыйны адказ з Упраўлення культуры Брэсцкага абласнога выканаўчага камітэта на зварот аб устанаўленні мемарыяльнай дошкі Льву Сапегу. У лісце паведамляецца, што дошка выканана, але для яе ўстанаўлення патрабуецца вырашыць некалькі працэдурных пытанняў.

**10 снежня.** Распачаў працу незалежны беларускамоўны тэлеканал "Белсат", ідэя стварэння якога непасрэдна належыць ТБМ. Канал створаны ў рамках польскага тэлебачання пры ўдзеле ўраду Польшчы, але адрасаваны найперш жыхарам Рэспублікі Беларусь і працуе толькі на беларускай мове.

**16 снежня.** Адбылося паседжанне Рэспубліканскай Рады ТБМ у сядзібе ТБМ у г. Менску. Былі разгледжаныя наступныя пытанні:

1. Аб сітуацыі вакол надання вуліцам сталіцы імёнаў Янкі Брыля, Льва Сапегі, а таксама перайменаванні вуліцы Берсана ў вуліцу Эдварда Вайніловіча

2. Прыняцце заявы аб захаванні ў адукацыйным стандарце сацыяльна-гуманітарных дысцыплінаў курса "Беларуская мова. Прафесійная лексіка" і шэраг іншых пытанняў.

Праз газету "Наша слова" Рада ТБМ звярнулася з заявай да шырокай грамадскасці ў сувязі з неабходнасцю падтрымкі захавання ў адукацыйным Стандарце па сацыяльна-гуманітарных дысцыплінах абавязковага курса "Беларуская мова. Прафесійная лексіка". Тут жа надрукаваны падпісны бланк на імя кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Г. М. Нявыгласа.

**18 снежня.** Віцебская абласная рада ТБМ і Рэвізійная камісія

на сумесным паседжанні прынялі заяву з нагоды мэтанакіраванага выцяснення беларускай мовы і беларускай літаратуры з навучальнага і выхаваўчага працэсу, у якой выказаны недавер міністру адукацыі Радзькову А.М. Заява разасланая ў Міністэрства адукацыі, Адміністрацыю Прэзідэнта, Савет Міністраў, СМІ.

**19 снежня.** Праз газету “Наша слова” сябры ТБМ паведамілі, што ў Лідскай гімназіі № 1 адбылася канферэнцыя, прысвечаная 125-годдзю Янкі Купалы і Якуба Коласа. У святкаванні прымалі ўдзел сябры ТБМ І. Мельнік, В. Пазлухова і інш.

**20 снежня.** Сябры ТБМ з Ліды Уладзімір Васько, Алесь Стадуб, Пятро Макарэвіч (сябар Лідскай рады ТБМ) прыняты ў Саюз беларускіх пісьменнікаў.

**У 2007 годзе**

Выйшла кніга сябра Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ Лявона Лаўрэша “Генерал Кіпрыян Кандратовіч”, прысвечаная міністру БНР, генералу ад інфантэрыі Кіпрыяну Кандратовічу.

# 2008 год

**На пачатку года** ў г. Магілёве праведзена “Беларускае пяціборства - VII”, старшыня журы – сябра ТБМ Міхась Булавацкі.

Пераможцы:

І месца – Дарожкін Андрэй, в. Гарбавічы Чавускага раёна;

ІІ месца – Чудакова Юля, Магілёўскі абласны ліцэй № 3, 10 клас;

ІІІ месца – Калашнікаў Ігар, Магілёўскі абласны ліцэй № 3, 11 клас.

Прыз за лепшую мову атрымала Дзенісевіч Святлана, ліцэй № 1, Дрыбіч.

**29 студзеня.** На паседжанні Сакратарыята ТБМ прыняты Зварот “Патрабуем нацыянальныя календары!”

**Люты**

Арганізаваны збор подпісаў на імя міністра інфармацыі Рэспублікі Беларусь У. В. Русакевіча за выданне беларускіх календароў на 2009 год і забеспячэнне імі гандлёвых кропак.

Старшыня ТБМ А. А. Трусаў направіў кіраўніку Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Г. М. Нявыгласу ліст аб захаванні ў адукацыйным стандарце па сацыяльна-гуманітарных дысцыплінах абавязковага курса “Беларуская мова. Прафесійная лексіка”.

Сябры Бабруйскай суполкі ТБМ даслалі зварот на імя старшыні Бабруйскага гарадскога выканаўчага камітэта Дз. М. Бонахава з прапановамі па ўшанаванні памяці класіка беларускай літаратуры Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча і годнага адзначэння 200-х угодкаў з дня народзінаў пісьменніка. Сярод прапаноў – паставіць помнік слыннаму земляку і перайменаваць у яго гонар вуліцу Бабруйскую.

Сябры Падсвільскай суполкі ТБМ зладзілі ў мясцовай школе свята роднай мовы – конкурс чытальнікаў пад назвай “Даверся слову”. 16 чытальнікам былі уручаны дыпломы пераможцаў конкурсу ў розных намінацыях. Журы ўзначальвала сябра ТБМ Марыя Новікава.

Сябры Наваполацкай суполкі ТБМ дасягнулі пэўных поспехаў у беларусізацыі аб’яў у гарадскім транспарце: напярэдадні Міжнароднага дня роднай мовы (21 лютага) у наваполацкіх гарадскіх аўтобусах загучала роднае слова.

**12 лютага.** На паседжанні Сакратарыята ТБМ прыняты Зварот да грамадзянаў Беларусі напярэдадні Міжнароднага дня роднай мовы з заклікам смялей і актыўней карыстацца роднай мовай у розных жыццёвых сітуацыях.

**21 лютага.** ТБМ наладзіла святкаванне Міжнароднага дня роднай мовы, заснаванага па ініцыятыве ЮНЭСКА. Падчас імпрэзы адбылася прэзентацыя “Беларуска-ўкраінскага слоўніка”, выдадзенага ва Ўкраіне.

Лідская гарадская арганізацыя ТБМ арганізавала 2 сустрэчы да Міжнароднага дня роднай мовы: у Лідскім каледжы і ў Лідскай цэнтральнай бібліятэцы імя Янкі Купалы. На іх выступілі запрошаныя інак Жыровіцкага манастыра Мікалай (паэт Зніч) і бард Андрэй Мельнікаў.

**12 сакавіка.** Старшыня ТБМ А. А. Трусаў звярнуўся праз газету “Наша слова” да беларускіх настаўнікаў і выкладчыкаў беларускай мовы і літаратуры з запрашэннем узяць удзел у першай агульнанацыянальнай дыктоўцы, якая праводзіцца ў гонар свята Дня волі і года мовы, абвешчанага ААН. “Першая агульнанацыянальная

дыктоўка утворыць супольную грамадскую беларускую школу. Пішучы разам дыктоўку, мы прадэман-струем усяму свету нашу любоў і пашану да роднай мовы, гатоўнасць яе бараніць," – адзначыў ён у сваім звароце.

На імя старшыні ТБМ А. А. Трусава прыйшоў афіцыйны адказ з Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь на зварот ТБМ на імя кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Г.М. Нявыгласа аб уключэнні курса "Беларуская мова. Прафесійная лексіка" ў адукацыйны стандарт па сацыяльна-гуманітарных дысцыплінах для вышэйшых навучальных устаноў. У лісце паведамляецца, што "з мэтай забеспячэння падрыхтоўкі спецыялістаў, якія валодаюць беларускамоўнай прафесійнай лексікай, Міністэрства адукацыі рэкамендавала ўсім вышэйшым навучальным установам арганізаваць пры пераходзе на новы адукацыйны стандарт выкладанне абавязковага курса "Беларуская мова. Прафесійная лексіка".

**15 сакавіка.** У сядзібе ТБМ распачалася першая агульнанацыянальная дыктоўка, прысвечаная 90-м угодкам абвяшчэння БНР. У дыктоўцы прынялі ўдзел амбасадары і прадстаўнікі амбасадаў Славакіі, Швецыі, Польшчы, Літвы, Украіны, Вялікабрытаніі, ЗША і іншых краін. На пачатку дыктоўкі яны зачыталі перакладзеныя на беларускую мову вершы класікаў сваіх нацыянальных культур, прысвечаныя роднай мове. Дыпламат Вялікабрытаніі зачытаў верш Янкі Купалы ў перакладзе на англійскую мову.

**16 сакавіка.** У г. Менску прайшло паседжанне Рэспубліканскай Рады ТБМ, прымеркаванае да 90-х угодкаў БНР. На парадак дня Рады былі вынесены наступныя пытанні:

1. Падрыхтоўка да чарговага Х з'езду ТБМ.

1.1. Вызначэнне даты правядзення з'езду.

1.2. Вызначэнне квотаў на з'езды дэлегатаў ад рэгіянальных структур ТБМ, якія стаяць на ўліку.

1.3. Вызначэнне неабходных дакументаў для рэгістрацыі дэлегатаў і тэрмінаў іх падачы ў сядзібу ТБМ.

2. Абмеркаванне сітуацыі ў сувязі з уступленнем у сілу з 24 красавіка 2008 г. Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, згодна з якім грамадскія арганізацыі пазбаўляюцца льгот на арэндную плату. Прыняцце адпаведнай заявы і пастановы.

3. Аб удзеле ў напісанні агульнацыянальнай дыктоўкі 23 сакавіка 2008 г.

4. Прыняцце закліку Рады ТБМ з нагоды 90-х угодкаў абвяш-

чэння БНР.

Рада прыняла пастанову аб скліканні чарговага X-га з’езду ТБМ.

Рада ТБМ прыняла зварот да кіраўніка Рэспубліканскай камісіі па ўпарадкаванні выкарыстання адміністрацыйных будынкаў, пабудоў, вытворчых плошчаў і іншых аб’ектаў дзяржаўнай уласнасці сп. Мікалая Дамашкевіча з просьбай аб захаванні для галоўнай сядзібы ў г. Менску (вул. Румянцава, 13), а таксама для рэгіянальных структур ТБМ ільготнага каэфіцыента аплаты арэндаванай плошчы (0,1 за 1 кв. метр).

Прынятае рашэнне распачаць збор подпісаў грамадзянаў на імя У. Ф. Дамашкевіча за захаванне льготнага каэфіцыента на аплату арэнды памяшканняў для ТБМ.

**17 сакавіка.** Дыктоўка праведзена ў офісе партыі БНФ (пр. Машэрава, 8).

**19 сакавіка.** Дыктоўку па-беларуску пісалі надзвычайныя і паўнамоцныя паслы Польшчы, Ізраіля і Балгарыі.

**20 сакавіка.** Дыктоўку пісала моладзь БНФ.

**22 сакавіка.** Агульнанацыянальная дыктоўка праведзена ў г. Гародні ў памяшканні Таварыства беларускай школы. У напісанні ўзялі удзел 240 чалавек.

**23 сакавіка.** У Беларусі пісалі агульнанацыянальную дыктоўку, прысвечаную 90-м угодкам БНФ. У г. Менску яна адбылася на сядзібе Партыі БНФ і ў офісе ТБМ – у адпаведнасці з абвешчаным папярэдне графікам (11.00 – Савецкі і Першамайскі раёны Менску; 12.00 – Ленінскі, Цэнтральны, Кастрычніцкі раёны Менску; 13.00 – Маскоўскі і Фрунзенскі раёны Менску; 14.00 – Заводскі, Партызанскі раёны Менску; 15.00-16.00 – Менскі раён і ўсе, хто жадае). На Румянцава, 13 дыктоўка доўжылася цягам дня пры вялікім наплыве людзей. З вядомых асобаў дыктоўку пісалі Анатоль Вярцінскі, Зінаіда Бандарэнка, Аляксандр Фядута, Валер Стралко, Генадзь Бураўкін (разам з жонкай), Сяргей Законнікаў (з усёй сям’ёй). На пачатку Анатоль Вярцінскі прачытаў свой верш, прысвечаны дыктоўцы. Тэксты па чарзе чыталі філолагі Алесь Чэчат, Алена Анісім, Людміла Дзіцэвіч.

Дыктоўка адбылася і ў абласных цэнтрах Беларусі.

У г. Віцебску арганізатары правядзення дыктоўкі да 90-годдзя абвяшчэння БНР атрымалі адмову ў прадстаўленні памяшкання ад дырэктара гарадской бібліятэкі А. Сёмкіна. Дыктоўка пісалася на кватэры Старшыні Віцебскай абласной арганізацыі ТБМ сп. І. Навумчыка.

Сябры Баранавіцкай гарадской арганізацыі ТБМ сабраліся на дыктоўку ў прыватнай кватэры, бо ўлады адмовіліся выдзяліць памяшканне для правядзення мерапрыемства.

**25 сакавіка.** Сябры Лідскай гарадской арганізацыі ГА "ТБМ імя Францішка Скарыны" ўсклалі кветкі да магілы міністра Беларускай Народнай Рэспублікі генерала ад інфантэрыі Кіпрыяна Кандратовіча ў г.п. Воранава.

**26 сакавіка.** Старшыня ТБМ А. А. Трусаў звярнуўся праз газету "Наша слова" ("ТБМ знаходзіцца пад пагрозай") да сяброў Таварыства з нагоды шматразовага падвышэння арэнднай платы за памяшканне з заклікам аб'яднаць намаганні па ўратаванні офіса ТБМ ад закрыцця і самой арганізацыі ад знішчэння. Сабраць неабходную суму грошай на аплату памяшкання магчыма пры ўмове своечасовай аплаты складак усімі сябрамі арганізацыі (ТБМ сёння налічвае болей за 5000 актыўных сяброў) і збору ахвяраванняў. Адначасова сп. Трусаў заклікаў пачынаць збор подпісаў грамадзянаў да адпаведных уладных структур з просьбай уключыць ТБМ у спіс грамадскіх арганізацый, якім Указам Прэзідэнта пакінуты льготны каэфіцыент 0,1 за аплату арэнды памяшканняў. Тут жа надрукаваны падпісны бланк на імя кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Г. М. Нявыгласа.

**30 сакавіка.** У г. Віцебску прайшла 6-я справаздачна-выбарная канферэнцыя абласной арганізацыі ТБМ.

На канферэнцыі быў прыняты план дзейнасці абласной арганізацыі на наступны перыяд, зацверджаны новы склад Рады і яе Старшыня. На гэтую пасаду аднагалосна быў зноў абраны І.А. Навумчык.

Канферэнцыя звярнулася ў аблвыканкам з ініцыятывай усталявання памятнай дошкі Васілю Быкаву на будынку па вул. Суворава, дзе да вайны вучыўся пісьменнік.

Ад імя канферэнцыі накіраваны падзякі кіраўнікам Віцебскай каталіцкай дыяцэзіі за шырокае ўжыванне беларускай мовы ў набажэнствах.

**Пачатак красавіка.** Выйшла кніга сябра рады Лідскай арганізацыі ТБМ Пятра Макарэвіча “Расінкі беларускіх слоў”.

**11 красавіка.** ТБМ атрымала афіцыйны адказ з Рэспубліканскай камісіі па ўпарадкаванні выкарыстання адміністрацыйных будынкаў, збудаванняў, вытворчых плошчаў і іншых аб’ектаў дзяржаўнай уласнасці, падпісаны М. Ф. Дамашкевічам з адмовай на просьбу не павышаць для ТБМ памеры арэнднай платы за памяшканні.

Старшыня камісіі матывуе адмову тым, што Упраўленню справамі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і Рэспубліканскай Камісіі па ўпарадкаванні выкарыстання адміністратыўных будынкаў заканадаўствам не прадстаўлена права скасоўваць і самім усталёўваць паніжальныя каэфіцыенты да базавых ставак арэнднай платы для асобных арандатараў.

**15 красавіка.** Міністэрства фінансаў Рэспублікі Беларусь даслала афіцыйны адказ у сувязі са зваротам сп. М. Булавацкага з абяцаннем забяспечыць вытворчасць бланкаў першасных уліковых дакументаў на платнай аснове па замовах карыстальнікаў як на рускай, так і на беларускай мове ў залежнасці ад іх жадання.

**Красавік – травень**

Пружанская суполка ТБМ арганізавала збор подпісаў грамадзянаў за прысваенне адной з вуліц горада імя Льва Сапегі. Было сабрана каля 140 подпісаў, якія накіравалі мясцовым уладам. Па выніках публічнай дыскусіі камісія райвыканкама прыняла рашэнне прысвоіць імя Льва Сапегі праектаванай вуліцы горада Пружаны.

**23 траўня.** У г. Менску прайшла асамблея “Беларускамоўнае навучанне і выхаванне: нацыянальная бяспека і незалежнасць краіны” прадстаўнікоў грамадскіх аб’яднанняў “Таварыства беларускай школы” і “Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны”.

Абмеркаваўшы дзейнасць адукацыйных устаноў краіны, прадстаўнікі дзвюх арганізацый прынялі “Заяву”, у якой канстатавалі, што апошнія 12 гадоў установы адукацыі вымушаны працаваць ва ўмовах крайняй нестабільнасці, у сувязі з чым Міністэрству адукацыі было рэкамендавана “на працягу года правесці работу для асэнсавання і аналізу сітуацыі, навуковага і эканамічнага абгрунтавання і стварэння новай канцэпцыі развіцця беларускай адукацыі,

угрунтаванай на нацыянальным і сусветным досведзе".

**10 чэрвеня.** На паседжанні Сакратарыята ТБМ прынятая "Заява Сакратарыята ТБМ": "Пашырым ужыванне беларускай мовы у нашых школах".

**18 чэрвеня.** Прымаецца рашэнне аб узнаўленні збору подпісаў "У адпаведнасці з пунктам 2 Указа Прэзідэнта № 533 АД 23.10.2007" да адпаведных уладных органаў з просьбай захаваць для галоўнай і рэгіянальных сядзібаў ТБМ паніжальны каэфіцыент 0,1 за 1 кв. м. на аплату арэнды памяшкання.

**26 чэрвеня.** У г. Менску ў пасольстве Літвы адбылося падвядзенне вынікаў агульнанацыянальнай дыктоўкі па беларускай мове, прысвечанай 90-годдзю абвяшчэння БНР.

Сябар ТБМ, палітолаг Уладзімір Падгол выказаў удзячнасць паслам 11-ці краінаў Еўрасаюзу і ЗША за падтрымку дыктоўкі, дзякуючы чаму акцыя з агульнанацыянальнай сталася міжнароднай, у першую чаргу – еўрапейскай.

Паслам Балгарыі, Польшчы, Літвы, Славакіі, ЗША, Украіны і Чэхіі ўручаныя ганаровыя прызы – копіі Звона Свабоды.

Прызамі за мужнасць адзначаны Сяргей Вітушка (Вільня), актывіст партыі КХП-БНФ Барыс Хамайда (Віцебск), легендарны Мірон, які пісаў дыктоўку на даху жылога дома ў Віцебску. Бібліятэчку беларускіх кніг атрымала ўдзельніца дыктоўкі Яўгенія Дудко (маці А. Казуліна).

**3 жніўня.** На Лідчыне ва ўрочышчы "Крыжы" прайшло набажэнства ў памяць паўстанцаў 1863 года. Над урочышчам лунаў сцяг ТБМ, на набажэнстве прысутнічалі сябры Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ, у тым ліку Станіслаў Суднік, старшыня Бярозаўскай гарадской арганізацыі Сяргей Дычок, старшыні лідскіх суполак ТБМ Кірыл Сыцько, Уладзімір Круцікаў, Уладзімір Хрышчановіч.

**15 – 17 жніўня.** Магілёўская суполка ТБМ прыняла самы чынны ўдзел у падрыхтоўцы і арганізацыі фестывалю сярэднявечнай культуры "Рыцарскі фэст – Мсціслаў 2008", які адбыўся ў Мсціславе 15 – 17 жніўня. Беларуская мова была годна прадстаўлена на фэсце – рэклама, афішы, мова рыцараў і ў значнай меры гасцей фэсту, на краязнаўчай канферэнцыі 15 жніўня, на якой сярод іншых выступіў

ураджэнец г. Мсціслава, кандыдат гістарычных навук, старшыня ТБМ А. А. Трусаў.

**Жнівень**

Праз год пасля таго, як Бабруйская суполка ТБМ звярнулася да гарвыканкама з прапановамі правесці 2008 год пад знакам 200-гадовага юбілея Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, усталяваць у горадзе помнік пісьменніку і назваць яго імем вуліцу, у горадзе з'явілася вуліца Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча. Яна знаходзіцца ў цэнтры Бабруйска і прылягае да касцёла (захаваліся рэшткі), у якім некалі быў ахрышчаны славуты пачынальнік новай беларускай літаратуры.

**21 верасня.** Магілёўская гарадская арганізацыя ТБМ правяла культурна-спартыўнае мерапрыемства "Краіна здароўя", прымеркаванае да года здароўя.

**25 верасня.** У г. Віцебску адкрыта мемарыяльная дошка ў памяць Васіля Быкава. Яна змешчана на будынку Віцебскай мастацкай вучэльні, дзе ў 1939 – 1940 гг. вучыўся будучы празаік. Яшчэ ў 2004 г. аблвыканкам пад ціскам грамадскасці мусіў прыняць да выканання прапановы ТБМ па ўшанаванні на Віцебшчыне памяці пісьменніка-земляка, у тым ліку і прапанову пра ўсталяванне мемарыяльнай дошкі. Чынны ўдзел у цырымоніі адкрыцця мемарыяльнай дошкі прыняў старшыня Віцебскай абласной арганізацыі ТБМ Іосіф Навумчык.

**Верасень – кастрычнік**

Да 685-х угодкаў горада Ліды выйшла анталогія лідскіх літаратараў пра беларускую мову "Шануйце роднае слова". У кнігу ўвайшлі творы 47 лідскіх аўтараў. Укладальнік і рэдактар – Міхась Мельнік, намеснік старшыні Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ, старшыня арганізацыі ТБМ Лідскага каледжа.

Да 685-х угодкаў горада Ліды выйшла кніга паэзіі старшыні Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ Станіслава Судніка "Лідскія скрыжалі".

**1 кастрычніка.** Адбылася справаздачна-выбарчая канферэнцыя арганізацыі ТБМ Лідскага каледжа. На ўліку ў арганізацыі 560 сяброў ТБМ – гэта найбуйнейшая першасная арганізацыя ТБМ Беларусі. На канферэнцыі прысутнічалі каля 50 чалавек, якія прадстаўлялі 25 суполак.

У справаздачным дакладзе былі акрэсленыя асноўныя сферы

дзейнасці і дасягненні арганізацыі. Найбольш эфектыўнай акцыяй быў збор подпісаў за захаванне курса «Беларуская мова. Прафесійная лексіка» ў ВНУ Беларусі. Сабраны некалькі сотняў подпісаў, што паспрыяла захаванню курса. Было адзначана таксама рэгулярнае святкаванне Міжнароднага дня роднай мовы (21 лютага), арганізацыя літаратурных сустрэчаў з беларускімі пісьменнікамі і сустрэча паэтаў каледжа са школьнікамі.

На канферэнцыі абранае новае кіраўніцтва арганізацыі. Старшынём абраны выкладчык каледжа – Міхась Мельнік.

**15 кастрычніка.** У г. Лідзе прайшлі справаздачна-выбарныя канферэнцыі Лідскай раённай і Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ. Старшынямі арганізацый засталіся Станіслаў Суднік і Лявон Анацка.

**19 кастрычніка.** Адбылася справаздачна-выбарчая канферэнцыя Магілёўскага ТБМ. На ёй была прааналізаваная дзейнасць арганізацыі за апошнія 3 гады, вызначаныя прыярытэтныя кірункі далейшай дзейнасці, абраны новы кіраўнічы склад і дэлегаты на Х з’езд ТБМ.

**26 кастрычніка.** У г. Менску ў канферэнц-зале Палацу мастацтваў адбыўся **Х з’езд ТБМ**. На з’езд было абрана 145 дэлегатаў з усіх рэгіёнаў краіны, прысутнічала на з’ездзе 105 дэлегатаў. Яны прадстаўлялі 5393 сябра арганізацыі.

Са справаздачнымі дакладамі выступілі старшыня ТБМ Алег Трусаў і тры намеснікі старшыні – Людміла Дзіцэвіч, Алена Анісім, Сяргей Кручкоў, а таксама старшыня Рэвізійнай камісіі Мікола Лавіцкі і рэдактар газеты «Наша слова» Станіслаў Суднік.

З’езд абраў старшыню ТБМ і чатырох намеснікаў: старшыня – Алег Трусаў; першы намеснік – Людміла Дзіцэвіч; намеснікі старшыні – Алена Анісім, Ірына Марачкіна і Дзяніс Тушынскі.

Абрана Рэспубліканская Рада ў складзе 54 чалавек.

З’езд абраў Рэвізійную камісію ў складзе 5 чалавек (старшыня – Леанарда Мухіна).

Рэдактарам газеты «Наша слова» з’езд зноў абраў Станіслава Судніка.

З’езд прыняў зварот да ўладаў аб неабходнасці ўдасканалення Закона “Аб мовах”, зварот да грамадзянаў Беларусі ў сувязі з перапісам насельніцтва, а таксама зварот з нагоды 600-годдзя Грунвальдскай бітвы ў 2010 г. з заклікам да кіраўніцтва краіны і грамадскіх арганізацый пачынаць падрыхтоўку да святкавання.

**РЭСПУБЛІКАНСКАЯ РАДА
ГА "ТБМ ІМЯ ФРАНЦІШКА СКАРЫНЫ",
абраная на X з'ездзе ТБМ**

1. Аксак Валянціна Іванаўна, Менск
2. Анісім Алена Мікалаеўна, Менск
3. Арлоў Уладзімір Аляксеевіч, Менск
4. Асмакоўская Алена, Магілёў
5. Бабіч Юрый Міхайлавіч, Віцебск
6. Багданкевіч Святлана Мікалаеўна, Менск
7. Баравік Марыя Якаўлеўна, м. Падсвілле, Глыбоц. р-на
8. Бароўскі Анатоль Мікалаевіч, Гомель
9. Баршчэўскі Леанід Пятровіч, Менск
10. Барэль Таццяна Уладзіміраўна, Асіповічы
11. Бураўкін Генадзь Мікалаевіч, Менск
12. Вярцінскі Анатоль Ілліч , Менск
13. Вячорка Вінцук Рыгоравіч, Менск
14. Гарэцкі Радзім Гаўрылавіч, Менск
15. Гілевіч Ніл Сымонавіч, Менск
16. Грыцкевіч Анатоль Пятровіч, Менск
17. Дзіцэвіч Людміла Мікалаеўна, Менск
18. Дзьячкоў Алег Уладзіміравіч, Менск
19. Дымкоў Сяргей Анатолевіч, Менск
20. Завальнюк Уладзіслаў Мацвеевіч, Менск
21. Запрудскі Сяргей Мікалаевіч, Менск
22. Зуёнак Васіль Васільевіч, Менск
23. Іванова Бярнарда Пятроўна, в. Прылукі, Менскага р-на
24. Іпатава Вольга Міхайлаўна, Менск
25. Каласоўскі Юрась Уладзіміравіч, Магілёў
26. Колас Уладзімір Георгіевіч, Менск
27. Краўчанка Пётр Кузьміч, Менск
28. Крук Валянціна Іосіфаўна, Полацк
29. Кручкоў Сяргей Мікалаевіч, Менск
30. Лукашэнка Любоў Яўгенаўна, Віцебск
31. Мазынскі Валер Яўгенавіч, Менск
32. Майсеня Людміла Іосіфаўна, Менск
33. Мальдзіс Адам Восіпавіч, Менск
34. Малаш Юрый Леанідавіч, Менск
35. Марачкін Аляксей Антонавіч, Менск
36. Марачкіна Ірына Сяргееўна, Менск
37. Навумчык Іосіф Адамавіч, Віцебск
38. Панізнік Сяргей Сцяпанавіч, Менск

39. Піскун Людміла Аляксееўна, Калінкавічы
40. Пяткевіч Аляксей Міхайлавіч, Гародня
41. Раманцэвіч Валянціна Карлаўна, Менск
42. Рудзёнак Алег Паўлавіч, Наваполацк
43. Рымша Алесь Георгіевіч, Наваполацк
44.Савіцкі Мікалай Іванавіч, Менск
45. Санько Зміцер Хведаравіч, Менск
46. Содаль Уладзімір Ілліч, Менск
47. Стэпановіч Язэп Міхайлавіч, Менск
48. Суднік Станіслаў Вацлававіч, Ліда
49. Сырыца Віктар Антонавіч, Менск
50. Трусаў Алег Анатольевіч, Менск
51. Тушынскі Дзяніс Міхайлавіч, Менск
52. Цыхун Генадзь Апанасавіч, Менск
53. Чэчат Алесь Віктаравіч, Менск
54. Шыдлоўская Ніна Анатольеўна, Менск

**26 кастрычніка.** Прайшло паседжанне Рэспубліканскай Рады ТБМ. Было прынятае Рашэнне аб святкаванні 20-годдзя ТБМ ў 2009 годзе, зацверджаны склад Сакратарыята ТБМ і рэдакцыйнай калегіі «Нашага слова». Рада ТБМ даручыла Сакратарыяту зацвердзіць рабочую групу па заснаванні яшчэ адной выдавецкай структуры ТБМ.

**24 лістапада.** Шасцёра актывістаў моладзевага дэмакратычнага руху былі дастаўленыя ў міліцыю Першамайскага раёна Менска за тое, што раздавалі мінакам буклеты ў рамках кампаніі «МТС – па-беларуску».

**Лістапад**

На сядзібе ТБМ ў г. Менску адкрылася выстава мастацкіх твораў Тамары Дауд пад назвай «Мая любімая Беларусь». Выстава арганізавана Менскай абласной арганізацыяй ТБМ у рамках кампаніі «Будзьма».

Лідская моладзь ТБМ пачала выданне лістка “Прадмова”. Рэдактар -- сябар Лідскай гарадской рады ГА “ТБМ імя Францішка Скарыны” Кірыл Сыцько. Наклад -- 299 ас.

Створаны сайт Лідскай гарадской арганізацыі ГА “ТБМ імя Францішка Скарыны” tbmlida.byhost.org. На сайце ў рэжыме pdf выстаўляецца газета “Наша слова”. Адміністратар сайта сябар рады Лідскай гарадской арганізацыі ГА “ТБМ імя Францішка Скарыны” Кірыл Сыцько.

**Снежань**

Сябры ТБМ Алег Трусаў (старшыня ТБМ), Вінцук Вячорка, Пётра Садоўскі, Лявон Баршчэўскі прынялі ўдзел у круглым стале, прысвечаным абароне беларускай мовы як каштоўнасці. Прысутныя на ім навукоўцы і палітыкі абмеркавалі два асноўныя пытанні:

1. Укладанне праекта закона пра абарону і дзяржаўную падтрымку беларускай мовы.

2. Заўвагі і прапановы да моўнай часткі перапісу насельніцтва 2009 года.

Вырашана стварыць экспертную групу для маніторынгу перапісу і для падрыхтоўкі законапраекта. Прынятыя Ухвалы Круглага стала па кожным з пытанняў.

Віцебская абласная рада ТБМ прыняла пастанову аб абласным аглядзе-конкурсе ўжывання беларускай мовы ў мясцовым друку. Абласная рада звярнулася да старшыні аблвыканкаму А.М. Касінца па пытаннях пашырэння ўжывання беларускай мовы і пытаннях падрыхтоўкі да 85-годдзя Васіля Быкава.

**На працягу года**

На сядзібе ТБМ у г. Менску і ў адукацыйных установах горада праходзілі лекцыі і літаратурныя сустрэчы з вядомымі дзеячамі беларускай культуры – Вольгай Іпатавай, Леанідам Дранько-Майсюком, Уладзімірам Арловым, Андрэем Федарэнкам, Уладзімірам Някляевым, Анатолем Вярцінскім, Сяргеем Закон-нікавым, Лявонам Баршчэўскім, Эдуардам Акуліным, Антанінай Хатэнка, Уладзімірам Содалем, Марыяй Міцкевіч і інш.

# 2009 год

**Пачатак студзеня.** У сваім навагоднім нумары газета “Звязда” абвясціла ў рэдакцыі 2009 год Годам роднай мовы. “Звязда” пачала друкаваць вострыя матэрыялы , чытацкія лісты, дзе аналізаваліся розныя аспекты моўнай праблемы ў краіне.

**З пачатку студзеня** Лідская гарадская арганізацыя ТБМ імя Францішка Скарыны пачала шырокамаштабную кампанію па адкрыцці ў горадзе Лідзе першых беларускамоўных класаў, якіх тут ужо няма пяць гадоў.

**10 студзеня.** На імя старшыні ТБМ А. А. Трусава прыйшоў афіцыйны адказ з Нацыянальнага цэнтра Заканадаўства і прававых даследаванняў Рэспублікі Беларусь і Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь на зварот аб унясенні змяненняў у Закон "Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь". У лістах паведамляецца, што гэтае пытанне будзе разгледжана пры фармаванні плана падрыхтоўкі законапрпаектаў на 2010 г. Таксама ў адказах адзначаецца, што развязванне дадзенага пытання патрабуе дадатковых фінансавых выдаткаў, пайсці на якія ў бліжэйшы час не ўяўляецца магчымым.

**15 студзеня.** На імя старшыні ТБМ А. А. Трусава прыйшоў афіцыйны адказ з Міністэрства адукацыі РБ на зварот ТБМ назваць афіцыйныя лічбы беларускамоўных школ у нашай краіне і колькасць вучняў, што навучаюцца па-беларуску. У лісце прыводзяцца наступныя лічбы: у 2008-2009-ым годзе навучання па-беларуску навучаюцца 195 592 вучні (18,4 %), а па-руску – 792 535 вучняў (74,4 %), прычым беларускамоўных школ у нашай краіне 1979 (53,9 %) (у асноўным на вёсцы, дзе ў адной школе можа навучацца менш за сто чалавек), рускамоўных школ – 1535 (41,8 %). Таксама ў лісце паведамляецца, што "ў параўнанні з 2007-2008-ым годам навучання колькасць беларускамоўных устаноў зменшылася на 1,7 %". У лісце падкрэсліваецца, што "вызначэнне статусу школ або класаў па мове навучання здзяйсняецца па рашэнні мясцовых выканаўчых і распарадчых органаў з улікам пажаданняў вучняў ці іх законных прадстаўнікоў".

У межах агульнанацыянальнай культурнай кампаніі "Будзьма" на сядзібе ТБМ творчая суполка "Пагоня" Беларускага саюза мастакоў прэзентавала выставу жывапісу і графікі Наталлі Белавокай і Ганны Раманоўскай. Выстава карысталася вялікім поспехам і працягвалася да 10 красавіка.

**18 студзеня.** Адбылося паседжанне Рады ТБМ, на якім заслухалі справаздачу старшыні ТБМ А. А. Трусава за 2008 год. На паседжанні быў зацверджаны план дзейнасці на 2009 год, была прынята заява "Аб вяртанні дзяржаўнай беларускай мовы на экраны Беларускага тэлебачання": 1) у перадачах на дзяржаўным тэлебачанні Беларусі беларуская мова павінна гучаць не менш за палову эфірнага часу; 2) неабходна распрацаваць Закон пра абарону і пашырэнне беларускай мовы і прыняць яго да пачатку дзеяння новых арфаграфічных правіл.

Рада таксама разгледзела пытанне "Аб заснаванні рэдакцыйна-выдавецкай установы "Вераснянка" і заснаванні літаратурнага часо-

піса “Верасень”. Была прынята адпаведная пастанова. Такім чынам, 18 студзеня 2009 г. быў заснаваны яшчэ адзін беларускі літаратурны часопіс, скіраваны на моладзевую аўдыторыю.

**27 студзеня.** Адбылася сустрэча старшыні ТБМ А. А. Трусава з старшынём Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Беларусі А. Зімоўскім. Сустрэча адбылася па прапанове старшыні ТБМ у сувязі з заявай Рады ТБМ “Аб вяртанні дзяржаўнай мовы на экраны Беларускага тэлебачання”.

Пад час размовы былі разгледжаны наступныя прапановы ТБМ кіраўніцтву Белдзяржтэлерадыёкампаніі па пашырэнні беларускай мовы: 1) першы нацыянальны канал Беларускага тэлебачання цалкам зрабіць беларускамоўным (у перспектыве); 2) беларускамоўную рэкламу даваць па крыху меншым кошце за рускамоўную; 3) заснаваць перадачу “Гаворым па-беларуску” (10-15 хвілін); 4) стварыць цыкл перадач на беларускай мове на гістарычную тэматыку. Першы цыкл прысвяціць 600-годдзю перамогі беларусаў у Грунвальдскай бітве. Асвяціць гісторыю гарадоў, харугвы якіх былі на полі бітвы; 5) сумесна з Інстытутам мовы і літаратуры НАН Беларусі зрабіць перадачу, прысвечаную 10-м угодкам Міжнароднага дня роднай мовы, заснаванага па рашэнні ЮНЕСКА; 6) раз на месяц ладзіць на тэлебачанні тэматычныя “круглыя сталы” па пытаннях беларускай мовы, культуры з удзелам грамадскіх арганізацый (Таварыства беларускай мовы, Таварыства беларускай школы, МГА “Згуртаванне беларусаў свету “Бацькаўшчына” і іншымі); 7) аднавіць дубліраванне замежных фільмаў на беларускую мову з далейшым паказам на Беларускім тэлебачанні (як гэта робіцца на тэлеканале “Белсат”).

Згода адразу была атрымана па пунктах 3-7. Першы і другі пункты, на думку сп. Зімоўскага, патрабуюць асобнага разгляду. Размова з абодвух бакоў адбывалася на дзяржаўнай беларускай мове. Сп. Зімоўскі таксама паабяцаў аформіць па-беларуску частку сувеніраў тэлерадыёкампаніі.

**28 студзеня.** Праз газету “Наша слова” Рада ТБМ звярнулася да грамадзянаў Беларусі з заявай, звязанай з чарговым перапісам насельніцтва, які пройдзе з 14 па 29 кастрычніка 2009 г. У сувязі з перапісам Рада ТБМ заклікае грамадзян да актыўнага ўдзелу ў гэтай падзеі. ТБМ звяртае ўвагу ўладаў на адсутнасць беларускамоўных бланкаў і іншых дакументаў, якія непасрэдна звязаны з перапісам.

**4 лютага.** Праз газету “Наша слова” Рада ТБМ звярнулася да

грамадзянаў Беларусі з заявай “Паступовая ліквідацыя адукацыі на беларускай мове – пагроза для нацыянальнай бяспекі краіны”.

**13 лютага.** На імя старшыні ТБМ А. А. Трусава прыйшоў афіцыйны адказ з Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь на зварот аб прапанове перавыдаць энцыклапедыю “Беларуская мова” і аб прапанове выдання розных відаў календароў на беларускай мове. У лісце паведамляецца, што адрыўны каляндар “Родны край” на 2010 г. уключаны ў план выпуску выдавецтва “Беларусь”. Астатнія прапановы будуць разглядацца ў далейшым.

**18 лютага.** Праз газету “Наша слова” Рада ТБМ звярнулася да грамадзянаў Рэспублікі Беларусь з заклікам далучацца да ініцыятыў і акцый ТБМ: 1) удзельнічаць у зборы подпісаў за пашырэнне ужывання беларускай мовы ў сферы мабільнай сувязі; 2) падтрымліваць беларускамоўныя СМІ; 3) размаўляць паўсюль па-беларуску; 4) перадаваць любоў і пашану да роднай мовы сваім дзецям і ўнукам; 5) прыняць актыўны ўдзел у ІІ Агульнанацыянальнай беларускай дыктоўцы (21 лютага, 15 і 25 сакавіка).

**20 лютага.** На беларускім інтэрнэтпартале TUT.BY адбыўся форум з удзелам старшыні ТБМ А. А. Трусава. Форум засведчыў, што стан беларускай мовы хвалюе сёння многіх грамадзян нашай краіны. Карыстальнікі парталу не толькі задавалі пытанні, але і ўступалі ў дыскусію пра лёс беларускай мовы.

**21 лютага.** Да Міжнароднага дня роднай мовы з ініцыятывы і стараннямі сяброў клуба “Спадчына” ў Інтэрнэце з’явіўся новы беларускамоўны сайт rodnamova.narod.ru, які змяшчае наступныя раздзелы: “Словы пра родную мову”, “Катэхізіс навукі аб беларускай мове”, “Любіць Радзіму – шанаваць родную мову” і іншыя.

У сталічным Палацы мастацтваў ТБМ зладзіла ўрачыстае паседжанне, прысвечанае 10-годдзю Міжнароднага дня роднай мовы. Ва ўступным слове намеснік старшыні ТБМ Алена Анісім распавяла пра тое, як і калі гэтая дата стала вядомай на Беларусі, і як ТБМ спрычынілася да пашырэння святкавання Дня роднай мовы ў нашай краіне.

Былі ўшанаваныя руплівцы беларушчыны ў трох намінацыях. У першай – “За адраджэнне і пашырэнне беларускай мовы ў духоўным і грамадскім жыцці краіны” адмысловыя Падзякі атрымалі Аляксей Кароль, Уладзімір Колас, Уладзімір Содаль, Уладзіслаў Завальнюк, Лявон Баршчэўскі, Арсень Ліс і іншыя.

У другой намінацыі “За шматгадовую папулярызацыю беларускай мовы” ўзнагароджаныя амбасадар Швецыі Стэфан Эрыксан, амбасадар Украіны Ігар Ліхавы і шэраг іншых.

У трэцяй намінацыі “За спрыянне міжнароднаму прэстыжу беларускай мовы” адзначаныя Падзякай амбасадар Літвы Эдмінас Багдонас і амбасадар Польшчы Хенрык Літвін.

Вельмі разнастайнай і цікавай была канцэртная праграма вечарыны.

Распачаты I этап II Агульнанацыянальнай беларускай дыктоўкі. Для напісання быў абраны тэкст “Родная мова” паводле Ул. Караткевіча.

II Агульнанацыянальную беларускую дыктоўку пісалі на цэнтральнай сядзібе ТБМ у г. Менску. У акцыі ўзялі ўдзел амбасадары Украіны і Швецыі, журналісты, навукоўцы, выкладчыкі ВНУ, студэнты, вучні.

I этап II Агульнанацыянальнай дыктоўкі адбыўся ў розных установах г. Віцебска.

Міжнародны дзень роднай мовы ў г. Магілёве адзначылі напісаннем дыктоўкі. Арганізатарамі мерапрыемства выступілі клуб “Натхненне” пры Палацы культуры вобласці і Магілёўская гарадская арганізацыя ТБМ. У Палац прыйшло каля 50-ці магілёўцаў, якія ўдзельнічалі ў акцыі.

У г. Бярозаўцы Лідскага раёна II Агульнанацыянальную беларускую дыктоўку пісалі ў чытальнай зале гарадской бібліятэкі. Удзел узялі 10 чалавек. Зала была выдзелена рашэннем аддзела культуры Лідскага райвыканкама.

II Агульнанацыянальную беларускую дыктоўку пісалі ў мястэчках Камелішкі і Рытань Астравецкага раёна. У акцыі ўдзельнічала 75 чалавек.

У в. Дварэц Дзятлаўскага раёна сябры гісторыка-патрыятычнага клуба “Спадчына” зладзілі напісанне дыктоўкі.

Дыктоўку пісалі ў г. Варшаве ў Палацы культуры і навукі. У ёй узялі ўдзел беларусы, якія жывуць і вучацца ў Польшчы. Усяго каля 50-ці чалавек, у тым ліку былы амбасадар Польшчы ў Беларусі Марыюш Машкевіч з жонкай ды прафесары Варшаўскага універсітэта.

Некалькі неабыякавых да лёсу беларускага слова чалавек пісалі II Агульнанацыянальную беларускую дыктоўку ў г. Рыме (Італія).

**22 лютага.** II Агульнанацыянальную беларускую дыктоўку пісалі ў г. Лідзе. Пад мерапрыемства была выдзелена чытальная зала Цэнтральнай бібліятэкі імя Я. Купалы. Сабралася 22 удзельнікі.

Дыктоўку чытаў выдатнік адукацыі Рэспублікі Беларусь, намеснік старшыні Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ, старшыня ТБМ Лідскага каледжа Міхась Мельнік.

**15 сакавіка.** Распачаты II этап II Агульнанацыянальнай беларускай дыктоўкі. Тэкст – "Родная мова" паводле Ул. Караткевіча.

У г. Менску дзве плыні пісалі дыктоўку ў сядзібе ТБМ і адна – у беларускім ПЭН-цэнтры. Усяго ў акцыі ўдзельнічала каля сотні чалавек.

У г. Наваполацку II Агульнанацыянальную дыктоўку пісалі ў Наваполацкім офісе ТБМ.

II Агульнанацыянальную беларускую дыктоўку (II этап) пісалі ў в. Дварэц Дзятлаўскага раёна сябры клуба "Спадчына".

**16 сакавіка.** На імя старшыні ТБМ А. А. Трусава прыйшоў афіцыйны адказ з Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь на зварот ТБМ аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь ад 26 студзеня 1990 г. "Аб мовах у РБ" з мэтай замацавання дадатковых гарантый роўнасці дзяржаўных моў. У лісце паведамляецца, што дадзены зварот разгледжаны і праводзіцца праца па гэтым пытанні. Нацыянальны цэнтр Заканадаўства і прававых даследаванняў у Рэспубліцы Беларусь просіць дасылаць усю магчымую інфармацыю па аналагічных прававых актах у іншых дзяржавах, дзе афіцыйна замацаваны некалькі дзяржаўных моваў.

**17 сакавіка.** У офісе інфармацыйнай кампаніі БелаПАН пісалі II этап II Агульнанацыянальнай беларускай дыктоўкі 10 замежных дыпламатаў. Сярод удзельнікаў – амбасадары Вялікабрытаніі, Вугоршчыны, Літвы, Польшчы, Славакіі, Украіны, Швецыі, часовыя паверанныя ў справах ЗША і Чэхіі ды іншыя.

**18 сакавіка**. У газеце "Наша слова" была надрукавана інфармацыя аб першых кроках да ажыццяўлення дамоўленасцяў, заключаных паміж кіраўніцтвам Белтэлерадыёкампаніі з ТБМ. Белтэлерадыёкампанія прыступіла да вытворчасці цыкла перадач, прысвечанага 600-годдзю перамогі беларусаў у складзе войска Вялікага Княства Літоўскага ў Грундвальдскай бітве.

**21 сакавіка.** У сядзібе ТБМ дзесяткі менчукоў пісалі II Агульнанацыянальную беларускую дыктоўку, каб праверыць свае веды па беларускай мове.

**22 сакавіка.** У Гародні каля 200 чалавек пісалі ІІ Агульнанацыянальную дыктоўку.

З ІІ Агульнанацыянальнай дыктоўкай пачалі святкаванне Дня Волі ў парафіі БАПУ на Украіне. У дыктоўцы ўзялі ўдзел 23 праваслаўныя беларусы з г. Львова і Львоўскай вобласці.

**24 сакавіка.** Распачаты ІІІ этап ІІ Агульнанацыянальнай беларускай дыктоўкі. Тэкст – "Родная мова" паводле Ул. Караткевіча.

Суполка "Рубон" Наваполацкай гарадской арганізацыі ТБМ сумесна з бібліятэкай імя Якуба Коласа ў г. Наваполацку зладзілі творчую сустрэчу з найлепшымі літаратарамі Віцебшчыны і напісанне дыктоўкі.

У г. Слоніме была праведзена Агульнанацыянальная дыктоўка. У акцыі прыняло ўдзел больш за 20 чалавек.

**25 сакавіка.** ІІІ этап ІІ Агульнанацыянальнай беларускай дыктоўкі пісалі у сядзібе БНФ у г. Менску. Дыктоўку чытаў старшыня Партыі БНФ Лявон Баршчэўскі.

Студэнты Менскага дзяржаўнага вышэйшага радыётэхнічнага каледжа пісалі дыктоўку паводле Ул. Караткевіча "Легенда пра тое, як Бог народы землямі надзяляў".

Дыктоўку пісалі ў менскім касцёле Святых Алены і Сымона вядомыя пісьменнікі і прыхаджане касцёла.

У розных аўдыторыях г. Віцебска праходзіў ІІІ этап ІІ Агульнанацыянальнай дыктоўкі.

ІІ Агульнанацыянальную беларускую дыктоўку (ІІІ этап) пісалі ў в. Дварэц Дзятлаўскага раёна сябры клуба "Спадчына". Удзельнічала 12 чалавек.

У мястэчках Івацэвічы і Масты школьнікі і дарослыя ўдзельнічалі ў напісанні Агульнанацыянальнай дыктоўкі.

У 2-ім Агульнаадукацыйным ліцэі з беларускай мовай навучання імя Б. Тарашкевіча ў Бельску Падляскім (Польшча) была праведзена ІІ Агульнанацыянальная беларуская дыктоўка. У ёй прынялі ўдзел 95 навучэнцаў.

Беларусы Канады напісаннем ІІ Агульнанацыянальнай дыктоўкі адзначылі 91-ыя ўгодкі абвяшчэння БНР.

Грамадскія дзеячы і дыпламаты пісалі дыктоўку ў г. Бруселі (Бельгія).

Сябры Лідскай гарадской арганізацыі імя Францішка Скарыны ўсклалі кветкі да магілы міністра Беларускай Народнай Рэспублікі, генерала ад інфантэрыі Кіпрыяна Кандратовіча, якая знаходзіцца ў г.п. Воранава.

**9 красавіка.** На імя старшыні ТБМ А. А. Трусава прыйшоў афіцыйны адказ з Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь на зварот аб прапанове перавыдаць энцыклапедыю "Беларуская мова". У лісце паведамляецца, што выдавецтва "Беларуская Энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі мяркуе ўключыць у перспектыўны план выдавецтва на 2012-2013 гг. дапрацаванае перавыданне гэтай энцыклапедыі.

**21 красавіка.** У межах агульнанацыянальнай культурнай кампаніі "Будзьма" на сядзібе ТБМ адбылася прэзентацыя фотавыставы "Так бачу свет" сябра ТБМ Міколы Лінніка.

**27 красавіка.** На імя старшыні ТБМ А. А. Трусава прыйшоў афіцыйны адказ з Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь на зварот аб прапанове стварэння беларускамоўнага дзяржаўнага тэлеканала. У лісце паведамляецца, што "ва ўмовах сусветнага фінансава-эканамічнага крызісу ставіць пытанне аб стварэнні новага канала – заўчасна", тым больш, што "ў краіне 5 агульнанацыянальных тэлеканалаў, на якіх паказваюцца ў тым ліку і беларускамоўныя праграмы".

**29 красавіка.** Праз газету "Наша слова" Сакратарыят ТБМ звярнуўся да грамадскасці г. Магілёва з заклікам адрадзіць беларускае школьніцтва ў г. Магілёве.

**27 траўня.** Праз газету "Наша слова" Сакратарыят ТБМ звярнуўся да грамадскасці краіны з заклікам "Выбіраем родную мову дзеля нашай будучыні".

**Травень**

Віцебская абласная рада ТБМ падвяла вынікі агляду-конкурсу ўжывання беларускай мовы мясцовым друкам, арганізавала ўзнагароджанне газет-пераможцаў і 30 журналістаў мясцовага друку, якія пішуць па-беларуску.

Праведзена сустрэча сяброў Віцебскай абласной арганізацыі ТБМ і чытачоў з пісьменнікамі Алесем Пашкевічам і Барысам Пятровічам. У сустрэчы ўзяла ўдзел І.М. Быкава -- жонка пісьменніка.

**3 чэрвеня.** Праз газету "Наша слова" ТБМ паведаміла пра стварэнне юрыдычнай школы "Ведаем свае правы". Навучанне ў школе запланавана ў 2 этапы. 1-ы этап – тэарэтычны (чэрвень 2009

г.), 2-і этап – практычны (верасень 2009 г.).

**12 чэрвеня.** Віцебская абласная рада ТБМ сумесна з абласной бібліятэкай, абласным аддзяленнем Саюза беларускіх пісьменнікаў праведзена вечарына, прысвечаная 85-годдзю В.У. Быкава. На вечарыну быў запрошаны доктар філалагічных навук, прафесар Міхась Тычына.

**19 чэрвеня.** Віцебская абласная рада ТБМ правяла ў в. Бычкі імпрэзу, прысвечаную 85-годдзю Васіля Быкава. На імпрэзе прысутнічалі і выступілі: народны паэт Беларусі Рыгор Барадулін, акадэмік Радзім Гарэцкі, народная артыстка Беларусі Зінаіда Бандарэнка, пісьменнік Уладзімір Арлоў, мастак Алесь Пушкін і іншыя.

На імя старшыні ТБМ А. А. Трусава прыйшоў афіцыйны адказ з Нацыянальнага цэнтра Заканадаўства і прававых даследаванняў і Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь на зварот аб унясенні змяненняў у Закон “Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь”. У лісце Нацыянальны цэнтр Заканадаўства выказвае шчырую падзяку ТБМ за прадстаўленыя матэрыялы па ўдасканаленні заканадаўства аб мовах у Рэспубліцы Беларусь. Таксама ў лісце паведамляецца, што разглядаецца магчымасць уключэння ў план падрыхтоўкі законапраектаў на 2010 год пытання па ўдасканаленні заканадаўства аб мовах у Рэспубліцы Беларусь.

**24 чэрвеня.** Праз газету “Наша слова” Сакратарыят ТБМ звярнуўся да грамадскасці з пастановай “ТБМ – 20 гадоў”. У пастанове паведамляецца, што з нагоды 20-годдзя ТБМ, заснаванага 27 чэрвеня 1989 г. у г. Менску, плануецца шэраг разнастайных урачыстых мерапрыемстваў.

**26 чэрвеня**. Адбылася прэсавая канферэнцыя ў сядзібе ТБМ з нагоды 20-годдзя арганізацыі.

Быў зарэгістраваны новы літаратурны часопіс “Верасень”. Рэдактар Кацярына Маркоўская. Выконваючы даручэнне апошняга з’езду ТБМ, 18 студзеня 2009 г. Рада ТБМ заснавала Рэдакцыйна-выдавецкую установу “Вераснянка” і зацвердзіла яе статут; Рада заснавала літаратурны часопіс “Верасень”.

**У чэрвені**

203 прадстаўнікі грамадскай ініцыятывы “Інстытут нацыянальнай памяці” звярнуліся да кіраўніцтва Беларусі ў сувязі з унясеннем на пачатку 2009 года беларускай мовы ў атлас ЮНЭСКА

“Мовы свету ў небяспецы”.

Сярод падпісантаў звароту каардынатар грамадскай ініцыятывы пісьменьнік Васіль Якавенка, акадэмікі Яўген Бабосаў, Аляксандар Вайтовіч, Радзім Гарэцкі, Генадзь Лыч, Пётр Нікіценка, Іван Гайшун, Уладзімір Гніламёдаў і Міхаіл Касцюк, член-карэспандэнты НАН Сцяпан Ляўшун, Леанід Яўменаў, Міхась Мушынскі і Мікалай Крукоўскі, народны паэт Рыгор Барадулін, народныя мастакі Леў Гумілеўскі, Арлен Кашкурэвіч, Уладзімір Стальмашонак, Васіль Шаранговіч і Леанід Шчамялёў, народныя артысты Зінаіда Бандарэнка, Валянціна Гаявая, Міхаіл Дрынеўскі і Міхаіл Казінец, старшыня ГА “ТБМ імя Ф. Скарыны” Алег Трусаў...

Зварот накіраваны на адрас Прэзідэнта краіны Аляксандра Лукашэнкі, кіраўнікоў заканадаўчай і выканаўчай галін улады, Барыса Батуры, Уладзіміра Андрэйчанкі, Сяргея Сідорскага, міністраў, а таксама скіраваны да ўсіх грамадзян Беларусі.

Акрамя старшыні Зварот падпісалі многія сябры ТБМ.

## Беларуская мова ў небяспецы

“На пачатку 2009 года Арганізацыя Аб’яднаных Нацый па пытаннях адукацыі, навукі і культуры – ЮНЕСКА аднесла мову беларусаў да моў, якія апынуліся пад пагрозай поўнага знікнення. Спецыялісты ЮНЕСКА склалі свайго роду Чырвоную Кнігу – атлас “Мовы свету ў небяспецы”, куды трапіла і беларуская мова.

Выміранне моў на нашай планеце – вядомая і сумная гісторыя. Знікалі яны, як правіла, разам з народамі ў выніку правядзення палітыкі генацыду з боку featureрознага роду захопнікаў. У сучасным свеце мовы нярэдка аказваюцца ў палоне масавай культуры, працэсаў глабалізацыі, інтэнсіўнай міграцыі насельніцтва. І ёсць нямала прыкладаў, калі разам з мовай знікае нацыя і дзяржава.

У выступленнях палітыкаў нашай краіны неаднойчы сцвярджалася, што найбольшым дасягненнем Беларусі апошняга часу з’яўляецца пабудова незалежнай дзяржавы. Пра самастойную і незалежную нацыянальную дзяржаву, якая б займала пачэснае месца сярод іншых народаў, марылі акурат лепшыя сыны Беларусі, змагары за яе шчасце. Яны разумелі неабходнасць развіцця і падтрымкі беларускай мовы і культуры, без чаго немагчыма паўнацэннае самавызначэнне народа і яго суверэнітэт.

Беларусь з’яўляецца адзінай у свеце краінай, якая не мае вышэйшай адукацыі на мове тытульнай нацыі, рэдкія чыноўнікі карыстаюцца ёю ў сваёй штодзённай практыцы. І гэта ў той час,

калі ў асноўным законе – Канстытуцыі краіны ясна запісана, што беларуская мова – мова дзяржаўная. Занядбанне ж роднай мовы – ці то адбываецца яно з блаславення ўлад, ці неяк стыхійна – падрывае асновы бяспекі дзяржавы.

Прыняты ў 2008 годзе Закон "Аб правілах беларускай арфаграфіі і пунктуацыі" засведчыў пра клопат некаторых уладных установаў аб функцыянаванні роднай мовы, але ён будзе нічога не варты, калі дзяржава і ўсе грамадзяне не спыняць працэс свядомай дэбеларусізацыі жыцця. У яго спыненні зарука не толькі ўсіх далейшых поспехаў суверэннай краіны, але і аснова выжывання нашай супольнасці – беларускага народа.

Таму мы з трывогай у сэрцы звяртаемся да кожнага беларуса: **"Шаноўны, што ты можаш зрабіць, каб жыла і развівалася ў кожнай сям'і і ў роднай краіне дзяржаўная беларуская мова?"**

Найперш мы звяртаемся да гаранта Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь; дазвольце, Аляксандр Рыгоравіч, паставіць перад Вамі пытанні.

Яшчэ ў памяці многіх змест Вашай гутаркі з карэспандэнтам Брытанскага інфармацыйнага агенцтва "Рэйтар на пачатку 2007 года, калі Вы акрэслілі наяўнасць знешняй небяспекі для Беларусі. Але ж беспрэцэдэнтны факт занясення беларускай мовы ў атлас вымі-раючых моў – востры сігнал акурат пра небяспеку для суверэнітэту нашай краіны знутры. Бо, калі знікае мова страчваюцца і духоўныя арыенціры, народ перараджаецца, краіна больш не адпавядае сваёй назве, гібее і гіне.

Мы спадзяемся на Ваша разуменне і зацікаўленасць прадметам размовы. Мы спадзяемся, што Вы не дапусціце знік-нення Беларусі з палітычнай карты свету, і адсюль пытанне:

- Ці не паставілі б Вы перад дзяржаўнымі службамі задачу распрацаваць больш годную нацыянальную палітыку дзеля захавання і развіцця духоўных набыткаў народа?

Калі на тое, нам было б прыемна ўсведамляць, што Вы, якога шмат хто лічыць актыўным і дзейсным палітыкам у гаспадаранні, эканоміцы, можаце яскрава сябе паказаць і ў галіне нацыянальнай культуры, якая цяпер у стане глыбокага крызісу, таму:

- Ці не маглі б Вы падаць асабісты прыклад – вярнуцца да практыкі ўжывання роднай мовы ў дні ўсенародных урачыстасцяў і ў дакладах па найбольш важных праблемах нацыянальнага жыцця?

Наша родная мова яшчэ не згублена, бо захоўваюцца яе карані ў народзе, яшчэ жывая, так бы мовіць, грыбніца, гатовая прыняць шчыры клопат і ласку ад дзяржавы, каб адрадзіцца, ачысціц-

ца і пайсці ў рост. Але ж, не сакрэт, шмат хто баіцца размаўляць на роднай мове, асабліва ў дзяржаўных структурах, таму:

- Ці не знялі б Вы ганебнае таўро ненадзейнага чалавека, альбо яшчэ горш "апазіцыянера" з тых грамадзян, якія ведаюць беларускую мову і з задавальненнем карысталіся б ёю, калі б не баяліся, што іх залічаць у ворагі афіцыйнага курсу?

У гэтай жа сувязі:

- Ці не паставілі б Вы перад дыпламатычным корпусам і супрацоўнікамі афіцыйных сродкаў масавай інфармацыі задачу: выглядаць больш карэктна і весці размову па-беларуску, асабліва калі замежныя дыпламаты ці госці краіны звяртаюцца да іх на беларускай мове?

І тут жа, калі на тое будзе Ваша ласка:

- Ці не парэкамендавалі б Вы арганізацыі БРСМ, дзейнасць якой фінансуецца дзяржавай, больш актыўна выхоўваць патрыётаў нацыянальнай культуры, вывучаць несфальсіфікаваную гісторыю Беларусі, шанаваць і ўжываць у сваім асяродку дзяржаўную беларускую мову? Гэта б садзейнічала пераадоленню сярод пэўнай часткі моладзі нацыянальнага нігілізму.

Мы звяртаемся да заканадаўчай улады – кіраўнікоў Савета Рэспублікі і Палаты прадстаўнікоў – Барыса Батуры і Уладзіміра Андрэйчанкі, да членаў і дэпутатаў гэтых устаноў:

- Паважаныя, ці не наважыліся б Вы рыхтаваць і прымаць законы на дзвюх дзяржаўных мовах, як гэта робіцца ва ўсіх краінах, у якіх дзве дзяржаўныя мовы? Тым самым Вы ліквідавалі б поўную дыскрымінацыю дзяржаўнай беларускай мовы ў заканадаўчай сферы.

І яшчэ, калі пойдзе на добры лад:

- Ці не палічылі б Вы за свой гонар прыняць дапаўненне да Закона аб дзяржаўнай службе, унёсшы ў яго патрабаванне, каб усе дзяржаўныя служачыя ведалі абедзве дзяржаўныя мовы, як гэта мае месца ва ўсіх краінах

Цяпер мы звяртаемся да Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь і асабіста кіраўніка ўрада Сяргея Сідорскага:

- Сяргей Сяргеевіч, пагадзіцеся, што ацэнка экспертамі ЮНЕСКА стану нашай мовы з'яўляецца прысудам ураду і кіруючым уладам краіны на розных узроўнях. То ці не наспеў час прыняць стратэгічна важныя для краіны і нацыі рашэнні аб сістэмнай беларускамоўнай адукацыі і пераўтварэнні ў бліжэйшы час пакуль хоць аднаго з універсітэтаў у нацыянальны па духу і мове навучання

альбо адкрыцці новага паўнавартаснага беларускага універсітэта, чым паслаблялася б вастрыня дыскрымінацыі карэннага насельніцтва, якое складае звыш 80 працэнтаў ад агульнай колькасці жыхароў краіны? Вам напэўна вядома, што кіраўнікі Мінадукацыі не бачаць неабходнасці ў сістэмнай беларускамоўнай асвеце, якая пачынаецца з дзіцячых садоў і заканчваецца універсітэтамі. Такі ход падзей задавальняе міністэрскіх касмапалітаў і русіфікатараў, пры якіх, дарэчы, моцна ўпаў прэстыж запалоханага, загнанага безліччу справаздачных папер настаўніка; але ж беларускаму ўраду ў падобным выпадку зробіць гонар іншая, па-сапраўднаму нацыянальная палітыка.

Як на нашу думку, наспеў час вярнуць значна скарочаныя гадзіны на выкладанне беларускай гісторыі, мовы і літаратуры, аднавіць практыку большага матэрыяльнага заахвочвання настаўнікаў роднай мовы і літаратуры.

З другога боку, дзяржаўных службоўцаў чакае зусім закінутае поле нацыянальнай рупнасці па прапагандзе лепшых узораў беларускай мастацкай літаратуры, арганізацыі іх перакладу на іншыя мовы свету, шчыры клопат пра спадчыну, адраджэнне парушанай і занядбанай тапаніміі, узяцце пад прававую ахову помнікаў фальклору, як і перавыданне ды прапаганда сярод студэнтаў і школьнікаў яскравых помнікаў літаратуры і мовы.

Нарэшце, мы чакаем, што Вамі, кіраўніком урада, будзе зняты перакос у дачыненні да пісьменніцкіх саюзаў і што будуць адчынены дзверы дзяржаўных выдавецтваў, часопісаў, газет, радыё і тэлебачання для літаратараў з Саюза беларускіх пісьменнікаў, нароўні з тымі, хто карыстаецца падтрымкай дзяржаўных структур і ўсё гэта мае. У пісьменніцкай арганізацыі, створанай у 1934 годзе, свае шматгадовыя традыцыі, сусветна прызнаныя майстры, таленавітыя сучасныя пісьменнікі, якія сумленна працуюць у імя славы роднай зямлі. Адлучаць іх ад удзелу ў грамадскім жыцці, не даваць ім магчымасці сустракацца з вучнямі і студэнтамі (што робіцца, да прыкладу, па распараджэнні Міністра адукацыі Аляксандра Радзькова), замоўчваць іхнія творчыя дасягненні па меншай меры неразумна і стратна. Ад выпраўлення становішча тут значна выйграе міжнародны аўтарытэт, унутраная дзяржаўная палітыка, нацыянальная культура, літаратура, духоўнае жыццё грамадства.

Мы звяртаемся да кіраўнікоў міністэрстваў адукацыі, інфармацыі і культуры, да іх працаўнікоў у цэнтры і на месцах з заклікам усвядоміць сваю адказнасць за тое, што беларуская мова трапіла ў лік моў, якім пагражае знікненне. Нельга не прызнаць

аблудным і трагікамічным становішча, калі адзін з высокіх чыноўнікаў супакойвае грамадзян такім чынам: “Не бойцеся, беларуская мова не знікне, бо мы заўважылі тэндэнцыю. Чым больш прыціскаем, тым больш жадаючых вучыцца па-беларуску!” Хіба ёсць яшчэ ў свеце дзяржава, дзеячы ад адукацыі ў якой так бесцырымонна, адкрыта і беспакарана прызнавалі б свой уціск тытульнай нацыі?

Мы заклікаем міністраў інфармацыі і культуры Рэспублікі Беларусь выправіць перакосы з ужываннем моў у дзяржаўным перыядычным друку, кнігадрукаванні і кніжным гандлі, на тэлебачанні і радыё, у тэатрах і на канцэртных пляцоўках, у вытворчасці кінафільмаў, а таксама ў рэкламнай сферы.

Мы звяртаемся да прадстаўнікоў нацыянальных мен-шасцей у Беларусі, рускіх, палякаў, украінцаў, яўрэяў, татараў, паставіцца з разуменнем і павагай да нашай трывогі аб мове і нашых прапаноў – так, як са шчырай павагай, цікавасцю і любоўю мы ставімся да іншых моў і нацыянальных культур, якім, як і беларускай, належыць жыць, развівацца, ўзбагачаючы свет сваёй разнастайнасцю, шматколернасцю, спрыяючы абнаўленню духоўных каштоўнасцяў, у чым сакрэт устойлівага развіцця цывілізацыі.

Ад рашэння пазначаных тут пытанняў, безумоўна, выйгралі б усе, да каго мы звяртаемся, і выйграў бы кіраўнік незалежнай краіны, з прыходам якога да ўлады па нейкім дзіўным непаразуменні пачаўся новы этап дыскрымінацыі беларускай мовы, багаты склад якой, годнасць і прыгажосць прызнаны далёка ў свеце.

На нашай гаротнай зямлі адвыклі ад клопату пра свае нацыянальныя каштоўнасці, духоўныя скарбы – на тое былі пэўныя і зусім няпростыя гістарычныя прычыны, – народ сам сабе не належаў. Але ж цяпер дазвольце спадзявацца, што наш Зварот знойдзе водгук у вашых сэрцах і душах...”

**5 ліпеня.** Баранавіцкія сябры ТБМ адзначылі 20-ыя ўгодкі арганізацыі адмысловай культурніцкай акцыяй.

**18-19 ліпеня.** У Менску прайшоў Пяты з’езд Згуртавання беларусаў свету “Бацькаўшчына”. Удзел у форуме прымалі 215 дэлегатаў з 17 краін. У ліку запрошаных у з’ездзе ўдзельнічалі міністр культуры Павел Латушка, упаўнаважаны па справах рэлігій і нацыянальнасцяў Леанід Гуляка, прадстаўнікі МЗС, міністэрства адукацыі,

міністэрстваў інфармацыі, эканомікі, замежныя дыпламаты. На з’ездзе выступіў старшыня ТБМ Алег Трусаў. Па яго прапанове з’езд выказаўся за тое, каб наступны год абвясціць Годам роднай мовы. З’езд прыняў зварот ў падтрымку беларускай мовы.

## “Беларуская мова - аснова незалежнасці Беларусі”

### *Зварот 5-га з’езду беларусаў Свету*

Мова - адзін з галоўных здабыткаў і галоўная прыкмета сталасці любой нацыі. Беларуская мова за час свайго існавання перажыла некалькі этапаў. Ад дыялектаў да мовы дыпламатычных зносінаў, якой нараўне з лацінскай карысталіся на абшарах ад Эльбы да Урала, ад Балтыкі да Чорнага мора.

На жаль, на сённяшні дзень у Беларусі працягваюцца працэсы русіфікацыі, беларуская мова знікае з усіх сфераў ужытку: адукацыя, сродкі масавай інфармацыі, дзяржаўнае справаводства і інш. І гэта не гледзячы на тое, што з 1996 г. беларуская і руская мовы маюць роўны статус дзяржаўных. Але факты сённяшняга дня сведчаць пра тое, што на дзяржаўным узроўні падтрымліваецца толькі руская мова.

Да прыкладу: на сёння сайты многіх міністэрстваў, выканкамаў мясцовага ўзроўню не маюць паўнавартаснага беларускамоўнага варыянта, у банках краіны пасля ўвядзення сістэмы сканавання не прымаюцца плацёжныя дакументы на беларускай мове ад юрыдычных асобаў, узоры бланкаў накладных і ўсіх гаспадарчых дакументаў, падатковых дэкларацый зацверджаны толькі на рускай мове. Бланкі мытных дэкларацый па-беларуску былі аддрукаваныя толькі ў 2008 годзе і дасюль з’яўляюцца рэдкасцю на пунктах мытнага кантролю. Недапушчальная сітуацыя з беларускай мовай у сферы адукацыі. У Беларусі існуе некалькі беларускамоўных дашкольных установаў. На пачатку 2008-2009 навучальнага года колькасць вучняў усіх тыпаў школ склала 1 064 466, у тым ліку ў школах з беларускай мовай навучання - усяго 195 592 (18,4% ад агульнай колькасці), з рускай мовай навучання - 792 535 вучняў (74,4%). У параўнанні з мінулым навучальным годам колькасць агульнаадукацыйных установаў з беларускай мовай навучання паменшылася на 1,7%.

У бягучым навучальным годзе ў першых класах навучаюцца 91 290 вучняў, з якіх 73 579 (83,3% ад агульнай колькасці) навучаюцца на рускай мове, 14 712 (16,7% ) – на беларускай.

З агульнай колькасці навучэнцаў першых класаў агульна-адукацыйных устаноў, якія знаходзяцца ў гарадской мясцовасці, на беларускай мове навучаюцца 1,9 %, на рускай — 98,0%. Па сельскай мясцовасці гэтыя паказчыкі наступныя: на беларускай мове навучаюцца 68,6% вучняў, на рускай - 31,4%.

Сярод 54-х вышэйшых навучальных установаў няма ніводнай з цалкам беларускамоўным выкладаннем. Фактычна адбываецца дыскрымінацыя навучэнцаў па моўнай прыкмеце. Гэта пазбаўляе матывацыі бацькоў вучыць дзяцей па-беларуску не толькі ў Беларусі, але і ў асяродках беларусаў замежжа.

Беларуская мова фактычна не гучыць на частотах FM-радыё. Рашэнне дзяржавы аб 75% квоце абавязковага гучання беларускай музыкі ў дзённым радыёэфіры не прадугледзела канкрэтнага моўнага патрабавання. Такім чынам у эфіры гучыць беларуская музыка амаль 100% на рускай мове. Беларуская мова амаль знікла з усіх каналаў дзяржаўнага тэлебачання.

Пры заяўленай роўнасці беларускай і рускай моваў у Беларусі асноўныя фінансавыя сродкі беларускіх падаткаплацельшчыкаў выдаткоўваюцца на падтрымку толькі рускай мовы, якая такой падтрымкі не патрабуе. Мае месца фінансава-эканамічная дыскрымінацыя беларускай мовы.

Фактычная моўная сітуацыя ў нашай краіне прывяла да таго, што дзякуючы беларускаму чыноўніцтву на пачатку 2009 году ЮНЭСКА - уплывовая структура ААН, аднесла беларускую мову да моў, якім пагражае знікненне.

У сувязі з гэтым звяртаемся да ўсіх дзяржаўных органаў з патрабаваннем забяспечыць беларускай мове гарантаваны законам рэальны статус дзяржаўнай мовы, гарантаваць яе прысутнасць ва ўсіх сферах жыцця дзяржавы і грамадства, у тым ліку:

> спыніць русіфікацыю, забяспечыць роўнае з рускай мовай фінансаванне з дзяржаўных крыніц сфер ужытку беларускай мовы, -тым самым забяспечыўшы рэальнае раўнапраўе беларускай мовы як дзяржаўнай ва ўсіх сферах дзяржаўнага і грамадскага ўжытку;

> неадкладнага пачаць выпраўленне сітуацыі з мэтай хутчэйшага стварэння адукацыйных ланцужкоў “дзіцячы садок - школа - ВНУ”, якія дадуць магчымасць для кожнага беларуса атрымаць поўны курс адукацыі на сваёй роднай мове;

> прывесці ў адпаведнасць з колькасцю жыхароў Беларусі, для якіх беларуская мова з’яўляецца роднай (74% у 1999 г.), часу эфірнага вяшчання на беларускай мове дзяржаўных каналаў тэлебачання і радыё ў Беларусі;

> стварыць моўнае асяроддзе ў гарадах і вёсках Беларусі

праз вонкавую рэкламу на беларускай мове назваў дзяржаўных установаў, крамаў, кавярняў, назваў вуліц і інш.;

> штогод выдзяляць адпаведныя фінансавыя сродкі на падтрымку беларускіх садкоў, школ, класаў у асяродках беларусаў замежжа;

> стварыць усе ўмовы для папулярызацыі беларускай мовы сярод насельніцтва нашай краіны з мэтай далейшага надання нашай мове статусу адзінай дзяржаўнай у Рэспубліцы Беларусь.

Заклікаем усіх грамадзян Рэспублікі Беларусь, незалежна ад месца іх сталага пражывання, прыняць актыўны удзел у чарговым (пасля 1999 г.) перапісе насельніцтва Беларусі, які адбудзецца ў бягучым, 2009 годзе, і ад вынікаў якога на дзесяць бліжэйшых гадоў будзе залежаць лёс нашай роднай мовы і культуры, беларускамоўнай адукацыі, кнігавыдавецкай справы і палітыкі ўладаў у галіне рэкламы і візуальнай інфармацыі.

**22 ліпеня.** Праз газету "Наша слова" Сакратарыят ТБМ звярнуўся да грамадскасці з пастановай "Аб святкаванні 20-ых угодкаў ТБМ". У пастанове паведамляецца наступнае: 1) склікаць чарговую Раду ТБМ 27 верасня 2009 г. у г. Менску, дзе будуць разгледжаны наступныя пытанні: а) зварот да Адміністрацыі Прэзідэнта РБ з прапановай абвесціць 2010 г. Годам роднай мовы; б) зварот да грамадзян Беларусі з нагоды чарговага перапісу; 2) правесці святочную вечарыну з нагоды юбілею ТБМ.

**26 ліпеня.** Лідская гарадская арганізацыя ТБМ імя Францішка Скарыны пры падтрымцы моладзевых арганізацый Лідчыны ў 15-ты раз падрад зладзіла ўшанаванне памяці паўстанцаў 1863 года ва ўрочышчы "Крыжы" паміж вёскамі Малое Ольжава і Мохавічы Лідскага раёна, а таксама ўсклалі кветкі да магілаў герояў паўстання ксендза Адама Фалькоўскага ў Лідскім гарадскім парку і Валерыі Цехановіч на старых каталіцкіх могілках.

**30 ліпеня.** У Лідскі гістарычна-мастацкі музей пры садзейнічанні Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ імя Ф. Скарыны перададзены больш за 80 партрэтаў беларускіх пісьменнікаў, якія належалі Саюзу беларускіх пісьменнікаў і раней знаходзіліся ў Менску ў Доме літаратара ў г. Менску і ў Доме адпачынку "Іслач" у Валожынскім раёне.

**Ліпень**

Да 20-годдзя ТБМ выдадзены юбілейны значок і юбілейны

каляндарык (дызайн Ігара Марачкіна).

**8 жніўня.** У лідскім кінатэатры “Юбілейны” беларускамоўная моладзь арганізавала паказ фільма “Тутэйшыя”, знятага тэлеканалам “Белсат” па аднайменнай п’есе Янкі Купалы.

**9 жніўня.** Сябры Магілёўскай арганізацыі ТБМ здзейснілі вандроўку памяці старшыні старшыні суполкі ВА “Хімвалакно” Лявона Драздова па маршруту: Княжыцы - Галоўчын - Тубышкі - Друцк.

**11 жніўня.** Баранавіцкія сябры ТБМ сабралі і накіравалі ў Міністэрства культуры Беларусі і Баранавіцкі райвыканкам прапановы па захаванні і адраджэнні гістарычнай спадчыны ў Баранавіцкім раёне.

**Сярэдзіна жніўня**

Кіраўніцтва Магілёўскай вобласці выступіла з ініцыятывай абвясціць 2010 год Годам роднай моы.

**27 жніўня.** Сакратарыят ТБМ спецыяльнай заявай падтрымаў ініцыятыву кіраўніцтва Магілёўскай вобласці па абвяшчэнні 2010 года Годам роднай мовы.

**31 жніўня.** У Гародні адбылося паседжанне Гарадзенскай абласной рады ГА “ТБМ імя Францішка Скарыны”.

**Жнівень**

Да 20-годдзя ТБМ выдадзены юбілейны буклет.

Выйшла кніга паэзіі старшыні арганізацыі ТБМ Лідскага каледжа Міхася Мельніка “Лодка жыцця”.

# СПІС ІЛЮСТРАЦЫЙ

# ЗМЕСТ

**Летапіс дзейнасці Грамадскага аб’яднання “Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны”. 1989 - 2009.**

Сабраны Сакратарыятам ТБМ і рэдакцыяй газеты “Наша слова” паводле звестак, знойдзеных у СМІ, у архівах арганізацый Таварыства, у пратаколах з’ездаў, радаў і сакратарыятаў. Утрымоўвае інфармацыю пра дзейнасць ТБМ за перыяд ад Устаноўчага з’езду 27 чэрвеня 1989 года да 31жніўня 2009 года. — Ліда, 2009. 164 с. + 36 с. ілюстрацый. Размножана на правах рукапісу.

Укладальнікі: С. Багданкевіч, Т. Вабішчэвіч, Ю. Карчагіна,
І. Марачкіна, С. Суднік, А. Трусаў, Дз. Тушынскі.
Рэдактар: Алег Трусаў.
Тэхнічны рэдактар: Станіслаў Суднік.

Папера афсетная. Фармат А-5. Гарнітура “Таймс”.
Наклад 299 асобнікаў.



**Помнік Францішку Скарыну ў Лідзе, пастаўлены з ініцыятывы Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ імя Ф. Скарыны ў 1993 г.**




**Тытульны ліст "Дэкларацыі аб беларускай мове". Дызайн Ігара Марачкіна**




**Інфармацыйна-даведачны буклет ТБМ.
Дызайн Ігара Марачкіна**

**Канферэнцыя “Закон аб мовах - вынікі і перспектывы”**






**На канферэнцыі выступае Ніл Гілевіч**




**На канферэнцыі выступае акадэмік А. Падлужны**



**Адданыя Беларушчыне сябры ТБМ ксяндзы Уладзіслаў Завальнюк і Уладзіслаў Чаняўскі на імшы ў касцёле Св. Сымона і Алены ў Менску**



**Старшыня ТБМ ў 1997-99 гг. Генадзь Бураўкін**



**Сябар ТБМ, нязломны змагар за Беларушчыну Леанід Лыч**




**Рэдактар “Нашага слова” ў 1990-1997 гг. Эрнэст Ялугін**
**і пісьменнік Уладзімір Содаль абмяркоўваюць нумар газеты**



**Рэдакцыя газеты “Наша слова” ў 1996 годзе**




**Шапік ТБМ на праспекце Ф. Скарыны ў Менску**




**“Наша слова” цікава маладым**



наша слова

З Новым 2005 годам!

З юбілеем, Вольга Міхайлаўна!

Апошні нумар “Нашага слова” за 2004 год



Новы Час

Ад званка да званка

Пазіцыя НЧ

Сукупна зробім болей і лепш

Першы нумар газеты Менскай гарадской арганізацыі ТБМ “Новы час”


Тэлескоп

У НУМАРЫ: 2 ст. 3 ст. 4 ст. 5-8 ст.

З Калядамі і Божым нараджэннем!

Вяртанне памяці

200-ты нумар газеты Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ “Тэлескоп”


Лідзкі Летапісец

У НУМАРЫ:

Стар. 3 Кроніка Ліды

Стар. 4 Кроніка ойкумены

Стар. 7 В. Сьлўкін "Заснаваньне Ліды"

Стар. 10 Італьянцы на Гараджаншчыне

Стар. 11 Беларусы на Куліковым полі

Стар. 15 Зенавіт Фадзукі "На Беларусі мне найлепей"

Стар. 18 "У маленькім горадзе Лідзе..."

Стар. 21 С. Суднік. Паэма "Ліда"

Часопіс Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ “Лідскі летапісец” № 1 за 1997 г.




Часопіс Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ “Ад лідскіх муроў” № 6.



Рагнеда

Усе— на выбары!

„Веру ў шчасны лёс Беларусі"

**Газета Салігорскай раённа-гарадской рады ТБМ “Рагнеда”**
**№ 1 (8) за лістапад 1995 г.**



КАРДОН

№14 верасень 2000

Інфармацыйна-публіцыстычны бюлетэнь Бешанковіцкай суполкі "Таварыства беларускай мовы"

ВІНШУЕМ НАСТАЎНІКАЎ З ІХ ПРАФЕСІЙНЫМ СВЯТАМ !

Радзіма

**Інфармацыйна-публіцыстычны бюлетэнь Бешанковіцкай суполкі ТБМ “Кардон” № 14 за верасень 2000 г.**



№10 Лістапад 2000

Бацькаўшчына

Сьвята яўрэйскай кнігі

Радаводы знакамітых

**Бюлетэнь Шаркаўшчынскай арганізацыі ТБМ “Бацькаўшчына” № 10 за лістапад 2000 г.**



Не пакідайце ж мовы беларускай!

# Рубон

№ 7 (24)
червень 2002

БЮЛЕТЭНЬ
Верхнядзвінскай раённай рады
Грамадскай арганізацыі ТАВАРЫСТВА
БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ ІМЯ ФРАНЦЫСКА
СКАРЫНЫ

**Бюлетэнь Верхнядзвінскай раённай арганізацыі ТБМ**
**“Рубон” № 7 (24) за чэрвень 2002 г.**



# Ветразь надзеі

№5, люты
2003 года

Газета Слонімскай суполкі
Таварыства беларускай мовы
імя Францішка Скарыны

## Паланез Агінскага

(Калектыўны верш)

## Жывеш не вечна чалавек...

У канцы студзеня пад такой

**Газета Слонімскай суполкі ТБМ “Ветразь надзеі”**
**№ 5 за люты 2003 г.**



МАЗЫРСКІЯ ВЕДАМАСЦІ №7/2000 3

# Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны

*Наша мова для нас святая,*
*яна нам богам дана...*
Францішак БАГУШЭВІЧ.

Беларуская мова – аснова і складовая частка кожнага з нас. Яна дае нам больш глыбокае разуменне саміх сябе, звязвае нас з нашым мінулым.

Беларуская мова – унікальная мова, створаная шматлікімі пакаленнямі нашых папярэднікаў [illegible] тага, каб дапамагае ў вывучэнні іншых моў, асабліва славянскіх і заходнееўрапейскіх. Яна пашырае разумовыя здольнасці дзіцяці і дае разуменне розных моўных структур. Беларуская мова дае людзям давер да саміх сябе і ўменне праявіць з іншымі мовамі і культурамі.

Беларуская мова была перададзена нам нашымі папярэднікамі. Справа гонару для нас – перадаць яе



**Лісток ТБМ “Мазырскія ведамасці”**
**№ 7 за 2000 г.**



Інфармацыйны бюлетэнь

Сьветлагорскай раённай арганізацыі грамадзкага аб'яднаньня «Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны».

№ 2 (4). Ліпень, 2005

Сябра ТБМ – у вымушанай эміграцыі

“Інфармацыйна бюлетэнь” Светлагорскай раённай арганізацыі ТБМ № 2 (4) за ліпень 2005 г.



Газэта Магілёўскага ТБМ імя Ф. Скарыны

mahilou.org

№1(1), 2008

Імгненьні 2007 года

Ад Рэдакцыі

Вы трымаеце ў руках першы нумар газэты Магілёўскай гарадзкой арганізацыі Таварыства Беларускай мовы імя Францішка Скарыны. Гэтым разам наша газэта найперш прысьвечаная ўсяму, што

“Газета Магілёўскага ТБМ” № 1 (1) за 2008 г.



Ліцэйская Ніва

люты 2008 | грамадскае выданне ліцэістаў МДАЛ №1 горада Магілёва | №1(1)

115 гадоў з дня нараджэння Максіма Гарэцкага

У літаратуру М.Гарэцкі прыйшоў усяго праз некалькі гадоў пасля Купалы і Коласа. У яго літаратурным маніфесце "Развагі і думкі" выказана мара : "Прозы, прозы, добрай мастацкай прозы беларускай дайце нам! Каб на стале каля тоўстай кніжкі вершаў "Шляхамі жыцця" ляжала б не ценейшая кніжка прыгожай прозы."

Нарадзіўся пісьменнік 18 лютага 1893г. у вёсцы Малая Багацькаўка ў сям'і малазямельных сялян. У 8 гадоў Максім пайшоў у школу граматы ў Вялікай Багацькаўцы. Затым перайшоў у царкоўна-прыходскую школу ў Вольшы. У 1909г. паступіў у Горы-Горацкае каморніцкае вучылішча, дзе ўдзельнічаў у гуртку аматараў прыгожага пісьменства. Гуртkоўцы выпісвалі "Нашу Ніву". Максім

Грамадскае выданне ТБМ “Ліцэйская ніва” МДАЛ №1 г. Магілёва № 1 (1) за 2008 г.



ПРАДМОВА

Лісток моладзі Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ

№1 (4) 2 ЛЮТАГА

ЧАЦВЁРТЫ НУМАР

Так, спадарства, нумар 4... Першы ў 2009 годзе... Распачнем гэтыя 12 месяцаў з падвядзення вынікаў нашай працы... Нягледзячы на невялікі аб'ём лістка, мы спрабавалі даваць самую цікавую і актуальную на сённяшні дзень інфармацыю. [illegible]

... максімальна магчымую падтрымку... Проста цудоўна. У нас не было іншага выбару, як згадзіцца. І мы згадзіліся. Моладзь Лідскага ТБМ гатовая да супрацоўніцтва з любымі людзьмі, нягледзячы на іх [illegible]

1. Арганізацыя актыўнасці ТБМ Лідскага каледжа на 2009 год;
2. Правядзенне моладзевага семінару на тэму "Праблемы папулярызацыі нацыянальных каштоўнасцяў у моладзевых [illegible]

**Лісток моладзі Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ**
**№ 1 (4) за люты 2009 г.**




**Праграма навуковай канферэнцыі да 160-годдзя з дня нараджэння Францішка Багушэвіча ў Бярэсці 10-11 лістапада 2000 г.**




**Часопіс Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ "Лідскі летапісец" № 1 (41) за 2008 г.**




**Кніга ТБМ “Аняменне”**




**“Беларускі спеўнік”, выдадзены Гарадзенскай абласной арганізацыяй ТБМ**

ПА-БЕЛАРУСКУ

**БЕЛАРУСКІ МЕСЯЧНІК “РАЗМАЎЛЯЕМ ПА-БЕЛАРУСКУ”**

Большасць з нас ведае родную мову - тытульную мову нашай дзяржавы. Але пра нас гавораць: беларус - гэта нямы, гэта той, хто баіцца размаўляць на сваёй роднай мове. Мы прапануем правесці месячнік беларускай мовы накшталт месячнікаў бяспекі дарожнага руху. Тым болей, што на пачатку верасня ў старажытным Міры пройдзе афіцыйнае святкаванне Дня беларускага пісьменства.

Дзеля гэтага не трэба выходзіць на дэманстрацыі і падаваць заяўку на пікеты. Кожны сам можа стаць узорам абаронцы мовы для родных, блізкіх, сяброў і прыяцеляў. Павітайся па-беларуску, скажы калегу ці суседу ранкам "Добрыдзень", увечары па-беларуску развітайся,скажы "Дабраноч". Прачытай свайму дзіцяці ў роднай мове добры вершык. Можа ён яго вывучыць. Напішы знаёмаму паштоўку ці ліст па-беларуску. Ці пры аплаце камунальных рахункаў запоўні па-беларуску квіток. Падзякуй чалавеку за добрую справу на роднай мове.

Кожны сам можа ацэньваць меру свайго ўдзелу ў месячніку беларускай мовы. Калі гавораць па-беларуску трое,то далучыцца і чацверты, які не меў смеласці пачынаць такую гаворку сам. Можа, мы зробім так, што беларуская мова стане звычкай. Ніхто апрача нас гэта рабіць не будзе.

Адзнач Дзень беларускай пісьменнасці беларускім словам. Табе ёсць чым ганарыцца. Гэта на тваёй мове, мове тваіх дзядоў размаўлялі і друкавалі свае кнігі Францішак Скарына, а ён быў больш разумны, чым мы.

Памятай пра лепшых. Будзь сабой. Будзь першы.

Са сваімі прапановамі і пажаданнямі ты можаш звярнуцца ў сядзібу Таварыства беларускай мовы.

**Мінск, вул. Румянцава, 13 ∘ Тэл. 284 85 11**

**Рэкламны плакат ТБМ**




**“Летапіс ТБМ”, выдадзены з нагоды 15-годдзя Таварыства 2005 г.**




**“Шануйце роднае слова”, анталогія твораў лідскіх літаратараў пра беларускую мову. 2008 г.**




**“Яго чакала Беларусь чатыры стагоддзі. Мікола Ермаловіч.” Выдадзена сябрамі ТБМ і сябрамі клуба “Спадчына”**



**Значкі ТБМ. Ніжні выдадзены да 20-годдзя Таварыства**



1.




2.




3.



4.



5.




6.




7.




8.




9.

**Каляндарыкі, выдадзеныя ТБМ. 1. Дызайн Уладзіміра Цярохіна**
**2-9. Дызайн Ігара Марачкіна**



10.



11.



12.

**Каляндарыкі, выдадзеныя ТБМ. 10-12. Дызайн Ігара Марачкіна**




**Канверт, выпушчаны да 15-годдзя ТБМ**




**Канверт, выпушчаны да 20-годдзя ТБМ**





**Паседжанні Сакратарыяту ТБМ**







**Мандаты дэлегатаў III і VII з’ездаў ТБМ**

Рэспубліканскае грамадзкае аб'яднаньне
"Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны"

Пасьведчаньне №

Сябра

Дата атрыманьня

Старшыня ТБМ




Рэспубліканскае грамадзкае аб'яднаньне
"Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны"

Пасьведчаньне №

Сябра




**Пасведчанні сяброў Грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны"**




**Сябар ТБМ Міхась Булавацкі арганізуе беларускамоўную матэматычную алімпіяду ў Магілёве**



**Сябры ТБМ у кінатэатры “Змена” на імпрэзе, прысвечанай 160-тым угодкам з дня нараджэння Францішка Багушэвіча, 21.03.2000 г.**



**Актывістка ТБМ Раманцэвіч В.К. з удзельнікамі творчага літаратурнага аб’яднання “Маладзічок” МДПК № 1**



**Заснавальнік Магілёўскай абласной рады ТБМ Яраслаў Клімуць**



**Актывіст ТБМ гісторык Анатоль Валахановіч**



**Старшыня ТБМ Алег Трусаў і адказны сакратар Ірына Марачкіна віншуюць сябра ТБМ, Народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна з днём народзінаў**



**Старшыня ТБМ Алег Трусаў віншуе сябра ТБМ мастака Аляксея Марачкіна з юбілеем**



**Сябры ТБМ на ўстаноўцы помніка Ларысе Геніюш у Зэльве**



**Сябры ТБМ на ўстаноўцы памятнага знака Міколу Ермаловічу ў Маладэчне**



**Імша ў гонар паўстанцаў 1863 года, арганізаваная Лідскімі арганізацыямі ТБМ паміж вёскамі Малое Ольжава і Мохавічы Лідскага раёна**



**Лідскія арганізацыі ТБМ адкрываюць мемарыяльны крыж у памяць лідскай шляхты ў в. Беліца Лідскага раёна, за які ТБМ атрымала папярэджанне ад Мінюста**



**Сябры Лідскай Слабадской суполкі ТБМ на расчыстцы сядзібы Ігната Дамейкі ў Заполлі Лідскага раёна**



**Сябры арганізацыі ТБМ Лідскага каледжа на магіле Міністра БНР, генерала ад інфантэрыі Кіпрыяна Кандратовіча ў г.п. Воранава**



**Гарадзенская абласная канферэнцыя ТБМ**



**Сябры арганізацый ТБМ Гарадзеншчыны ў Якушоўцы на святкаванні 140-х угодкаў паўстання 1863 года**



**ТБМ Віленскага краю адкрывае мемарыяльную дошку ў гонар Францішка Багушэвіча**



**Старшыня ТБМ Алег Трусаў і першы старшыня Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ Міхась Мельнік ускладаюць вянок да помніка Ф. Скарыну ў Лідзе ў дзень 10-годдзя яго ўстаноўкі**




**Сябры ТБМ на прыступках Вярхоўнага Суда Рэспублікі Беларусь**



**Сябры ТБМ збіраюць ахвяраванні на дзейнасць Таварыства**




**Сябры ТБМ Магілёўскай абласной арганізацыі падчас вандроўкі памяці Лявонв Драздова. 2009 г.**



**Баранавіцкія сябры ТБМ адзначаюць 20-годдзе Таварыства**



**Вера Рамук і сябры ТБМ у Чыкага**




**Іркуцкае беларускае зямляцтва, якое цесна супрацоўнічае з ТБМ**




**Севастопальскае беларускае зямляцтва, якое цесна супрацоўнічае з ТБМ**



**Сябры Севастопальскага беларускага зямляцтва на магіле Максіма Багдановіча ў Ялце**



**І Агульнанацыянальная дыктоўка ў сядзібе ТБМ**



**І Агульнанацыянальная дыктоўка. Пішуць амбасадары Славакіі, Украіны і рэдактар “народнай волі” Іосіф Сярэдзіч**



**I Агульнанацыянальная дыктоўка. Пішуць амбасадар Швецыі і дырэктар БелаПАН Алесь Ліпай**



**I Агульнанацыянальная дыктоўка ў Віцебску, у цэнтры старшыня Віцебскай абласной арганізацыі ТБМ**



II Агульнанацыянальная дыктоўка ў Лідзе



II Агульнанацыянальная дыктоўка ў Бярозаўцы Лідскага раёна